Класавай барацьбы,—кажа,—няма, змагацца не трэба, на тым свеце будзе жыць лягчэй.

Вось куды накіроўвае рэволюцыйны рух Заходняй Беларусі Бартуль і інш.

## Заключэнне і вывады

Таварышы, каб коратка абагуліць сказанае мною па пытаннях совецкай літаратуры БССР, я не магу не спаслацца на ўсім вам вядомую пастанову бюро ЦК КП(б)Б «Аб ходзе падрыхтоўкі да першага Ўсебеларускага з'езда пісьменнікаў». У гэтай пастанове сказана наступнае:

> «Беларуская совецкая літаратура прыходзіць да Ўсебеларускага і Ўсесаюзнага з'ездаў пісьменнікаў са значнымі поспехамі. Гэтыя поспехі забяспечаны ростам соцбудаўніцтва ў краіне, арганізацыйнай перабудовай пісьменніцкай арганізацыі на аснове пастановы ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. і ЦК КП(б)Б ад 27 мая 1932 г., ачысткай літаратуры ад нацыяналістычных элементаў, узмацненнем класавай пільнасці і мабілізацыяй пісьменнікаў для актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве пад непасрэдным кіраўніцтвам КП(б)Б і яе ЦК.
>
> Павысілася творчая і грамадская актыўнасць як старэйшага пакалення пісьменнікаў (Колас, Купала, Бядуля), так і ўсіх пісьменнікаў БССР. Вырасла кіруючая роля ў пролетарскай літаратуры і комуністаў-пісьменнікаў (Александровіч, Харык, Лынькоў, Браніштэйн). Вырасла рабочая і сялянская пісьменніцкая моладзь, ёсць значны пералом у развіцці маладой польскай і літоўскай літаратуры».

Гэта заслужаная ацэнка гаворыць аб вялікім росце нашых совецкіх пісьменнікаў, якія працуюць пад кіраўніцтвам ленінскай партыі і яе вялікага правадыра тав. **Сталіна**.

Высокая і заслужаная ацэнка нашай совецкай беларускай літаратуры, даная к з'езду пісьменнікаў Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б, абавязвае вас, таварышы пісьменнікі, не самазаспакойвацца, а яшчэ больш мабілізавацца ў сваёй рабоце, каб быць на ўзроўні тых патрабаванняў, якія пастаўлены перад вамі грандыёзнымі задачамі другога пяцігоддзя. Памятайце, таварышы, што няма нічога больш небяспечнага, як самазаспакоенасць і ап'яненне поспехамі. Памятайце, што поруч з бясспрэчнымі поспехамі наша совецкая беларуская літаратура мае яшчэ і вялікія недахопы. Аб гэтых недахопах Бюро ЦК КП(б)Б у прыведзеным вышэй рашэнні сказала наступнае:

> «Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што літаратура БССР усё яшчэ адстае ад павышаных запатрабаванняў да яе з боку палітычна і культурна вырасшых рабочых і калгасных мас.
>
> а) маруднымі тэмпамі ідзе асваенне вытворчай тэматыкі, абсалютна недастаткова распрацоўваецца абаронная тэматыка;
>
> б) якасць літаратуры (глыбіня ідэй, навуковая аснова твораў, цікавасць сюжэта, паказ станоўчага вобраза ўдарніка, комуніста) усё яшчэ з'яўляецца недастатковай;
>
> в) астаецца нездавальняючай работа з літаратурным маладняком па лініі оргкамітэта і поўная адсутнасць работы па лініі ДВБ, профсаюзаў, рэдакцыі газет і часопісаў;

г) оргкамітэт ССПБ, пераключыўшыся з арганізацыйных на вытворчыя пытанні, не дасягнуў яшчэ патрэбных якасцей у гэтай рабоце. Газета «ЛІМ» не стала арганізатарам творчых пытанняў і не ўзначальвае дапамогі пісьменніку ў яго ідэйна-мастацкім росце;

д) літаратурная крытыка ўсё яшчэ астаецца найбольш слабым участкам літаратурнага руху і не дае патрэбнай канкрэтнай дапамогі пісьменніку».

Гэтыя ўказанні абавязваюць вас к таму, каб моцна, па-большэвіцку мабілізавацца на ліквідацыю пералічаных недахопаў і забяспечыць далейшы, яшчэ больш быстрэйшы якасны ідэйна-мастацкі рост літаратуры БССР на аснове аўладання вамі—пісьменнікамі—метадам соцыялістычнага рэалізма.

Трэба так пісаць, як гаварыў тав. Постышаў у пісьме к першаму Ўсеукраінскаму з'езду пісьменнікаў, каб працоўныя яшчэ больш любілі совецкую літаратуру, а чытачы яшчэ мацней любілі сваю краіну Советаў. Для гэтага трэба вучыцца, вучыцца па-сапраўднаму, не перастаючы. Для гэтага трэба ведаць жыццё, ведаць яго добра. Жыццё-ж наша цяпер, як ніколі, вялікае і глыбокае, шматграннае і багатае. Вывучаць жыццё з габінета нельга, у яго трэба акунуцца, як кажуць, з галавою. Не будучы на прадпрыемстве, у калгасе, МТС, соўгасе—вы не будзеце ведаць тых людзей, якія будуюць гэта новае жыццё.

Умела, у яркіх фарбах адлюстроўваць новае жыццё—вучыць вас выдатны чалавек эпохі **А. М. Горкі.** Гэты вялікі майстар эпохі, інжынер душы перамогшага пролетарыята, настаўнік мастацкага слова для мільёнаў, парваўшых свае ланцугі гнёту, варварства, здзічэння, правадыр і настаўнік пролетарскай совецкай літаратуры, які здолеў упітаць у сябе ўсю лепшую перадавую, прагрэсіўную спадчыну мінулага. Палітычна востра і па-большэвіцку прынцыпова ставіць Горкі перад совецкай літаратурай **пытанні якасці.** Лозунг правадыра нашай партыі тав. Сталіна па аўладанню тэхнікай папулярызован у пісьменніцкім асяроддзі з дастатковай яснасцю і пераканальнасцю Алексеем Максімавічам Горкім. Стоячы каля руля нашай літаратуры, ён з геніяльнасцю вялікага мастака праўдзіва ацаніў велізарнейшае значэнне нашай літаратуры вялікай эпохі, літаратуры, якая мае каласальнае агітацыйнае і выхаваўчае значэнне для мільённых мас.

Вашы творы, таварышы, павінны быць радасныя, прыгожыя, хвалюючыя. Яны будуць такімі, калі вы не спыняючыся будзеце працаваць над аўладаннем тэхнікай мастацкага слова так, як авалодвае і ўладае ёю Горкі.

Па ініцыятыве А. М. Горкага за апошні час арганізавана творчая работа лепшых пісьменнікаў над «Гісторыяй фабрык і заводаў». Рыхтуюцца і хутка будуць выданы творы пра лепшых людзей першай і другой пяцігодкі, кнігі па гісторыі грамадзянскай вайны і т. д. Уся гэта работа мае асабліва важнае значэнне і вялікую як літаратурную, так і палітычную каштоўнасць. Але, на жаль, беларускія пісьменнікі здорава адстаюць у справе ўдзелу ў стварэнні гэтых вялікіх помнікаў нашай гераічнай эпохі. Вось чаму адным з рэзультатаў з'езда павінна быць узмацненне работы па гэтай лініі. Гэтыя работы маюць буйнейшае значэнне яшчэ і як школа пісьменнікаў, бо пісьменнікі пры гэтай рабоце не толькі сумесна пішуць, але і рэдагуюць адзін аднаго, вучацца адзін у аднаго літаратурнаму майстэр-

ству, накапляюць матэрыял, вучаць маладых пісьменнікаў такой вялікай справе, якой з'яўляецца ўменне валодаць мастацкім словам.

Таварышы, паралельна і адначасова з вашым ростам растуць **рэволюцыйныя** пісьменнікі Заходняй Беларусі пад кіраўніцтвам КПЗБ. Яны, не гледзячы на нечуваны тэрор і зверствы польскага фашызма, горда і смела змагаюцца вялікай сілай мастацкага слова з белапольскім фашызмам і яго памочнікамі—нацыянал-фашыстамі. У процівагу нацыяналістычнай абмежаванасці заходне-беларускіх буржуазных паэтаў і пісьменнікаў, у процівагу іх заалагічнаму шавінізму,—рэволюцыйныя пісменнікі Заходняй Беларусі, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, у сваіх літаратурных творах адлюстроўваюць ідэю адзінства працоўных усіх народаў і барацьбу працоўных усіх краін свету, плячо ў плячо з пролетарыятам, пры гегемоніі пролетарыята.

У той час, калі ў нацыянал-фашысцкай літаратуры беспадзельна пануе ўпадніцтва, багема, страх перад грознай зданню немінучай пролетарскай рэволюцыі,—у творах рэволюцыйных пісьменнікаў Заходняй Беларусі гучыць бадзёрасць, адважнасць, смеласць і непахісная вера ў справу канчатковай перамогі пролетарыята, у справу трыумфа ідэй соцыялізма не толькі на адной шостай, але і на ўсіх шасці шостых зямнога шара, г. зн. ва ўсім свеце.

Магутны размах рэволюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, грандыёзныя поспехі нацыянальна-культурнага соцыялістычнага будаўніцтва Совецкай Беларусі—з'яўляецца вернай парукай таму, што рэволюцыйная літаратура Заходняй Беларусі будзе і надалей няўхільна існі па лініі быстрага росту на страх ворагам, на радасць працоўным. Наш творчы рост натхняе рэволюцыйную літаратуру Заходняй Беларусі.

Канчаючы, скажу некалькі слоў аб арганізацыйнай рабоце оргкамітэта. Оргкамітэт прарабіў вялікую работу ў галіне згуртавання пісьменніцкіх кадраў. Кіраўніцтва работай пісьменнікаў з боку оргкамітэта трэба прызнаць у асноўным здавальняючым. Тая перабудова, якая праводзілася оргкамітэтам у напрамку павароту тварам непасрэдна да творчага працэсу, да творчай работы пісьменніка, павінна быць значна паглыблена. Трэба не рабіць лішніх паседжанняў і непатрэбных нагрузак пісьменніка. Калі гаварыць аб бліжэйшай рабоце саюза пісьменнікаў, то неабходна сказаць, каб пісьменніцкія арганізацыі больш займаліся творчымі пытаннямі. Кожнае паседжанне павінна разабраць творчасць якога-небудзь пісьменніка. Менш канцэляршчыны ў рабоце камітэта пісьменнікаў і больш творчага кіраўніцтва.

Трэба работу кіруючага органа Саюза Совецкіх Пісьменнікаў Беларусі арганізаваць на аснове далейшага інтэрнацыянальнага выхавання пісьменніцкіх кадраў, рашучай барацьбы супроць нацыяналізма, супроць беларускага нацыяналізма, супроць рускага вялікадзяржаўнага шавінізма, супроць усіх праяўленняў нацыяналізма і ўсякіх нацыяналістычных ухілаў.

Непрымірымая барацьба супроць буржуазнага нацыяналізма, супроць новых форм супраціўлення класавага ворага ў справе соцыялістычнага будаўніцтва, з'яўляецца першачарговай задачай совецкай літаратуры БССР. Важна ўмець распазнаваць і выкрываць новыя формы праяўлення буржуазнага нацыяналізма, ускрыць сувязь буржуазнага нацыяналізма ў літаратуры з яе агульна-палітычнымі ўстаноўкамі на новым этапе. Неабходна змагацца за павышэнне большэ-

віцкай пільнасці на літаратурным фронце, за кваліфікаваную марксісцкую крытыку і бязлітаснае выкрыццё работы «ціхай сапай» у літаратуры, прыкрытую маскай лаяльнасці і нават спачування совецкай уладзе.

Дазвольце закончыць свой даклад наступнымі словамі, выказанымі тав. **Л. М. Кагановічам** на XVII з'ездзе нашай партыі:

> «Нашы перамогі з'явіліся рэзультатам таго, што на чале нашай партыі стаіць чалавек, які здолеў мабілізаваць масы з такой-жа рашымасцю і няўхільнасцю, як і Ленін, абараніць чыстату вучэння Маркса—Леніна, здолеў абагаціць гэта вучэнне, здолеў высока падняць сцяг барацьбы за соцыялізм, здолеў распазнаць агентуру класавага ворага ў нашай партыі, здолеў запаліць агнём энтузіязма партыю, рабочы клас і працоўнае сялянства і рушыць гэтую вялікую армію працы на апошні штурм капіталізма ў нашай краіне, на пабудаванне пераможнага соцыялістычнага грамадства».

Гэты чалавек—вялікі **Сталін.** Пад кіраўніцтвам яго наша краіна з герaічнай упорнасцю ідзе па шляху да поўнай перамогі соцыялізма. Пад яго кіраўніцтвам ва многа раз павысілася якасць і колькасць творчай работы совецкіх пісьменнікаў, асабліва пасля пастановы ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка. Пад яго кіраўніцтвам краіна нараджае і выхоўвае атрады таленавітых мастакоў і стварае такое вялікае і нябачанае мастацтва, якое непамерна перавысіць мастацтва мінулых вякоў. Інакш і быць не можа. Бо толькі такім можа быць і будзе мастацтва соцыялістычнага будаўніцтва **(бурныя, доўгія апладысменты).**

---

Е. Б. Пашуканіс

# Барацьба з бюракратызмам на сучасным этапе*)

Значэнне барацьбы з бюракратызмам у нашым совецкім дзяржаўным гаспадарчым апараце, ва ўсіх нашых арганізацыях выцякае з таго, што ў другой пяцігодцы мы ставім перад сабой задачу ліквідаваць перажыткі капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей. А адной з перашкод на шляху да ліквідацыі гэтых перажыткаў, адным з перажыткаў капіталізма з'яўляюцца бюракратычныя скрыўленні, якіны бюракратызм у нашым апараце, у нашых совецкіх, дзяржаўных і гаспадарчых арганізацыях. Пры гэтым бюракратызм у совецкай дзяржаве не выцякае з самога прынцыпа асноў і сутнасці совецкай дзяржавы. Наадварот, Октябрская рэволюцыя, якая разбіла апарат буржуазнай дзяржаўнай машыны, зніштожыўшы дзяржаву памешчыкаў і капіталістаў, стварыла дзяржаву пролетарскую, стварыла лад, у якім закладзены магчымасці канчатковага пераадалення і выкаранення астаткаў бюракратызма.

Бюракратызм у буржуазнай дзяржаве выцякае з самой сутнасці, з самой яе прыроды, паколькі буржуазная дзяржава і існуе для таго, каб забяспечыць капіталісту і памешчыку магчымасць эксплаатаваць наёмную працу, трымаць у паслухмянстве наёмных рабоў, а ў выпадку, калі яны паўстануць супроць эксплаатататараў,—падаўляць іх самымі жорсткімі мерамі.

Буржуазная дзяржава не абмяжоўваецца адным толькі простым падаўленнем, простым насіллем з дапамогай паліцыі, арміі, судоў. Буржуазная дзяржава ўжывае больш тонкія способы падначальвання, адурманьвання народных мас пры дапамозе царквы, буржуазнай школы, буржуазнай навукі.

Капіталістычная дзяржава невялікімі падачкамі разбэшчвае частку дробнай буржуазіі і рабочую арыстакратыю, ператвараючы іх у сваю зброю.

Прадстаўнікі буйнай буржуазіі і памешчыкаў займаюць камандныя пасты, яны накіроўваюць палітыку дзяржавы, яны аддаюць загады, а выканаўцамі гэтых загадаў з'яўляюцца ніжэйшыя служачыя, большай часткаю выхадцы з радоў, галоўным чынам, дробнай буржуазіі, якая імкнулася высоўваць сваіх сыноў у рады чыноўнікаў.

Зараз пры працэсах фашызацыі, пры дапамозе фашызма ў радзе краін заходняй Еўропы мы бачым, як гэта разбэшчванне пэўных прамежкавых слаёў працоўных, дробнай буржуазіі, рамеснікаў, часткі сялян, і асабліва моладзі, праводзіцца ў вельмі вялікім маштабе. Уся-

*) Скарочаная стэнаграма даклада на активе менскай партарганізацыі.

кія дружыны, што арганізуюцца фашыстамі, атрады штурмавікоў у Гітлера, фашысцкая міліцыя Муссаліні—гэта працяг таго-ж самага апарата капіталістычнай дзяржавы, дзе людзі, якім дастаюцца мізэрныя крохі са стала буржуазіі, як верныя вартавыя сабакі абараняюць лад буржуазнага капітала, накідваюцца на рэволюцыйных рабочых.

Ітак, бюракратызм прадстаўляе сабой зусім законную і зусім неўнікнёную з'яву ў буржуазнай дзяржаве.

Не тое ў нас. Ленін да Окцябрскай рэволюцыі ў сваёй знамянітай рабоце «Дзяржава і рэволюцыя», апіраючыся на вопыт першага пролетарскага паўстання—Парыжскай Комуны 1871 г.—і нашых рэволюцый, намеціў ужо той шлях, па якім павінен ісці рабочы клас. Ён прадбачыў, што з бюракратызмам адразу, адным ударам, пакончыць нельга, што будуць пэўныя прычыны, якія будуць параджаць бюракратызм і што супроць бюракратызма можа весці сапраўдную барацьбу толькі пролетарская дзяржава, толькі совецкая дзяржава, якая апіраецца на найшырэйшыя масы працоўных, на іх самадзейнасць, і гэту самадзейнасць пад кіраўніцтвам пролетарыята і яго авангарда—комуністычнай партыі—ставіць у аснову ўсёй дзяржавы.

Ленін у сваіх работах дакладна ўказваў, якія прычыны будуць у нас параджаць бюракратызм.

Да іх адносяцца—наша эканамічная, культурная адсталасць. Мы былі адсталай аграрнай краінай, дзе агромная колькасць насельніцтва былі сяляне, якія вялі распыленую, раздробленую аднаасобную гаспадарку. Наша краіна пры яе грамадных прасторах цярпела ад бездарожжа, масы сельскага насельніцтва адарваны былі ад гарадскіх цэнтраў, ад гарадской культуры. Гэтым затруднялася магчымасць уплыву перадавых слаёў працоўных, прамысловага пролетарыята на ўсю астатнюю краіну.

У перыяд грамадзянскай вайны лепшыя перадавыя слаі рабочага класа ішлі на фронт, у Чырвоную армію. Тым самым змяншылася магчымасць запоўніць рады совецкага апарата надзейнымі, праверанымі, адданымі рабочымі. Акрамя таго, у рабочых не было часта і неабходных ведаў, навыкаў у кіраўніцтве, спецыяльных пазнанняў для таго, каб будаваць апарат новай дзяржавы, совецкай дзяржавы. Прыходзілася выкарыстоўваць і ў пэўнай меры старых чыноўнікаў і буржуазных спецыялістаў, прыходзілася карыстацца выхадцамі з чуждых класаў. Гэта цягнула за сабой засмечванне нашага апарата і немінуча параджала бюракратызм, а значыць і неабходнасць барацьбы з ім.

Наша партыя з самага пачатку, з Окцябрскай рэволюцыі, вяла барацьбу з бюракратызмам.

На VIII з'ездзе гэта барацьба з бюракратызмам была сфармулявана ў палажэнні, якое ўвайшло ў нашу партыйную праграму. Там сказана, што асноўным сродкам для выкаранення бюракратызма з'яўляецца разгортванне нашай совецкай дэмакратыі, з'яўляецца такая арганізацыя совецкага кіраўніцтва, пры якой кожны член совета павінен выконваць пэўныя функцыі па кіраўніцтву дзяржавай з тым, каб у далейшым падыйсці да такога становішча, калі кожны працоўны актыўна прымае ўдзел у кіраўніцтве дзяржавай і арганізацыі вытворчасці.

Поспехі першага пяцігадовага плана, поспехі калектывізацыі, ліквідацыя кулацтва, увядзенне сямігадзіннага рабочага дня, велізарны рост рабочага класа, а значыць і рост яго ўдзельнай вагі, павышэнне

культурнага ўзроўню—усё гэта стварыла ўмовы для разгорнутага канчатковага наступлення на бюракратызм, для яго выкаранення.

Прычыны, аб якіх гаварыў Ленін, у значнай меры ўстаронены, у корані падрэзаны тою грандыёзнай перабудовай, якую мы правялі на працягу першай пяцігодкі і ў першыя гады другой пяцігодкі. Але работа гэта далёка яшчэ не закончана. XVII з'езд ВКП(б) недарма паставіў зараз за ўвесь рост, як рашаючыя,—арганізацыйныя пытанні, пытанні перабудовы нашага апарата: савецкага, гаспадарчага, партыйнага. Гэта акалічнасць звязана з тым, што нашы поспехі паставілі перад намі новыя задачы і што зараз мы вырашаем задачы другой пяцігодкі таксама з цяжкасцямі, але гэтыя цяжкасці ўжо зусім іншага парадку, чым тыя, якія мелі мы, прыступаючы да выканання першага пяцігадовага плана.

Новыя задачы вынікаюць з таго, што на пустым, на голым месцы стварылі мы гіганцкія заводы. Уводзіцца ў наш ўжытак вытворчасць, якой і ў да-рэволюцыйнай царскай Расіі не было. Скажам, машынабудаўніцтва, якое было ў нас у мізэрным стане, зараз стаіць на ўзроўні тэхнікі самых перадавых капіталістычных краін. Па канцэнтрацыі вытворчасці мы перагналі многія капіталістычныя краіны. І, нарэшце, імення дзякуючы таму, што мы перавялі сельскую гаспадарку на рэйкі калектывізацыі, іменна дзякуючы таму, што зараз дзяржаўная прамысловасць заняла перадавыя пазіцыі, што мы знішчылі прыватніка, перад намі агромная задача—кіраваць краінай ва ўсіх галінах: прамысловасці, сельскай гаспадарцы, транспарце, гандлі.

Такой задачы ні адна буржуазная дзяржава перад сабою не ставіць, і не можа ставіць, бо буржуазная дзяржава ў асноўным—гэта паліцэйская дзяржава. Яе права, гаворачы словамі сатырыка—«ташчыць і не пушчаць». Яна абараняе ўласнасць капіталіста і магчымасць эксплаатаваць наёмных рабочых, а гаспадарку вядзе кожны паасобны капіталіст, кожнае капіталістычнае прадпрыемства, трэст, канцэрн.

Толькі ў нас, пры дыктатуры пролетарыята, стаіць задача кіраўніцтва ўсёй народнай гаспадаркай па плану, толькі ў нас палітычнае і гаспадарчае кіраўніцтва прадстаўляе сабою адзінае цэлае. Гэта прад'яўляе каласальныя патрабаванні апарату, яго гібкасці, аперацыйнасці. Адсюль лозунг—падняць узровень арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва.

Перад намі зараз новыя задачы, перад намі цяжкасці іншага парадку, на 90 проц. закладзеныя ў нас саміх, у нашым няўменні арганізавана забяспечыць правільную палітычную лінію. Тав. Сталін у цэлым радзе сваіх выступленняў разгортваў перад намі тое палажэнне, што зараз палітычная лінія партыі праверана на вопыце, зараз мільёны пераканаліся на сваім уласным вопыце, што шлях, намечаны партыяй,—адзіна правільны шлях. Гэта датычыць і індустрыялізацыі і тэмпаў, якія мы бралі ў гэтай індустрыялізацыі. Гэта датычыць і аб'яднання сялянскіх гаспадарак у калгасы.

Палітычная лінія нашай партыі сустракае давер'е і актыўнае падтрыманне ў мільёнаў. У нас ёсць усе аб'ектыўныя прадпасылкі: і прыродныя багацці, і лад, свабодны ад немачы і хвароб капіталізма, і «улада, даволі моцная і прасякнутая жаданнем паставіць на карысць народу ўсе прыродныя багацці». Мы маем партыю згуртаваную, якая ведае, куды весці справу. Значыць усе прадпасылкі ў наяўнасці, і справа толькі ў тым, каб ажыццявіць гэту правільную лінію ў арганізацыйнай рабоце.

Такім чынам, маштаб арганізацыйных задач вырас. Калектывізацыя сялянскай гаспадаркі—гэта арганізацыя звыш 200.000 буйных сельска-гаспадарчых прадпрыемстваў, гэта справа, якой ні ў адной краіне не было. Арганізацыя звыш двух з палавінаю тысяч МТС—гэта таксама справа, якою не можа пахваліцца ні адна краіна капіталістычная.

Паколькі мы змагаемся зараз за кіраўніцтва ўсёй народнай гаспадаркай, пастолькі нашаму апарату мы павінны прад'яўляць асабліва высокія патрабаванні. Малейшае бюракратычнае акасцяненне, бюракратычнае амяртвенне, бюракратычная язва адбіваюцца асабліва балюча і прыносяць многа страт.

Бюракраты выступаюць зараз крыху інакш. Падобна таму, як у агульным ходзе класавай барацьбы мы бачылі, што класавы вораг ад лабавой атакі перайшоў да падкопу, да «ціхай сапы», пачаў надзяваць на сябе лічыну прыхільніка совецкай улады, старонніка калгасаў з тым, каб пад гэтай лічынай пацiханьку шкодзіць, псаваць, паскудзіць, так і ў галіне барацьбы з бюракратызмам мы сустракаемся з тым, што бюракрат не выступае зараз з пагардаю, нагла, як гэта было, калі ён рысаваўся пам чалавекам, які выганяе наведвальнікаў. Зараз бюракрат рассыпаецца перад вамі, ён надта далікатны, на ўсё як быццам згодзен, гатоў ісці вам насустрач. Але ўсё гэта толькі на словах. На справе ён палец аб палец не ўдарыць, каб праявіць аператыўнасць у кіраўніцтве, арабочыць апарат, пайсці насустрач рабочаму-соцсумяшчальніку, правесці на справе паслядоўна рашэнні партыі і ўрада. Паток слоў, дэкларацый, рэзалюцый, прамоў, а за ўсім гэтым—ціхі сабатаж, спроба адвесці любую жывую справу ў канцэлярскі канал папяровай перапіскі.

Нам даводзіцца, як указаў тав. Сталін, мець справу не толькі з бюракратамі—наследдзем старога рэжыму. Такіх засталося ўжо мала. Зараз не меншую, калі не большую, пагрозу прадстаўляюць бюракраты совецкай фармацыі, бюракраты, якія, прыкрываючыся партыйным білетам, распінаючыся за генеральную лінію партыі, гатовы галасаваць за ўсякую рэзалюцыю, а на практыцы топяць жывую справу ў папяровай валакіце, пасяджэнчай мітусні, стараюцца застрахавацца, спіхнуць з сябе адказнасць, а там—хоць трава не расці.

Барацьба з бюракратызмам—адна з форм класавай барацьбы. Гэта барацьба ідзе ў новых умовах.

Мы моцны зараз той арміяй рабочых і калгаснікаў, якія ўсю сваю энергію накіроўваюць на соцыялістычнае будаўніцтва. У гэтым запрука таго, што бюракратызм мы выкарчуем. Але перад намі стаяць яшчэ цяжэйшыя задачы: асваенне тэхнікі, асваенне новай магутнасці. Таму мы не можам прасякнуцца настроем, што «шапкамі закідаем», што «нам усё нiпачом». З бюракратызмам мы павінны весці няўтомную большэвіцкую барацьбу, бо самацёкам перамагчы яго нельга.

Кожны, хто добра вывучыў работы XVII з'езда партыі, даклады, спрэчкі, можа адтуль пачэрпнуць весткі, як наша партыя, як наш ЦК пад кіраўніцтвам тав. Сталіна, у штодзённай упорнай рабоце пераглядалі звяно за звяном органы кіраўніцтва, пераціралі іх пясочкам, інакш расстаўляючы людзей, правяраючы выкананне. Толькі такім чынам можна знішчыць ў корані бюракратызм.

Барацьба з бюракратызмам адбываецца ў асноўным у такім напрамку: 1) кадры і іх расстаноўка, 2) структура нашага апарата, 3) метады работы, 4) сістэматычны кантроль за выкананнем, а ў тым ліку і ў першую чаргу, масавы кантроль.

Праблема кадраў паўстала перад намі ва ўсю шырыню, калі мы ўвайшлі ў рэканструкцыйны перыяд, прычым выявілася, што гэта не толькі тэхнічная праблема. Правыя апартуністы талкавалі, што кадры— гэта проста ведаючыя людзі. На справе аказалася інакш. Шахцінскі працэс паказаў, што ёсць не мала ведаючых людзей, якія выкарыстоўваюць свае веды толькі для таго, каб усякім чынам нам пашкодзіць, якія звязаны са сваімі былымі гаспадарамі капіталістамі, ўцёкшымі за граніцу, звязаны з інтэрвентамі, якія праводзяць падрыўную работу супроць нас.

Значыць пытанне аб кадрах—гэта пытанне стварэння сваіх кадраў, кадраў пролетарскіх, звязаных з працоўнымі масамі рабочага класа і перадавога сялянства. Калі мы задумалі першы пяцігадовы план, нам патрэбна было разгортваць гэту справу не якімі-небудзь чарапашымі тэмпамі, а тэмпамі гіганцкімі, якіх ні адна капіталістычная краіна не ведала і ведаць не магла.

Рашэнні пленумаў ЦК (жнівеньскага—у 1928 годзе і кастрычніцкага ў 1929 годзе) ставяць веху ў гэтым пытанні. З мэтай пашырэння і палепшання падрыхтоўкі кадраў ВТНУ перададзены былі прамысловасці. Гэта арганізацыйная перабудова дала велізарныя вынікі.

Мы ў такім маштабе разгарнулі падрыхтоўку тэхнічных кадраў, уласнай пролетарскай інтэлігенцыі, аб якім раней і думаць не маглі. За тры з паловай гады мы далі прамысловасці 180 000 спецыялістаў. Калі заглянуць зараз у самыя важныя вядучыя галіны, як аўтапромварштатабудаўніцтва, вугальная прамысловасць, то можна бачыць, што 60—70 проц. спецыялістаў, якія там працуюць, падрыхтавана за першую пяцігодку.

Гэта дае нам уяўленне аб размаху падрыхтоўкі новых тэхнічных кадраў, сваіх пролетарскіх кадраў, якія не за спецстаўку, а за сумленне, як байцы соцыялістычнай арміі, ішлі на штурм цяжкасцей і ажыццяўлялі будаўніцтва першай пяцігодкі.

Падрыхтоўку кваліфікаванай рабочай сілы мы таксама паставілі ў агромным нябачаным маштабе, і не дарма іностранцы, бываючы ў нас, выносяць як асноўнае ўражанне, што ў СССР—ад мала да вяліка—ўсе вучацца.

Быў час, калі мы бралі добрага пролетарыя, выраслага на палітычнай, профсаюзнай рабоце, садзілі чырвоным дырэктарам, кіраўніком прадпрыемства, і ён са справай спраўляўся. Але само сабою зразумела, што чым далей разгортвалася індустрыялізацыя, тым больш адчувальным рабіўся недахоп тэхнічных ведаў. Зараз ўжо нельга быць дырэктарам завода, калі ты не можаш мець сваю думку, бо тэхніку вытворчасці мала разумееш і цалкам залежыш ад інжынера.

Таму мы не толькі рыхтавалі спецыялістаў, але перападрыхтоўвалі дырэктароў, і ў гэтай галіне вельмі многа дасягнулі. А зараз пастанова ЦК і СНК на аснове рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) гаворыць, што кожны кіраўнік павінен аўладаць мінімумам тэхнічных ведаў. Барацьба за падрыхтоўку кадраў, за ўзбраенне тэхнічнымі ведамі, уся гэта вучоба, на якой занята наша моладзь аж да пажылых рабочых,— адна з умоў выкаранення бюракратызма.

Далей. Вельмі важна не толькі падрыхтаваць кадры, важна іх расставіць. Адна з хвароб нашых прадпрыемстваў заключалася ў тым, што спецыяліст часта застраваў ў канцэлярыі, пакідаючы без падрыхтаванай тэхнічнай сілы якраз самы адказны ўчастак прадпрыемства.

Скажам, па кадрах НКСнаба выяснілася, што палова спецыялістаў, людзі са спецыяльнай падрыхтоўкай, сядзяць ў канцэлярыях за паперамі.

Такі спецыяліст як зоатэхнік патрэбен там, дзе ёсць фермы, дзе трэба паклапаціцца аб добрым вытворніку, вырошчванні прыплоду і т. д. А тым часам зоатэхнікаў у раённым апараце 2 100 чалавек, у соўгасах—160 чалавек, у калгасах і зусім няма. Такім чынам на ферме, дзе роля зоатэхніка найбольш вяліка, яго няма, а ў канцэлярыях, дзе справа галоўным чынам датычыць перапіскі розных паперак, там спецыяліст застравае.

Тое-ж самае было выяўлена і ў вугальнай прамысловасці. У шахтах, дзе здабываецца і вывозіцца вугаль, аказалася менш тэхнічных сіл, чым у рудакіраўніцтве, дзе вялікая колькасць кваліфікаваных інжэнераў і тэхнікаў мела справу не з вугалем, а з паперамі.

Сістэма аплаты заахвочвала асяданне ў канцэлярыі. Спецыялісту ў канцэлярыі плацілі больш, чым на вытворчасці. Аграном на ўчастку атрымліваў менш, хоць яго работа цяжэй і непасрэдна звязана з палепшаннем сельскай гаспадаркі, з павышэннем ураджайнасці і т. д. Неабходна была сур'ёзная перабудова. Трэба было перасунуць спецыялістаў ўніз, на вытворчасць, перабудаваць сістэму зарплаты так, каб яна стымулявала гэту перасоўку і змены ў структуры, бо старая расстаноўка сіл выцікала з функцыянальнай сістэмы, так званай функцыяналкі. Функцыяналку імкнуліся, як вядома, абгрунтаваць тэарэтычна, даказвалі, што трэба будаваць кіраўніцтва па функцыянальнай сістэме, расчляніць работу на безліч функцый і для кожнай стварыць свой аддзел, пададдзел.

Сутнасць функцыяналкі ў тым, што кіраўніцтва расчляняецца на рад функцый і перадаецца шматлікай колькасці сектароў, аддзелаў, пададдзелаў, прычым кожны з сектароў ведае чым-небудзь адным, напрыклад: механізацыяй, тэхпрапагандай і т. д.

Такім чынам, гэту сістэму кіраўніцтва можна ўяўляць як паасобныя ніці, што працягваюцца з кіруючага цэнтра да вытворчых адзінак. Цэлага, сканцэнтраванага кіраўніцтва тут быць не можа. Аперацыйнасці, хуткасці і адзінства рашэнняў таксама не можа быць. Наадварот, выходзіць разнабой. Кожны з сектароў вырашае пытанне пасвойму, адсюль частая недагаворанасць, немінучая валакіта, адсюль унізе поўная звязанасць ініцыятывы, бо начальнік цэха, або агульнай прамысловасці, загадчык шахты, звязаныя па руках і нагах, павінны былі дагаварвацца з паасобнымі сектарамі і аддзеламі,ператвараючыся ў людзей, якія толькі і робяць, што ўвязваюць і даюць згоду.

У сельскай гаспадарцы было яшчэ горш. Там кожны з сектароў, а іх, скажам, у Наркамземе да рэарганізацыі было звыш 200, ведаў які-небудзь адзін бок справы ў маштабе ўсяго СССР. Значыць, усе калгасы, усе МТС, якія знаходзіліся ў самых разнастайных геаграфічных і кліматычных умовах, вялі розную гаспадарку (зярно, бавоўна, лён), падначалены былі, скажам, па гаручаму аднаму сектару, а па тары—другому, тым часам як снабжэнне гаручым без тары немагчыма.

Можна ўявіць сабе, што пры гэтым атрымлівалася. Функцыяналка—адзін з відаў цяжкай спадчыны буржуазнага метада кіраўніцтва. Не мала нашкодзілі ў гэтым некаторыя «тэарэтыкі», якія часта механічна пераносілі на працэс кіраўніцтва той падзел працы, які існуе на канвееры. На канвееры працэс расшчапляецца на многа аперацый, значыць і кіраўніцтва можна пабудаваць па прынцыпу ўсякіх функцый,

пасадзіць на кожную асобнага чалавека, або нават загадчыка, даць яму адказнага выканаўца, цэлы штат работнікаў, і тады ўсё пойдзе, як па масле.

У 1930 годзе вышла кніжка Будзянскага, прысвечаная пытанню рацыяналізацыі вытворчасці. Аўтар праводзіць паслядоўна прынцып функцыяналкі. Напрыклад, пасаду майстра ў цэху, па-Будзянскаму, трэба разбіць на 8 функцый і мець 8 майстраў замест аднаго. Адзін майстар, на яго думку, павінен праводзіць агульнае адміністрацыйнае кіраўніцтва, накладваць спагнанні, другі—сачыць за хуткасцю работы, трэці—за чыстатой, чацверты—укладаць рэгістрацыйную картку і т. д. Ясна, што пры такім парадку можа быць толькі многаначалле, бязладдзе, блытаніна. Асабліва цікава, што пры такой сістэме рашаючая задача—падбор кадраў, расстаноўка жывых людзей—ускладалася на другарадных выканаўцаў, а кіраўнікі, дырэктары, наркаматы гэтай справай займаліся ад выпадку да выпадку.

Праверка выканання таксама вылучалася як «функцыя», яе адрывалі ад кіраўніцтва. Здаецца, само сабою зразумела, што раз ты даў загад, то правярай яго сам, бо тады толькі будзеш ведаць ці спраўляецца чалавек з даручанай справай. Праверка выканання і вывучэння кадраў цяснейшым чынам звязаны паміж сабою. А пры функцыянальнай сістэме гэту праверку праводзілі ў асобым сектары, які, як вы ведаеце з даклада тав. Кагановіча, называўся скарочана «спі». І гэты сектар спаў паўсюды, ці займаўся тым, што пладзіў паперкі, пісаў запросы, атрымліваў фармальныя адпіскі, падшываў іх, накапляў справы, а рэальнага нічога не дабіўся.

Пры функцыяналцы немінуча было кіраўніцтва «наогул». І сапраўды, уявіце сабе такога кіраўніка, скажам, паліўнага сектара. Як ён можа кіраваць снабжэннем гаручым усіх МТС на прасторы Савецкага саюза, калі яны працуюць у розных геаграфічных, кліматычных, глебавых умовах? Ён можа кіраваць толькі ў асноўным, «увогуле і цэлым», зусім не ўнікаючы ў спецыфічныя ўмовы кожнай вытворчай адзінкі. Адсюль—няўважлівасць, забыццё вытворчага звяна, фабрыкацыя агульных загадаў, паток цыркуляраў, якія часам затаплялі нізавыя звенні.

Урэшце выходзіла так, што гаспадароў было аж занадта пры поўнай безадказнасці. Калі трэба было даць указанне канкрэтнай вытворчай адзінцы, яно складалася з паасобных частак, і ў цэлым ніхто за яго не адказваў. Функцыяналка спрыяла разбуханню апарата. Чым больш пладзілася сектароў, аддзелаў, пададдзелаў, загадчыкаў, нам. загадчыкаў, тым больш выраслі канцэлярыі.

Прынятымі XVII з'ездам партыі рашэннямі функцыяналка ліквідавана. Наркаматы, трэсты перабудоўваюцца па тэрытарыяльна-галінных адзнаках.

Возьмем для прыкладу Наркамзем. Зараз там арганізаваны асобыя кіраўніцтвы па пытаннях зярна, буракоў, лёну і т. д. Кожнае з іх разбіваецца яшчэ па тэрытарыяльна-геаграфічных адзнаках. Усе пытанні размеркавання трактароў, сельска-гаспадарчых машын, снабжэння гаручым і т. п. будуць сканцэнтраваны ў адным месцы, што дасць агромнае павышэнне аперацыйнасці кіраўніцтва.

У барацьбе з функцыяналкай не абышлося і без некаторых перагібаў. Не гледзячы на тое, што на XVII з'ездзе было ўказана, што гэта вельмі сур'ёзная справа патрабуе вывучэння, канкрэтнага падыходу, некаторыя работнікі рашылі: раз сектар функцыянальны—яго трэба ліквідаваць, і на гэтым усё скончана.

Тым часам кіраўніку для работы патрэбна падсобная арганізацыя, патрэбны і функцыянальныя сектары, з тым аднак, каб яны не дзейнічалі праз галаву кіраўніцтва, а былі невялікімі дапаможнымі арганізацыямі.

На некаторых заводах Ленінграда рашылі, што пры дырэктары наогул не павінна быць ніякіх аддзелаў, і ўсё трэба перадаць у цэхі. Такім чынам вышла, што дырэктар завода зусім бяссільны, бо не мае падсобнага апарата і, па выражэнню тав. Кагановіча, ператвораи у нейкага «вартаўніка з палачкай».

З другога боку, і раней было дрэнна, калі пры заводакіраўніцтве існавалі два аддзелы: планава-вытворчы і планава-эканамічны. Адзін складаў вытворчую праграму, выходзячы з тэхнічнай магутнасці, а другі распрацоўваў эканамічныя паказчыкі, па сабекошту працы і т. д. Выходзіў рознабой. Начальнік цэха, атрымаўшы вытворчы план і эканамічныя паказчыкі, якія адзін з другім не вяжуцца, павінен быў бегчы ў заводакіраўніцтва і даказваць, што іх трэба змяніць. На гэта ішоў час, а цэх пакуль што працаваў без плана.

Перабудова праводзіцца зараз так, каб планаванне (і вытворчае і эканамічнае) было ў адным месцы.

Барацьба за сапраўдную большэвіцкую перабудову ўсяго дзяржаўнага апарата на аснове рашэнняў XVII з'езда партыі—сур'ёзная задача, якую нельга вырашыць адным махам, за кароткі прамежак часу. Тут трэба бачыць і прадбачыць розныя формы супраціўлення і сабатажа бюракратычных элементаў, каб своечасова даваць па іх руйнуючы ўдар.

Барацьба з функцыяналкай разгарнулася ва ўсю шырыню, калі ЦК, заняўшыся вугальнай прамысловасцю, ускрыў там непаладкі і даў указанні як перабудаваць арганізацыю і работу.

Пераходжу да метаду работы. Барацьба з бюракратызмам патрабуе ўзмацнення адзінаначалля.

Адзінаначалле ні ў якім разе мы не разумеем ў сэнсе самадурства, нежадання лічыцца з думкай працоўных, з крытыкай і самакрытыкай. Адзінаначалле—гэта выкараненне такой калегіяльнасці, калі людзі збіраліся, балбаталі, потым прымалі рашэнне, за якое ніхто не адказваў.

Такую калегіяльнасць мы выкараняем, адначасова надаючы вялікае значэнне калектыўнаму абгаварэнню.

Вы ведаеце, што тав. Сталін у гутарцы з нямецкім журналістам Людвігам проста ўказаў, што ў нас рашэнні прымаюцца на аснове калектыўнага абгаварэння. Але кіраўнік, які хаваецца за калектывам, гэта не кіраўнік. Ён ніколі патрэбных вынікаў не даб'ецца. Другое—сістэматычная праверка выканання. Гэта—асноўная задача кожнага кіраўніка і не можа быць перакладзена на другарадных выканаўцаў.

Фармальная праверка выканання ідзе поплеч з разбуханнем справаздачнасці. Людзі думаюць, што галоўнае гэта стварыць такую форму справаздачнасці, з такой агромнай колькасцю граф, рубрык, пытанняў, каб нізавое звяно было як на далоні. У рэзультаце—горы спісанай паперы, мяхі справаздачнасці. Нізавыя арганізацыі дзень і ноч сядзяць над складаннем справаздачнасці, якая потым не распрацоўваецца, не абагульняецца.

Нам патрэбна не гэта папярова-бюракратычнае ўсязнайства, а такая асноўная справаздачнасць, якая дае магчымасць адразу бачыць як ідзе справа, справаздачнасць, з якой хутка можна рабіць вывады, неабходныя для аперацыйнага кіраўніцтва.

Тав. Орджанікідзе на пытанне, якую форму справаздачнасці выбраць на заводах, адказаў кіраўніцтвам заводаў: «Бярыце ад цэхаў, што вам патрэбна, а я больш таго ад вас не патрабую». Гэта самая здаровая, самая правільная ўстаноўка. Але, каб правесці яе ў жыццё, трэба пераглядзець формы справаздачнасці, асноўныя паказчыкі, па якіх можна сказаць: вось колькі выпрацавана, такі кошт прадукцыі, столькі патрабавалася рабочай сілы, столькі затрачана сыравіны і т. д.

Ясна, што правільная пастаноўка справаздачнасці займае віднае месца ў барацьбе з бюракратызмам, з бюракратычна-канцэлярскімі метадамі кіраўніцтва.

Вялікае значэнне ў гэтай справе мае падняццё дзяржаўнай дысцыпліны. Тав. Орджанікідзе на XVII з'ездзе партыі сказаў, што бюракрат—гэта той, хто не выконвае дырэктыў партыі і ўрада. Захаванне рэволюцыйнай соцыялістычнай законнасці—важнейшая задача. І тут барацьба з бюракратызмам кладзецца ў значнай меры на нашы органы, якія захоўваюць рэволюцыйную законнасць,—суд і пракуратуру.

Абсалютная чэпуха думаць, што соцыялістычны лад, соцыялістычная гаспадарка без дысцыпліны, без аўтарытэта можа існаваць, так могуць думаць толькі дробна-буржуазныя анархіствуючыя інтэлігенты. Маркс і Энгельс вучылі, што буйная прамысловасць патрабуе строгага падпарадкавання, строгай дысцыпліны, патрабуе аўтарытэта. Але гэты аўтарытэт не палачны, бюракратычны. Гэта аўтарытэт арганізатара, які бачыць больш, ведае больш, які можа пераканаць, але які, у тым выпадку, калі яго не слухаюць, калі яго пераконанні не памагаюць, управе прымусіць, прымяніць уладу.

Аўтарытэт кіраўніка павінен спалучацца з самым шырокім кантролем мас. Асноўны сродак, асноўны рычаг барацьбы з бюракратызмам—гэта ўцягненне мас у кіраўніцтва дзяржавай, у арганізацыю вытворчасці. Наша совецкая дзяржава стварыла новы, нябачаны ў гісторыі тып дэмакратыі, якога не ведала гісторыя мінулага часу. Дэмакратыя старажытнай Грэцыі, ці Рыма, сучасная капіталістычная дэмакратыя,—гэта дэмакратыя маючых, дэмакратыя ўрэзаная і фальшывая. Толькі советы стварылі новы тып дэмакратыі, падымаючы да палітычнага жыцця якраз тыя слаі, якія найбольш былі ўціснуты і прыгнечаны. Лозунг Леніна—«Кожная кухарка павінна навучыцца кіраваць дзяржавай»—характарызуе нашу сістэму. Хатняя работніца была самым адсталым, самым прыгнечаным слоем рабочага класа пры існаванні памешчыкаў і капіталістаў, і гэты слой павінен быць узнят да ўзроўню актыўнага ўдзелу ў справе кіраўніцтва дзяржавай.

Наша дэмакратыя адметна тым, што яна не абмежавана аднымі органамі дзяржавы ў сцілым сэнсе гэтага слова.

У нас ёсць советы, ёсць секцыі, дэпутацкія групы на прадпрыемствах, але, акрамя таго, у нас ёсць профарганізацыі, якія адыгрываюць каласальную ролю ў жыцці нашай дзяржавы, якія яднаюць пагалоўна ўвесь пролетарыят.

У нас ёсць такая з'ява, як соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Гэта таксама праяўленне нашай пролетарскай совецкай дэмакратыі, бо кожны ўдарнік ёсць актыўны будаўнік нашай дзяржавы, кожны прымаючы ўдзел ў спаборніцтве не проста аддае максімум сваіх сіл на будаўніцтва соцыялізма, але выступае таксама як крытык, як суровы кантралёр таго, што робіцца вакол, як барацьбіт супроць бюракратызма, супроць усякіх злоўжыванняў, валакіты, супроць усяго, што шкодзіць соцбудаўніцтву і тармозіць яго.

У буржуазным грамадстве існуе супярэчнасць прыватных і агульных інтарэсаў. З аднаго боку, клопаты аб тым, як адзецца, як абуцца, праіснаваць—гэтым кожны займаецца сам па сабе, гэта яго прыватная справа, а з другога, ёсць дзяржава, якая ўвасабляе, як гаварыў Карл Маркс, адцягнены, агульны інтарэс. У буржуазнай дзяржаве гэты агульны інтарэс ёсць інтарэс усяго класа эксплаататараў ў цэлым, г. зн. перш за ўсё інтарэс падтрымання парадку, неабходнага для капіталістычнай эксплаатацыі.

У нашай дзяржаве праца кожнага з нас—справа велізарнага грамадска-дзяржаўнага значэння. Соцспаборніцтва, конкурсы, работа нашага друку ўзнялі гэтыя вытворчыя працэсы да ступені вялікага грамадска-палітычнага значэння. Вазьміце вы любое наша буйнае дасягненне, якім мы ганарымся,—яно таксама ёсць праяўленне нашай пролетарскай, совецкай дэмакратыі. Хіба магчым быў палёт у стратасферу, або прабег аўтакалоны праз пяскі Кара-Кум, калі-б уся краіна не ўдзельнічала ў гэтым, калі-б гэтыя дзеянні не былі акружаны любоўю і ўдзелам дзесяткаў і соцень тысяч працоўных?

А як капіталістычны свет ажыццяўляе свае дасягненні і свае рэкорды? Ён дабіваецца іх у канкурэнтнай барацьбе.

Адна капіталістычная фірма канкуруе з другою, і ў гэтай барацьбе яны высоўваюць новыя канструкцыі, ставяць новыя рэкорды. Усё гэта падпарадкавана аднаму—інтарэсам нажывы, прыбытку той ці іншай групы капіталістаў, зацікаўленай ў гэтых рэкордах, і часта гэта барацьба за рэкорд канчаецца катастрофай, або пагібеллю лётчыкаў, гоншчыкаў і інш. тружанікаў, вымушаных аддаваць сваё жыццё дзеля гэтага капіталістычнага рэкардсменства.

Ў нас гэтыя дасягненні арганізаваны на пачатках грамадскага ўдзелу, на пачатках зацікаўленасці пагалоўна ўсіх у тым, каб атрымаць перамогу за перамогай на даным участку. А гэта паказвае агромную перавагу нашага ладу.

Эпапея, сведкамі якой мы з'яўляліся, якая прыкавала да сябе нашу ўвагу—эпапея чэлюскінцаў, калі падыйсці да яе з пункту погляду арганізацыі, з пункту погляду дзяржавы, ёсць бліскучы прыклад перавагі нашага ладу. І што мы там мелі? Мы мелі, па-першае, каласальную спайку, высока ўзнятае адчуванне калектыўнасці, найвялікшую арганізаванасць у самых цяжкіх умовах. Мы бачылі як невялікая жменька людзей арганізавана змагалася з лютай стыхіяй так, як змагаецца ўвесь наш Совецкі саюз пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. У гэтых людзей была каласальная вытрымка, характэрная для нашай пролетарскай рэволюцыі, соцбудаўніцтва, непахісная вера ў сілу пролетарскай дзяржавы, якая прыдзе на дапамогу. Параўнайце гэты малюнак з тым, што прапанавалі фашысцкія газетчыкі, калі яшчэ існаваў лагер Шмідта: «паход больш моцных к мацерыку, як праяўленне сапраўднага гераізма правадыроў». Гэта якраз капіталістычны метад: няхай самыя моцныя ратуюцца, а ўсе слабыя—жанчыны, дзеці гінуць. У гэтым сказваецца капіталістычная ідэалогія, у гэтым сказваецца капіталістычны воўчы прынцып пабудовы грамадства і дзяржавы.

Параўнайце тое, што мы зрабілі. Згуртаваная, арганізаваная работа там на лёдзе, з тым каб падрыхтаваць аэрадром, і дружная арганізаваная работа ўсяго Совецкага саюза, каб прасунуць самалёты, паслаць гераічных лётчыкаў ратаваць людзей.

На гэтым прыкладзе выразна відаць розніцу паміж буржуазным капіталістычным ладам, пабудаваным на воўчым прынцыпе «кожны сам за сябе», і нашым соцыялістычным ладам, нашай соцыялістычнай дзяржаўнасцю.

Масавая работа советаў, якая разгортваецца ў форме секцый, набыла зараз вялікі матар'яльны змест у выглядзе разгортвання калгаснага будаўніцтва і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў. Мы маем зараз многа секцыянераў, прычым у гарадах, у буйных цэнтрах—сапраўдны актыў секцыянераў, пра якіх калісь пісаў Ленін, што рабочыя, працоўныя не адрываючыся ад вытворчасці будуць выконваць грамадскія абавязкі, і справа кіраўніцтва стане ў іх прывычкай. Мы ўжо маем такіх людзей, для якіх кіраўніцтва дзяржавай стала прывычкай. Яны аддаюць гэтай справе ўсе вольныя гадзіны. Форма работы секцый стала больш аператыўнай. Калі першыя гады секцыі займаліся абгаварэннямі, гутаркамі з повадў выяўленых хібаў, то зараз секцыянеры прыходзяць на ўчастак, да якога яны прымацаваны, правяраюць работу, указваюць недахопы і шляхі іх выпраўлення, даюць на гэта тэрмін, а пасля правяраюць выкананне.

Найбольш цікавым вопытам новых форм секцыйнай работы з'яўляецца вопыт Нарвскага раёна Ленінграда, дзе некаторыя аддзелы райсовета цалкам абслугоўваюцца секцыянерамі. Там няма платнага чыноўніцкага апарата, а патрэбная работа вядзецца цалкам сіламі секцыянераў.

У рабоце масавых арганізацый яшчэ не мала недахопаў. Яны заключаюцца ў функцыяналцы, у тым, што кантрольныя функцыі адсоўваюцца часам на задні план, што секцыянеры ператвараюцца ў падсобны гаспадарчы апарат, забываючы свае функцыі кантроля.

У нас яшчэ ёсць такі погляд, што калі я на штатнай рабоце, то з мяне можна спытаць, можна даць спагнанне, у кожным разе—я адказваю за работу, калі-ж я бяру грамадскую нагрузку, то магу зрабіць, магу і не зрабіць. Тым часам грамадская работа павінна быць арганізавана так сама як і штатная. Павінна быць адказнасць, праверка выканання, бо гэта ўзнімае зацікаўленасць у рабоце.

Секцыянер, які прарабіў работу і далажыў аб гэтым прэзідыуму горсовета ці райсовета, цікавіцца яе вынікамі. Таму вельмі важна не толькі арганізаваць работу, але і наладзіць паслядоўную праверку, кантроль, даводзіць справу да канца.

Работа дэпутацкіх груп мае вялікае значэнне. Знаходзіліся, праўда, скептыкі, якія гаварылі: «Навошта яшчэ дэпутацкія групы, дзеля чаго патрэбен «чацверты вугал?» Зараз гэтыя скептыкі змоўклі, бо дэпутацкія групы разгарнулі работу і аказваюць вялікую дапамогу ў вытворчасці і ў вырашэнні бытавых пытанняў.

Такім чынам зараз, па крайняй меры ў буйных гарадскіх цэнтрах, дэпутацкія групы праводзяць агромную станоўчую работу. У калгасах і соўгасах таксама добра працуюць дэпутацкія групы, але, праўда, прадстаўляюць сабой выключэнне.

Далей вельмі важнае значэнне мае шэфства і соцсумяшчэнне. Шэфства ахапіла ўсю краіну. Возьмем прыклад шэфства электразавода над Наркамфінам. Праца шэфаў дала магчымасць скараціць адміністрацыйна-кіраўнічыя выдаткі на мільёны і дзесяткі мільёнаў руб. Рабочыя з такім захапленнем, энтузіязмам падыходзяць да шэфскай работы, што некаторыя электразаводаўцы нават у адпачынку правяралі работу на месцах, дапамагалі праводзіць кампаніі па пазыках і т. д.

Па соцсумяшчэнню таксама маем значныя дасягненні. Вось рад прыкладаў з ленінградскай практыкі:

Рабочы Балтыйскага завода даў у якасці соцсумяшчальніка каштоўную прапанову аб замене каляровага метала, чым была дасягнута вялікая эканомія.

Другі рабочы выявіў на мільён рублёў неліквідных матар'ялаў, якія ўдалося рэалізаваць.

Работніца Янкоўская з'яўляецца па соцсумяшчэнню суддзёй. Яна разглядзела тысячу спраў, прычым ні адзін прыгавор не быў адменен, чаго не бывае і ў суддзяў прафесіяналаў [1]).

Ёсць недахопы ў пастаноўцы соцсумяшчэння. Па-першае, кампанейшчына: спачатку навалюцца на справу, а потым перастаюць звяртаць увагу, і яна глохне.

Па-другое, бюракратычныя адносіны да соцсумяшчэння, часта ў скрытых формах: як быццам ідуць насустрач, а на справе тармозяць работу.

Вялікае значэнне набывае зараз нізавы кантроль, функцыі якога перадаюцца профсаюзам. Цікавы вопыт Пуцілаўскага завода, які намеціў галінныя групы, брыгады па вытворчасці, паліву, снабжэнню, грамадскаму харчаванню, групу разбору скарг і заяў.

Гэтыя групы працуюць разам з дэпутацкімі.

Нарэшце грамадскі і таварыскі суд таксама адыгрываюць агромную ролю ў разгортванні пролетарскай дэмакратыі, у кіраўніцтве дзяржавай і арганізацыяй вытворчасці.

Уся гэта работа па барацьбе з бюракратызмам прадстаўляе сабой каласальнае ўмацаванне нашага дзяржапарата. Ленін у свой час гаварыў: на козні ворага мы адкажам тым, што прыцягнем мільёны людзей, якія прымуць актыўны ўдзел ў кіраўніцтве дзяржавай, ва ўмацаванні ўлады пролетарыята. Фашысцкая дзяржава таксама ўзмацняе свой дзяржаўны апарат, але робіць гэта шляхам тэрора, накіраванага супроць рабочых, ўзмацняе пры дапамозе канцэнтрацыйных лагераў, у нябачаных маштабах выраб̣ляе зброю для знішчэння, рыхтуе пагромы і т. д.

Дыктатура пролетарыята, абрушыўшы жорсткі ўдар на галаву класавага ворага, ў той-жа час павялічвае сваю магутнасць за лік уцягнення ў кіраўніцтва дзяржавай новых мільёнаў і дзясяткаў мільёнаў працоўных. Умацаванне дзяржавы советаў суправаджаецца росквітам новай пролетарскай соцыялістычнай культуры, якая ахапляе ўсё большыя і большыя слаі працоўных і калгаснікаў.

Як-бы ні стараўся зараз наш вораг, міжнародная буржуазія, павярнуць кола гісторыі назад, гэта ёй не ўдасца.

Работа, якую мы прарабілі, пачынаючы з Окцябрскай рэволюцыі, забяспечвае нам каласальную перамогу над усімі перажыткамі капіталістычнага грамадства ў нашай краіне і перамогу над уладай капітала ў сусветным маштабе.

---

*) І. Разанаў. „Совецкая дзяржава і 2-ая пяцігодка"

**Кладавікоў В. С.**

# Харчовая прамысловасць БССР на аглядзе

Усесаюзны агляд харчовых прадпрыемстваў, аб'яўлены тав. **Мікаянам** па ініцыятыве беларускіх ударнікаў-харчавікоў, накладае на ўсе беларускія арганізацыі выключную адказнасць за яго ўзорнае правядзенне.

Зварочваючыся да тав. **Мікаяна** з прапановай арганізаваць на старонках газеты «За пищевую индустриализацию» ўсесаюзны агляд харчовых прадпрыемстваў, мы аддавалі сабе поўны адчот у тым, што на той дзень мы не маглі яшчэ прэтэндаваць на станоўчую ацэнку ні па санітарнаму становішчу сваіх прадпрыемстваў, ні па якасці выпускаемай прадукцыі, ні нават па колькаснаму выкананню плана. Але разам з тым мы былі цвёрда ўпэўнены, што агляд харчовых прадпрыемстваў па рэалізацыі адозвы ЦК ВКП(б) ад 22 снежня 1933 г. будзе надзейным стымулам у барацьбе за лепшыя ўзоры вытворчасці высокаякасных прадуктаў для рабочых і калгасных мас краіны соцыялізма.

Усесаюзны агляд ставіць сваёй мэтай паднясць работу харчовай прамысловасці, палепшыць якасць выпускаемай прадукцыі, выканаць промфінплан па колькасных і якасных паказчыках, ліквідаваць антысанітарны стан прадпрыемстваў, разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва і ўзняць соцметады працы на вышэйшую ступень.

Пасля апублікавання загаду Наркамснаба СССР аб правядзенні ўсесаюзнага агляду работы харчовай прамысловасці большасць гарадоў, раёнаў і прадпрыемстваў з першага дня актыўна ўключыліся ў агляд. Па прадпрыемствах быў праведзен адзіны партыйны дзень, распрацаваны канкрэтныя планы і мерапрыемствы правядзення агляду, шырока разгорнута масавая работа па ўцягненню ў актыўную барацьбу за пяршынства ў правадзімым аглядзе ўсёй масы рабочых і ітраўскай грамадскасці харчовай прамысловасці БССР.

На большасці харчовых прадпрыемстваў агляд выклікаў уздым энергіі і ініцыятывы рабочых мас, асабліва ў буйных гарадах: Менску, Гомелі, Віцебску, Магілеве, Оршы, Барысаве, Бабруйску. У рабочых— узняты баявы настрой. Калі к пачатку года на радзе прадпрыемстваў меўся ўпадак сіл, разгубленасць у выніку таго, што прадпрыемствы знаходзіліся ў глыбокім прарыве, сістэматычна не выконвалі план, то зараз людзі змагацца за рэалізацыю рашэнняў ЦК, за выканане вытворчай праграмы.

За час агляду разгорнута сець санпастоў, выраслі новыя кадры ўдарнікаў, грамадскіх інспектароў па якасці, грамадскіх санінспектароў, бракёраў, рабкораў, рэдактараў сценгазет і т. д. На «Комунарцы», напрыклад, працуе 40 санпастоў, 15 грамадскіх санінспектароў.

За гэты час разгортванне соцспаборніцтва і ўдарніцтва ўзнялося на новую вышыню, вырасла колькасць ахопленых індывідуальнымі дагаварамі па соцспаборніцтву. Ударнікаў на оршанскім хлебкамбінаце на 1/І-34 г.—74 чалавекі, на 1/VII—94 чал.; на ф-цы «Комунарка»—адпаведна: 200 і 400. Узрасла колькасць паданых вынаходак.

У ходзе агляду мы маем магчымасць наглядна праверыць здольнасць паасобных кіраўнікоў змагацца за новую культуру совецкага харчовага прадпрыемства.

Трэба бачыць барацьбу гэтых жывых людзей у брыгадзе, у цэху, дзе разгортваецца здаровае спаборніцтва за выкананне плана, за рэалізацыю адозвы ЦК, калі адзін цэх абганяе другі, калі на месца перамогі высылаюцца самаправерачныя брыгады, каб праверыць дасягненні і ўсё лепшае перанесці к сабе.

Першыя два месяцы агляду харчовых прадпрыемстваў БССР прайшлі пры высокім узроўні выканання праграмы. За май беларуская прамысловасць упершыню выканала план на 106,5 проц.

За чэрвень увесь план выканан на 110,3 проц., у тым ліку па рэспубліканскай прамысловасці 108,1 проц., па саюзнай—112 проц. Перавыкананне плана ў маі і чэрвені пакрыла прарыў за красавік, даўшы такім чынам у 2-ім квартале 102,7 проц. і поўнасцю пакрыўшы прарыў за сакавік і часткова за люты. План за апошнія 4 месяцы можна лічыць выкананым, застаўся толькі не пакрытым прарыў за студзень (3 млн. руб.) і за люты (2,4 млн. руб.), што павінна быць пакрыта ў 2-ім паўгоддзі.

За гэтыя два месяцы вырасла колькасць прадпрыемстваў, не толькі датэрмінова выканаўшых, але і перавыканаўшых план. Напрыклад, ф-ка «Комунарка», макаронная фабрыка ў Барысаве, завод малочнай кіслаты, якія былі ў глыбокім прарыве, за гэтыя месяцы вылезлі ці вылязаюць з прарыва. «Комунарка» поўнасцю ліквідавала прарыў першых месяцаў і выканала поўгадовы план. Макаронная фабрыка ліквідавала прарыў першых месяцаў і выканала поўгадовы план у натурале. Завод малочнай кіслаты, выканаўшы план 33 года на 52 проц., даў у чэрвені 93 проц., а ў ліпені ўпершыню 100 проц., прычым значна палепшыў якасць малочнай кіслаты (у 33 годзе крэпасць каля 30°, у ліпені 46°).

Паасобныя раённыя, гарадскія і фабрычна-заводскія арганізацыі адразу недаацанілі важнасці і значэння ўсесаюзнага агляду работы харчовай прамысловасці, своечасова не мабілізавалі грамадскасць, шырокія масы рабочых і ІТР на барацьбу за ліквідацыю прарыва ў выкананні промфінплана, не скарысталі агляд для ўздыму энтузіязма рабочых на барацьбу за пяршынства ў аглядзе, за права на месца ў чырвоным спісе перадавых прадпрыемстваў харчовай прамысловасці.

Мазырскі, Полацкі, Гомельскі і інш. раёны са значным спазненнем арганізавалі раённыя і гарадскія аглядавыя камісіі. У паасобных раёнах (Барысаў і інш.) раённыя камісіі да апошняга часу бяздзейнічалі. Гэтыя раёны і частка прадпрыемстваў горада са значным спазненнем уключыліся ва ўсесаюзны агляд харчовай прамысловасці, а на тых прадпрыемствах, дзе работа была пачата, арганізаваныя фабрычна-заводскія аглядавыя камісіі прадстаўлены былі самі сабе, застаўшыся без усякага кіраўніцтва і дапамогі гарадскіх і раённых арганізацый.

Перадавымі ў арганізацыі агляду работы харчовай прамысловасці з'яўляюцца гор. Менск і Віцебск, дзе гаркомы партыі з першага дня

работы гарадскіх камісій узялі пад свой непасрэдны кантроль і кіраўніцтва разгортванне агляду і канкрэтна пераключыліся на выкананне рашэнняў майскага пленума ЦК КП(б)Б аб рабоце прамысловасці БССР.

Рэзультаты двух апошніх месяцаў сталі магчымымі, дзякуючы цэламу раду мерапрыемстваў. І-ая ўсебеларуская вытворча-тэхнічная канферэнцыя харчовых прадпрыемстваў, праведзеная 20—22 сакавіка гг., дала агромную зарадку лепшым людзям, якія прадстаўлялі харчовую прамысловасць на гэтай канферэнцыі. Агромную дапамогу аказаў ЦК КП(б)Б, у прыватнасці людзьмі, узмацніўшы найбольш адказныя і адстаючыя ўчасткі харчовай прамысловасці—Белбродтрэст, Рыбтрэст, Белсадвінтрэст, фабрыку «Комунарка», завод «Беларусь» і інш.

Рашэнне Бюро ЦК КП(б)Б ад 9 мая аб рабоце харчовай прамысловасці дае ўсё неабходнае для таго, каб харчовая прамысловасць нармальна працавала. Наша задача—дабіцца рэалізацыі кожнага пункта гэтай пастановы.

Пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б харчовая прамысловасць за апошні час дабілася некаторых дасягненняў.

У рашэннях майскага пленума ЦК КП(б)Б адзначана: «Намеціўся некаторы ўздым у рабоце паасобных прадпрыемстваў харчовай прамысловасці БССР».

У артыкуле тав. **Гікало**—«Беларусі—узорную лёгкую і харчовую індустрыю»—адзначаецца некаторы зрух у палепшанні асартымента кандзіцерскай і мясной прамысловасці. Але ў цэлым работа харчовай прамысловасці, як справядліва ацаніў яе майскі Пленум ЦК КП(б)Б, зусім нездавальняюча.

Рэзультаты работы за апошнія два месяцы нагляднa дэманструюць, што план 1934 года безумоўна рэальны, што ён можа быць не толькі выкананы, але па цэламу раду галін прамысловасці і перавыкананы. Трэба толькі па-баявому ўзяцца за рэалізацыю рашэнняў XVII з'езда ВКП(б), перабудаваць работу зверху да нізу, правільна расставіць людзей і настойліва змагацца за кожны пункт адозвы ЦК ВКП(б).

Прарыў у першыя месяцы 34 года стварыўся ў выніку таго, што не мабілізавана была ўвага ўсіх гаспадарнікаў і грамадскасці на выкананне плана, людзі павольна раскачваліся, не здолелі своечасова ўзяць патрэбныя тэмпы і планава весці вытворчасць. І толькі ў канцы квартала, у канцы паўгоддзя пачалі наверстваць упушчаны час. Трэба заўважыць, што выкананне майскага і ліпеньскага плана крые ў сабе элементы штурмаўшчыны, работы рыўкамі (у выхадныя дні, работа паасобных рабочых дзве змены і т. д.).

Дасягнутыя за апошнія два месяцы рэзультаты далёка недастатковы, бо поўгадовы план 1934 года па ўсёй прамысловасці Наркамснаба выкананы толькі на 93 проц., інакш кажучы,—недадана рознай прадукцыі на 5,3 млн. руб. Гэта агромны прарыў, для ліквідацыі якога ў 2-ім паўгоддзі патрэбна будзе выключнае напружанне, бо ён раўняецца дзесяцідзеннай рабоце ўсёй харчовай прамысловасці БССР.

Гадавы план выканан на 43,5 проц., замест 46,8 проц. У параўнанні з 1-м паўгоддзем 33 года рост прадукцыі складае 11,2 проц., што значна ніжэй планавага задання.

Але за гэтымі сярэднімі лічбамі крыюцца такія адстаючыя галіны і прадпрыемствы, якія цягнуць усю прамысловасць уніз і могуць сарваць выкананне ўсяго гадавога плана.

У ліку адстаючых прадпрыемстваў знаходзяцца і менскі малочны завод «Беларусь», «Чырвоная зара», кандзіцерскія прадпрыемствы менскага ЦРК, макаронная фабрыка, Дзяржынскі маслазавод, рыбгас «Валма» і інш.

Выкананне плана за май, чэрвень і ліпень магло быць значна вышэйшым, калі-б не кепская работа Белбродтрэста, (дырэктар тав. **Карандзей)**. Прадпрыемствы гэтага трэста поўгадовы план выканалі толькі на 73,4 проц. Маргарынавы завод (дырэктар т. **Вольфсон)** выканаў план на 65 проц., парфюмерная фабрыка імя Клары Цэткін (дырэктар т. **Уліцын)**—на 78,5 проц., завод «Чырвоны хімік»—на 76,7 проц., масладзельны (тт. **Жалезны і Цімохін)**—на 80,4 проц. НКСнаб вымушан быў зняць з работы тт. **Жалезнага, Цімохіна, Уліцына** і папярэдзіць усіх астатніх.

Гэтыя галіны прамысловасці і ў прыватнасці гомельскія харчовыя прадпрыемствы цягнуць агульнае выкананне плана па БССР уніз.

Уся ўвага павінна быць звернута на гэтыя адстаючыя ўчасткі, адначасова ўзмацняючы работу перадавых прадпрыемстваў. Мы ва што-б там ні стала павінны дабіцца, каб не было ні аднаго адстаючага прадпрыемства, ні аднаго адстаючага раёна.

Вынікі 1-га паўгоддзя асабліва нездавальняючы па якасных паказчыках. Гаспадарнікі яшчэ не аўладалі гэтым важнейшым рычагом выканання плана. Ілюструюць гэта палажэнне рэзультаты выканання якасных паказчыкаў за 1-ы квартал і наступныя месяцы. Па трох рэспубліканскіх трэстах—Белкмо, Белброд і Белмасламарг—мы маем, замест зніжэння сабекошту на 0,8 проц., павелічэнне на 1,4 проц. Не выканана заданне па росту прадукцыйнасці працы. На прадпрыемствах лішак рабочай сілы, а адсюль перавыдатак фондаў заработнай платы і зусім нездавальняючая якасць прадукцыі.

Напрыклад, кандзіцерская прамысловасць, у тым ліку ф-ка «Комунарка», не выканала плана па ўстаноўленых асартыментах, па выпуску адпаведнага процанта карамелі ў завёртцы, не асвоіла новыя сарты карамелі.

Бабруйская фабрыка зноў вышла з выкананнем плана за лік варкі павідла. Макаронная фабрыка выканала план за лік павелічэння выпуску лапшы замест макарон, што значна лягчэй.

Піваварная прамысловасць не выканала поўнасцю задання па выпуску 4-х сартоў піва і па выпуску піва ў бутэлькавым разліве, даўшы ў бутэльках 14 проц. замест 30.

Безалкагольная прамысловасць дапусціла перабоі ў снабжэнні насельніцтва напіткамі ў найбольш гарачыя дні, не здолела своечасова перабудавацца, недаацаніла важнасці расшырэння асартымента безалкагольных напіткаў, павялічыла яго толькі к канцу паўгоддзя, не выканала таксама задання па выпуску напіткаў у бутэлькавым разліве і па вырабу марожанага.

Большасць трэстаў, заводаў, фабрык не здолелі спалучыць колькаснае выкананне плана з барацьбой за якасць прадукцыі. Хоць па раду прадпрыемстваў якасць прадукцыі і палепшылася, аднак яшчэ далёка адстае ад планавага задання і запатрабаванняў шырокіх мас спажыўцоў. Адставанне і разрыў паміж колькаснымі і якаснымі паказчыкамі выканання плана за 1 паўгоддзе існуе нават на перадавых прадпрыемствах. У другім паўгоддзі яно павінна быць ліквідавана.

2-е паўгоддзе мае для харчовай прамысловасці рашаючае значэнне. Мы павінны выканаць 57 проц. гадавога плана, г. зн. больш паловы і ў меншы тэрмін, маючы на ўвазе астаноўкі фабрык на ра-

монт і адпачынкі. Па некаторых галінах прамысловасці заданні на 2-е паўгоддзе яшчэ больш адказны. Напрыклад, рыбная прамысловасць павінна здаць 100 проц. прадукцыі прудавых гаспадарак, Белсадвінпром— 80 проц., плодагародная—80 проц. гадавога плана.

* * *

Расце армія свядомых людзей харчовай прамысловасці. Старыя кадравікі спаборнічаюць паміж сабой за права ўдзелу ў дэлегацыі к тав. Мікаяну. Наведваючы брыгады, цэхі, інтэрнаты, кватэры рабочых, пераконваешся ў вялікай каштоўнасці нашых кадраў, у іх агромнай сіле. На заводзе «Чырвоная зара» ёсць салідная група кадравых рабочых, якія працуюць тут ад 10 да 30 год. Гэта людзі, жыццё якіх—жыццё завода. Яны аддаюць усе сілы на стварэнне ўзорных совецкіх прадпрыемстваў.

1 жніўня ў Наркамснабе БССР праведзена за чашкай чаю гутарка з ударнікамі ф-кі «Комунарка», прэміяванымі за добрыя паказчыкі работы і выкананне праграмы 1-га паўгоддзя. Усе яны, індывідуальна адметныя адзін ад другога па характару работы, па рэзультатах барацьбы за выкананне плана, па ўдзелу ў рацыяналізатарскім руху фабрыкі, заражаны адным агульным імкненнем—зрабіць «Комунарку» найлепшай фабрыкай у БССР.

Цяжка пералічыць усіх свядомых людзей харчовай прамысловасці, час ад часу мы знаёмімся з імі на старонках нашага друку. Назавем тут толькі некаторых. Група гаспадарнікаў—добрыя дырэктары прадпрыемстваў: тав. **Карасік**—гомельскі «Спартак», тав. **Любін**—«Комунарка», тав. **Гурэвіч**—віцебскі маслабойны завод, тав. **Пучок**—віцебскі мясакамбінат, тав. **Каган**—завод «Чырвоны хімік».

Начальнікі цэхаў: тав. **Гамбург**—цэх мінеральных вод камбіната «Спартак», тав. **Бергман**—начальнік пранічнага цэха «Спартак», тав. **Анікеяў**—начальнік мякка-шакаладнага цэха «Комунаркі», тав. **Дзятковіч**—начальнік карамельнага цэха «Комунаркі», тав. **Пласкін**—лепшы брыгадзір віцебскага хлебазавода, тав. **Краснік**—лепшы брыгадзір менскага хлебазавода, тав. **Меерсон**—брыгадзір карамельнага цэха «Комунаркі».

Лепшыя прыбіральшчыцы фабрыкі «Комунарка»: тт. **Беланоўская** і **Остроўская.**

Лепшыя работніцы макароннай фабрыкі: тт. **Беркоўская, Зайцава** і **Казак.**

Лепшы рэдактар сценгазеты начыначнай станцыі «Комунаркі» работніца тав. **Буткевіч.**

Тав. **Брылон**—стары рабочы віцебскага мясакамбіната і шмат шмат інш.

Вельмі марудна, але расце чырвоны спіс перадавых прадпрыемстваў харчовай прамысловасці БССР. У чырвоным спісе значацца: менскі хлебазавод, віцебскі хлебазавод № 2, каўбасны цэх менскага мясакамбіната, фабрыка «Комунарка», цэх мінеральных вод камбіната «Спартак», віцебскі мясакамбінат, завод «Чырвоны хімік».

З вялікім уздымам сустрэлі прадпрыемствы занясенне іх на чырвоную дошку, праводзілі лятучкі, сходы, мабілізаваліся на барацьбу за далейшыя поспехі. Аднак віцебскі хлебазавод № 1—дырэктар тав. **Альтман**—некалькі захліснуўся ад поспехаў і самаздаволенасці. Калі ў Віцебску праводзілася ўсебеларуская канферэнцыя пекароў

ударнікаў, завод дапусціў перабоі ў снабжэнні насельніцтва хлебам і зусім не цікавіцца ўлікам сыравіны і выпускам гатовай прадукцыі.

Па раду прадпрыемстваў нізка яшчэ якасць прадукцыі і ўзровень прадукцыйнасці працы, антысанітарыя, слабая працоўная дысцыпліна і барацьба за тэхвучобу, за аўладанне тэхнікай, не ўсе брыгады перашлі на соцметады працы, слаба разгортваецца ўдарніцтва і соцспаборніцтва. Многія прадпрыемствы яшчэ ганебна адстаюць у выкананні промфінплана.

Многія прадпрыемствы за гэты час пачысціліся, падцягнуліся: «Комунарка» у Менску і віцебскі мясакамбінат могуць служыць прыкладам чыстаты.

Аднак якасць харчовых прадуктаў далёка яшчэ не дасягнула таго ўзроўню, якога законна патрабуе працоўны спажывец. Барацьба за якасць—наша, неадкладная, першачарговая задача, бо трэба памятаць, што кожны дзень высоўвае ўсё новыя і новыя задачы, адпаведна з патрабаваннямі ўзорнай соцыялістычнай прамысловасці. Мы павінны вучыць і вучыцца заўважваць недахопы, больш увагі аддаваць дробязам, выхоўваць людзей, павышаць вытворчы і культурны ўзровень рабочых, навучыць іх трымаць у чыстаце свае цэхі, абсталяванне, апаратуру, інвентар.

Шырока разгорнутай партыйна-масавай работай вакол адозвы ЦК ВКП(б) ад 22-XII—33 г. настойліва змагацца за кожны яе пункт, давесці гэты важнейшы гаспадарча-палітычны дакумент да кожнага рабочага, не супакойваючыся на аднойчы праведзеным у снежні сходзе, асабліва маючы на ўвазе агромную цякучасць рабочай сілы на паасобных прадпрыемствах.

Трэба ўзяцца за важнейшы цэх харчавання—заводскія сталовыя, ліквідаваць іх казарменны выгляд, палепшыць якасць абедаў, упорна змагаючыся за вышуканне дадатковых прадуктаў харчавання, адаючы больш ўвагі бытавому і культурнаму абслугоўванню рабочых.

Мала пашыць і раздаць белыя халаты рабочым, трэба глядзець за тым, каб яны былі чыстыя, каб рабочыя беражна з імі абыходзіліся і сачылі за асабістай гігіенай.

Змагаючыся за рэалізацыю адозвы ЦК і падагульняючы сваю работу, трэба параўноўваць яе рэзультаты не з тым, што было год ці паўгода назад, а з тымі патрабаваннямі, якія прад'яўляюцца попытам на прадукцыю харчовай прамысловасці, забяспечваючы безупынны паступальны рух яе ўперад.

Уся работа па агляду павінна быць цесна ўвязана з друкам. У сістэматычным асвятленні ходу агляду, у мабілізацыі грамадскай думкі для кантролю—баявая задача нізавога друку, насценных газет.

Ужо зараз трэба пачаць рыхтавацца к зіме. Забяспечыць заводы палівам (сушка і вывазка торфу, дроў), арганізаваць пляцоўкі і павеці для хавання паліва, правесці рамонт катлоў, шырока выкарыстаць вопыт тэрмаізаляцыі завода «Чырвоны хімік».

Шырока разгарнуць ініцыятыву і самадзейнасць рабочых у арганізацыі суботнікаў па ачыстцы і рамонту інтэрнатаў, дапамогу ў рамонце рабочых кватэр, будаўніцтве сараяў і склепаў (асабліва для рабочых, якія маюць аднаасобныя гароды), ў разгортванні майстэрняў для пачынкі абутку і адзення.

Штодзенныя клопаты аб палепшанні добрабыту рабочых—неад'емная частка барацьбы за павышэнне прадукцыйнасці працы, за выкананне промфінплана

Майскі пленум ЦК КП(б)Б, абгаварыўшы работу прамысловасці БССР, у тым ліку і харчовай прамысловасці, вызначыў у сваіх рашэннях канкрэтныя мерапрыемствы для ліквідацыі адставання і прарываў прамысловасці БССР, для далейшага яе ўздыму з тым, каб вывесці нашу рэспубліку па прамысловасці ў рады перадавых абласцей Саюза.

Пленум звярнуў «ўвагу партыйных арганізацый на тое, што важнейшай прычынай дрэннай работы прамысловасці БССР з'яўляецца нездавальняючае правядзенне ў жыццё партыйнымі арганізацыямі рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і ўказанняў тт. **Сталіна** і **Кагановіча** па арганізацыйнаму пытанню; недастатковая перабудова партыйных арганізацый, у асаблівасці на заводзе, фабрыцы, у цэху, змене, брыгадзе». Пленум абавязаў неадкладна перабудаваць работу партыйных арганізацый, партыйнамасавую і арганізацыйную работу на прадпрыемствах у адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда ВКП(б) і ўказаннямі тт. **Сталіна** і **Кагановіча**.

Партыйныя, камсамольскія, прафсаюзныя, фабрычна-заводскія арганізацыі, кіраўнікі харчовай прамысловасці, інжынерна-тэхнічная грамадскасць і ўся маса рабочых харчовай прамысловасці БССР павінна на аснове ўказанняў XVII партз'езда, рашэнняў майскага пленума ЦК КП(б)Б аб рабоце харчовай прамысловасці БССР зараз-жа пераключыцца на большэвіцкую барацьбу, каб у другім паўгоддзі 1934 г. зрабіць усе прадпрыемствы харчовай прамысловасці БССР перадавымі.

Справа большэвікоў—забяспечыць выкананне рашэнняў ЦК і вывесці харчовую прамысловасць БССР у рады перадавых прадпрыемстваў Саюза.

---

І. Амбражунас
Я. Грэбенчык

# Развіццё комунальнай гаспадаркі і добрабыту гарадоў—на вышэйшую ступень

„Яшчэ трэба вельмі многа ўвагі аддаць комунальнай гаспадарцы. Яна яшчэ знаходзіцца ў нас у нездавальняючым становішчы. Добрабыт нашых гарадоў, жыллёвае будаўніцтва адстае ў нас ад росту прамысловасці. Нам неабходна, апрача павелічэння асігнаванняў на комунальнае і жыллёвае будаўніцтва, шырэй уцягнуць у гэту справу рабочую самадзейнасць на барацьбу за добрабыт нашых гарадоў, за чыстату ў рабочым жыллі" (з прамовы т. Гікало на XV з'ездзе КП(б)Б).

У выніку дасягнутых пад кіраўніцтвам партыі і яе правадыра тав. Сталіна велізарнейшых поспехаў у справе індустрыялізацыі і на базе яе—соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі значна палепшылася матэрыяльнае і культурна-бытавое становішча працоўных мас. Карэнным чынам змяніўся соцыяльна-эканамічны твар нашых гарадоў і раду іншых населеных пунктаў. Індустрыялізацыя краіны, бурны рост прамысловасці выклікалі значнае павелічэнне пролетарскага насельніцтва гарадоў. На прыкладзе Менска, Віцебска, Гомеля, Магілева, Оршы з вельмі мала развітай у мінулым дробна-саматужнай прамысловасцю і нязначнай праслойкай рабочага насельніцтва, а зараз—буйнейшых прамысловых цэнтраў з перадавымі, пабудаванымі ў апошнія гады, індустрыяльнымі прадпрыемствамі—мы ясна і наглядна бачым, куды і як развіваліся і развіваюцца нашы гарады. Разам і на аснове далейшага бурнага народна-гаспадарчага ўздыму яшчэ больш і больш узрастае культурны ўзровень працоўных, якія зусім правільна ставяць перад гарадской гаспадаркай больш значныя па аб'ёму і якасна новыя задачы ў справе задавальнення сваіх жыллёва-комунальных і бытавых патрэб.

„Пытанне аб гарадах і гарадской гаспадарцы вышла ўжо за звычайныя рамкі так званага добрабыту і стала пытаннем вялікага палітычнага і эканамічнага значэння" (з даклада т. Кагановіча на чэрвеньскім пленуме ЦК ВКП(б) у 1931 г.).

Пленум ЦК ВКП(б) (чэрвень 1931 г.) паставіў праблему гарадской гаспадаркі, як важнейшую праблему карэннай рэканструкцыі пролетарскага горада і фарсіраванага развіцця і ўздыму комунальнай гаспадаркі да ўзроўню агульнага развіцця ўсёй народнай гаспадаркі.

Пад кіраўніцтвам партыі ў БССР праведзена грамаднейшая работа па палепшанню гарадской гаспадаркі. Асабліва за апошнія гады шырока разгарнулася значнае па свайму аб'ёму жыллёвае і комунальнае будаўніцтва ў прамысловых і культурных цэнтрах, рабочых пасёлках і раёнах БССР.

За першую пяцігодку на комунальна-жыллёвае будаўніцтва па БССР было зрасходвана 120 млн. руб., з якіх на жыллёвае будаўніцтва каля 72-х млн. руб. (без прыватнага сектара) і на комунальную гаспадарку і добрабыт—48 млн. рублёў. За гэты час пабудавана новай жылплошчы 624 тыс. кв. метр. У Менску пабудаваны: трамвай, каналізацыя; у розных гарадах БССР—3 новыя водаправоды, 33 лазні, 3 механізаваныя пральні; значна павялічылася магутнасць комунальных электрастанцый, уведзена ў эксплаатацыю 16 гарадскіх электрастанцый; на адно машчэнне гарадоў затрачана ў першай пяцігодцы 10 200 тыс. рублёў.

Аб'ём капіталаўкладанняў толькі на комунальную гаспадарку і добрабыт на 1933—34 гг. (1 і 2 год другой пяцігодкі) выражаецца ў 23 млн. руб., або палавіна таго, што было зрасходвана на працягу першай пяцігодкі.

У разрэзе паасобных галін комунальнай гаспадаркі і добрабыту гэтыя капіталаўкладанні разбіваюцца наступным чынам:

**Фактычнае капіталаўкладанне за 1933 г. і план 1934 г. па комунальнай гаспадарцы БССР.**

| №№ п.п | Галіны гаспадаркі | 1933 г. Фактыч. асігнав. (у тыс. р.) | 1934 г. План (у тыс. руб.) | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Водазабяспечанне | 1 174,0 | 2 927,0 | |
| 2 | Каналізацыя | 532,0 | 1 800,0 | |
| 3 | Асенізацыя | 370,0 | 370,0 | |
| 4 | Лазні-пральні | 1 877,0 | 1 850,0 | |
| 5 | Трамвай | 1 895,0 | 1 970,0 | |
| 6 | Гужтранспарт | 102.0 | 532,0 | |
| 7 | Энергетыка | 90,0 | 575,0 | |
| | Усяго | 6 270,0 | 10 024,0 | |
| 8 | Машчэнне і тратуары | 2 116,0 | 2 476,0 *) | Апрача таго 605 тыс. па аперац. расходах на рамонт маставых |
| 9 | Масты | 140,0 | 235,0 | |
| 10 | Дрэнажы | 98,0 | 150,0 | |
| 11 | Асвятленне | 84,0 | 125,0 | |
| 12 | Зялёнае будаўніцтва | 123,0 | 350,0 | |
| | Усяго | 2 561,0 | 3 336,0 | |
| 13 | Пажарная ахова | 369,0 | 250.0 | |
| 14 | Будматэрыялы | — | 50,0 | |
| 15 | ОРС'ы | — | 100,0 | |
| 16 | Кадры | — | — | |
| 17 | Навук.-дасл. работа | — | 40,0 | |
| | Усяго | 369,0 | 440,0 | |
| | Разам | 9 170,0 *) | 13 800,0 | Выкананне паказана без 16 раёнаў |

Такім чынам, як відаць з гэтай табліцы, аб'ём капіталаўкладанняў у 1934 г. амаль на 5 мільёнаў больш, чым у 1933 г. Аднак, трэба адзначыць, як надзвычай адмоўнае з'явішча, што асваенне гэтых сродкаў ідзе вельмі марудна. Частка сродкаў, калі ўзяць 1933 год, астаецца нескарыстанай, не кажучы ўжо аб тым, што, дзякуючы зусім недапушчальнаму павелічэнню кошту будаўніцтва, фізічны аб'ём яго (будаўніцтва) па паасобных аб'ектах значна змяншаецца.

Так, па Менску ў 1933 г. з асігнаваных сродкаў асвоена ўсяго 77 проц. у той час, калі ёсць прамая дырэктыва партыі і ўрада—ператварыць сталіцу БССР у культурна ўпарадкаваны горад. Па Віцебску асвоена ў 1933 г. усяго 87 проц. асігнаванняў, па Гомелю—95 проц., па Оршы—89 проц., па Полацку—82 проц., па Мазыры—56 проц. Толькі Магілеўскі і Бабруйскі горсоветы поўнасцю асвоілі ўсе сродкі, адпушчаныя ў 1933 г. на добрабыт і комунальную гаспадарку.

У гэтым годзе ў радзе буйнейшых гарадоў паўтараецца леташняя гісторыя. Трэба з усёй рашучасцю сігналізаваць аб маючайся пагрозе неасваення сродкаў і ў гэтым годзе. Калі больш-менш здавальняюча ідзе пакуль асваенне сродкаў, асігнаваных на машчэнне гарадоў, то зусім дрэнна, злачынна марудна разгортвацца будаўніцтва такіх важнейшых аб'ектаў комунальнай гаспадаркі як водаправод, каналізацыя, трамвай, асабліва рэканструкцыя віцебскага трамваю.

Гомельскі горсовет зусім не падрыхтован да асваення такіх важнейшых, з пункту погляду добрабыту горада, аб'ектаў, як будаўніцтва новай каналізацыі і Нова-Беліцкага водаправода. Зусім дрэнна разгортваецца жыллёвае будаўніцтва: за першае паўгоддзе асвоена ўсяго каля 50 проц. капіталаўкладанняў на гэта будаўніцтва.

Да апошняга часу Менск, Гомель, Віцебск амаль не прыступілі да будаўніцтва дамоў спецыяліста. Менскі горсовет толькі зараз пачынае, і то чарапашымі тэмпамі, будаўніцтва двух 72-кватэрных дамоў. Слаба таксама ідзе будаўніцтва па Гомелю, Віцебску, Магілеву. Менскі горсовет неаднаразова змяняў пляцоўкі будаўніцтва, наогул несур'ёзна падышоў да выбару месца для будаўніцтва паасобных аб'ектаў з пункту погляду перспектыў развіцця горада, плана забудовы і асаблівасцей паасобных раёнаў горада (дом спецыяліста, гасцініца, 72-кватэрны дом).

Рад горсоветаў не зрабілі патрэбных для сябе вывадаў з паасобных надзвычай яркіх адмоўных фактаў комунальна-жыллёвага будаўніцтва ў мінулыя гады, калі некаторыя аб'екты будаваліся па 3—4 гады замест 1—2 год. Так, Віцебскі горсовет будуе буйнейшую ў БССР лазню (прапускной здольнасцю на 400 чал.) ужо каля 4-х год, а канца будаўніцтва яшчэ не відаць. У Мазыры лазня будуецца з 1930 г. Такое-ж становішча з пабудовай лазні ў Полацку і Оршы.

Менскі горсовет пачаў у 1932 г. будаўніцтва 3-га паверху над домам ЦСУ (надбудова) і да гэтага часу ніяк не можа яго скончыць. Па жылкааперацыі ў Менску з 1931—32 г. будуюцца 3 дамы: „1-е мая", „Электрык", „Сталіна", якія да гэтага часу яшчэ не скончаны; у Віцебску 4-х павярховы каменны будынак будуецца з 1930 г., а па жылкааперацыі з 1931 г. будуецца жылы дом ЖСКТ „Чырвоны акулярнік". У Гомелі з 1932 г. будуюцца 3 дамы; у Магілеве з 1930-31 г. 2 дамы; у Бабруйску з 1930 г. яшчэ не скончана будаўніцтва буйнейшага ў БССР 100-кватэрнага дома; у Полацку з 1932 г. будуецца стандартны 8-кватэрны дом; у Оршы з 1932 г.—2 дамы. Такіх прыкладаў можна прывесці многа. Наогул, як правіла, ні адзін горсовет

не прытрымліваецца тэрмінаў будаўніцтва, прынятых планам і зацверджаных урадам.

Гэта злачынная зацяжка тэрмінаў будаўніцтва прыводзіць да нерацыянальнага, безгаспадарчага скарыстання і амяртвення сродкаў, да зрыву канкрэтных дырэктыў партыі і ўрада па палепшанню жыллёвых і комунальна-бытавых патрэб працоўных.

Такое зусім недапушчальнае становішча з будаўніцтвам ёсць вынік адсутнасці кіраўніцтва і належнай зацікаўленасці з боку горсоветаў у своечасовым сканчэнні гэтых важнейшых аб'ектаў будаўніцтва. Гэта ёсць таксама вынік безадказнасці, нядбайнасці і безгаспадарчасці, існуючых яшчэ ў радзе гаркомгасаў і будаўнічых арганізацый.

Кіраўнікі гарадской гаспадаркі Менска, Віцебска, Гомеля, Полацка, Оршы, Бабруйска, Магілева не павінны забываць, што ім прыдзецца несці суровую адказнасць за такое становішча з будаўніцтвам.

Назіраюцца шматлікія факты значнага ўздаражання кошту будаўніцтва супроць каштарыса і зацверджаных урадам лімітаў. Так, напр., на будаўніцтва віцебскай лазні, якая, да рэчы кажучы, пераплануецца ўжо трэці раз, быў зацверджан каштарыс у 1930 г. на суму 769 тыс. руб., у 1934 г. быў павялічан да 1 077 тыс. руб. Скарыстана-ж на будаўніцтва лазні 981 тыс. руб. і зараз Віцебскі горсовет прад'яўляе яшчэ патрабаванне на дадатковыя асігнаванні 270 тыс. руб. На Полацкай лазні першы каштарыс прадугледжваў асігнаванні на 624 тыс. руб. Пасля каштарыс быў перагледжан і зацверджан на 759 тыс. руб.; фактычна затрачана 849 тыс. руб. і ёсць заяўка Полацкага РВК на дадатковыя асігнаванні 272 тыс. руб. Па Дзяржынскай электрастанцыі зрасходвана амаль у 2 разы больш, чым вызначана па каштарысу. Па многіх аб'ектах жыллёвага будаўніцтва таксама ёсць значныя перарасходы сродкаў.

З боку горсоветаў і будуючых арганізацый няма эканомнага расходвання сродкаў. Няма яшчэ належнай барацьбы за выкананне пастановы ўрада аб змяншэнні кошту будаўніцтва.

З якасцю будаўніцтва справа не заўсёды абстаіць добра. Можна прывесці многа прыкладаў, якія пацвярджаюць, што ні горсоветы, ні будаўнічыя арганізацыі не вядуць рашучай барацьбы за якасць будаўнічых работ. Будаўнічым кантролем Наркомгаса, між іншым, пры правядзенні абследвання якасці будаўніцтва першага дома спецыяліста ў Менску, знойдзена: „Месцамі ў кладцы сцен ёсць пусташоўка, надзвычай тоўстыя швы; месцамі негарызантальнасць і невертыкальнасць сцен. Асутнічаюць нішы для радыятараў. Абшыўка перагародак і паталкоў пад штукатурку дрэнна раскалваецца. Засыпка міжпавярховых перакрыццяў (сырой стружкай, глінай) зусім нездавальняючая. Прараб вельмі неахайна адносіцца да арганізацыі работ, распалажыў вялікую колькасць вапнавага раствору, пяску і інш. на міжпавярховых перакрыццях з перагрузкай іх супроць устаноўленых норм, што магло прывесці да сырасці і пагрозы развядзення грыбка".

Праведзена таксама праверка якасці пабудаваных у пасёлку „Чырвоны электрык" 5-ці двухпавярховых 8-кватэрных дамоў.

„Дамы заселены і эксплаатацыя іх зімой паказала, што сцены надзвычай цеплаправодны (людзі, якія ў іх жылі, мёрзлі, не гледзячы на ўзмоцненую топку пячэй). Такая вялікая цеплаправоднасць сцен выклікана тым, што абшыўка сцен каркасных дамоў усохлася, і паявіліся вялікія шчыліны. Засыпка сцен была праведзена нездавальняюча і з паяўленнем шчылін высыпаецца, ствараючы ў сце-

нах пустату. Да гэтага асноўнага дэфекта далучаецца нездавальняючае выкананне работ па іншых частках будаўніцтва, асабліва па перакрыццях. У больш дрэнным стане знаходзіцца шчытавы дом, сцены якога, з-за адсутнасці раскосаў, зусім перакасіліся.

Такое-ж становішча і на пабудове 24-кватэрнага дому ЖСКТ імя т. Сталіна: „Агідная кладка сцен, дым праходзіць праз сцены лесвічных клетак, печы і пліты дымяць. Аконныя пераплёты зроблены дрэнна, большасць з іх зусім не зачыняецца, у вокнах адсутнічаюць фортці. Дом пабудован без папярэдняга даследвання грунту, на месцы, дзе раней было балота. Гэта прывяло да таго, што ў ніжнім паверху паявілася сырасць". Аб'ект гэты ў якасных адносінах прадстаўляе яркі малюнак злачыннага падыходу кіраўнікоў будоўлі да выканання будаўнічых работ.

На будаўніцтве 56-кватэрнага дома „Комунар асветнік" выяўлены наступныя значныя дэфекты: „Кладка сцен зроблена з нізкасортнай, дрэнна апаленай і бясформеннай цэглы, не захавана гарызантальнасць радоў, паверхня сцен мае вялікія бугры і ўпадзіны. Вадасцёкі адсутнічаюць, дах пакрыт маламерным іржавым жалезам".

Да гэтага трэба яшчэ дадаць, што значная колькасць аб'ектаў жылых будынкаў будуецца без элементарных выгад бытавога характару.

Усе гэтыя факты гавораць аб тым, што дырэктывы партыі аб развіцці комунальна-жыллёвага будаўніцтва горсоветамі дрэнна выконваюцца. Многія горсоветы яшчэ не авярнуліся тварам да гэтай сваёй адказнейшай і галоўнейшай галіны работы. Яны фармальна падышлі да выкана ня адказнейшай палітычнай задачы, якой з'яўляецца палепшанне культурна-бытав га абслугоўвання працоўных і ператварэнне нашых гарадоў ва ўзорныя культурна-ўпарадкаваныя гарады, яны аказаліся дрэнна падрыхтаванымі да будаўніцтва 1934 года і дрэнна кіруюць комунальнай гаспадаркай.

Сапраўдныя прычыны такога нездавальняючага становішча трэба шукаць у тым, што „толькі заплеснявелыя бюракраты або блізарукія балбатуны могуць аб'ясняць неўпарадкаванне і бруд, дрэнную работу комунальных прадпрыемстваў аб'ектыўнымі прычынамі, недахопам матэрыялаў і т. д. Нядбайнасць і наплявацельскія адносіны комунальных і іншых бюракратаў да агромнага росту культурных запатрабаванняў мільённых мас рабочых і работніц—вось сапраўдная прычына гэтых поўнасцю яшчэ не ліквідаваных з'яў. Адбываецца ўсё гэта таму, што многія гарадскія советы замест таго, каб займацца жыллёвым будаўніцтвам і добрабытам гарадоў, па сутнасці самаадхіліліся ад гэтых сваіх важных абавязкаў" (перадавы „Правды" ад 20 сакавіка).

Трэба таксама адзначыць, што Наркамгас і яго сістэма (асабліва гэта датычыць Белдзяржпраекта) аказаліся таксама слаба падрыхтаванымі да будаўнічага сезону гэтага года. Апарат Наркамгаса недастаткова падрыхтаваўся і не забяспечыў канкрэтнага і практычнага кіраўніцтва ўсім комунальна-жыллёвым будаўніцтвам па гарадах і раёнах БССР.

Профсаюзы таксама яшчэ не павярнуліся тварам да комунальнай гаспадаркі, не дабіліся прыцягнення да актыўнага ўдзелу ў кіраўніцтве гарадской гаспадаркай профсаюзнай масы, яшчэ не разгарнулі належнай работы на гэтым шырокім участку сваёй дзейнасці, дзе практычна вырашаюцца пытанні палепшання матэрыяльна-бытавых умоў жыцця рабочых і працоўных мас горада.

Наркамгас і горсоветы павінны прыняць неабходныя практычныя меры для таго, каб час, які астаўся для будаўнічых работ, скарыстаць для поўнага асваення ўсіх сродкаў, асігнаваных у гэтым годзе на комунальную гаспадарку і добрабыт працоўных.

Трэба ўлічыць тое, што пераважная частка работ па комунальнай гаспадарцы (водаправод, каналізацыя, машчэнне) ёсць работы сезоннага характару і для іх ажыцьцяўлення асталося не больш 3—4 месяцаў.

Галоўнейшыя мерапрыемствы ў галіне добрабыту гарадоў:

**Зялёнае будаўніцтва.** Значны рост і разгорнутая соцыялістычная рэканструкцыя гарадоў і будаўніцтва новых, соцыялістычнага тыпу населеных пунктаў патрабуе большай увагі совецкіх, гаспадарчых, профсаюзных арганізацый і ўсёй грамадскасці к добрабыту і прывядзенню ў культурна-ўпарадкаваны, узорны выгляд гарадоў БССР.

Адной з галоўнейшых і адказнейшых задач усіх арганізацый у гэтай важнай справе (добрабыце гарадоў) з'яўляецца азеляненне гарадоў, рабочых пасёлкаў, прамысловых прадпрыемстваў, цэхаў, жылых дамоў, будаўніцтва паркаў, сквераў, арганізацыя аранжэрэйнай гаспадаркі і т. д. Горсоветы і грамадскія арганізацыі ў гэтым напрамку яшчэ вельмі мала зрабілі.

Не ўлічан агромны і вельмі цікавы вопыт праведзенай работы па азеляненню ў Маскве, Харкаве, дзе ў гэту работу была ўцягнута ўся грамадскасць, комсамольцы, піонеры, жакты, дзе ў справе азелянення дасягнуты буйнейшыя поспехі. Існуючыя скверы, паркі, лінейныя насаджэнні ў гарадах БССР (Менск, Віцебск, Магілеў, Гомель) знаходзяцца ў нездавальняючым стане і вельмі часта псуюцца.

Горсоветы і жакты не выконваюць пастановы СНК ад 25/XII—32 г. аб ахове зялёных насаджэнняў у гарадах. Карысць зялёных насаджэнняў на прадпрыемствах, у гарадах настолькі відавочна, што даказваць неабходнасць максімальнага развіцця зялёнага будаўніцтва зусім не патрэбна. Колькасць зялёных насаджэнняў у гарадах БССР крайне мізэрная і зусім недастатковая: у Менску на аднаго жыхара прыходзіцца 3,6 кв. мтр. зелені, у Віцебску—2, у Магілеве—10, у Бабруйску—2, у Барысаве—4, у Оршы—6, у Полацку і Рэчыцы—па аднаму кв. метру. Больш-менш здавальняючай нормай з'яўляецца 20 кв. метраў на аднаго жыхара, але і гэта гаворыць аб дрэннай рабоце па азеляненню гарадоў БССР.

**Водазабяспечанне.** Водазабяспечанне ў гарадах і раёнах БССР у пачатку другой пяцігодкі знаходзіцца на надзвычай нізкім узроўні, а таму не адпавядае значна ўзросшым запатрабаванням у вадзе насельніцтва і ўсёй народнай гаспадаркі.

На 1 студзеня 1933 г. па БССР цэнтральных водаправодаў было ўсяго 8 (Менск, Віцебск, Гомель, Орша, Полацк, Магілеў, Бабруйск, Мазыр), астатнія гарады і раённыя цэнтры бяруць ваду пераважна з грунтавых калодцаў, стан якіх у большасці не адпавядае санітарным умовам. Вельмі абмежаваная частка гарадоў і раённых цэнтраў мае артэзіянскія калодцы.

Забяспечанасць насельніцтва вадой у гарадах, маючых водаправоды, на 1933 г. характарызуецца наступнымі данымі: па Менску на аднаго жыхара прыходзіцца 31,4 літры, па Віцебску—33,7, па Гомелю—17,5, па Магілеву—28,8, па Бабруйску—13,4, па Полацку—20,8, па Оршы—8,5. Нормы расходвання вады на аднаго жыхара з'яўляюцца сярэднімі для ўсяго насельніцтва гэтых гарадоў. Няма магчымасці, з-за адсутнасці вада-

мераў у большай частцы водаправодаў, выдзеліць аб'ём вады, якая скарыстоўваецца прамысловасцю. Таму ў вышэйуказаныя нормы расходвання вады на аднаго жыхара ўключана таксама і вада, якою карыстацца прамысловасць.

Водаправоды такіх гарадоў як Менск і Віцебск працуюць з перабоямі, напор у сетцы недастатковы, ад чаго вельмі часта верхнія паверхі пазбаўлены магчымасці карыстацца вадой.

Асабліва нядобра абстаіць справа ў Віцебску, дзе былі масавыя выпадкі забруднення грунтавых вод. Становішча з водаснабжэннем ў Магілеве з'яўляецца вельмі дрэнным, бо вада мае ў сабе многа жалеза, якое пагаршае якасць вады і можа прывесці да закупорвання водаправодных труб. Старая водаправодная сетка вельмі малога дыяметра і вельмі зношана. У сувязі з гэтым уцечка вады дасягае 40 проц. ад усёй паднятай вады.

У Оршы, з маючыхся двух скважын, адна не абсталявана і не эксплаатуецца, а другая патрабуе капітальнага рамонту, з-за чаго насосная станцыя працуе з вельмі нязначнай прадукцыйнасцю.

У Бабруйску артэзіянскія скважыны значна скарацілі дэбет вады. Яны знаходзяцца ў ніжняй частцы горада, куды сцякае забрудненая вада, што вельмі небяспечна ў санітарных адносінах. Таму неабходна водазборныя збудаванні хутчэй перанесці ў больш спрыяючае месца.

Вялікае адставанне Гомеля, Бабруйска, Оршы, Полацка па забяспечанасці вадой на аднаго жыхара аб'ясняецца, галоўным чынам, недастатковым развіццём водаправоднай сеткі. Гэта адносіцца і да ўсіх астатніх гарадоў БССР, дзе да водаправоднай сеткі не далучана значная колькасць домаўладанняў.

Далейшае фарсіраванае пашырэнне водаправоднай сеткі, рэканструкцыя існуючых водаправодаў—важнейшая задача ў галіне палепшання быту насельніцтва. Гэта трэба ўлічыць пры распрацоўцы плана развіцця комунальнай гаспадаркі на 1935 г.

**Ачыстка гарадоў.** Не гледзячы на выключную важнасць мераприемстваў па ачыстцы гарадоў у справе санітарнага іх аздараўлення—гэты ўчастак у сістэме комунальнага добрабыту гарадоў з'яўляецца найбольш адсталым і закінутым. Каб забяспечыць своечасовую ачыстку домаўладанняў, вуліц, плошчаў і месц грамадскага карыстання, трэба прывесці ў спраўнасць існуючы транспарт і прыняць тэрміновыя меры папаўнення яго, пераходзячы пры гэтым на механізацыю працэсаў ачысткі (пнеўматычная ачыстка) і паступовую замену гужавой цягі аўтамашынамі. Трэба прызнаць, што капіталаўкладанні на ачыстку гарадоў зусім недастатковы, неабходна асігнаваць больш сродкаў на гэту важнейшую галіну добрабыту гарадоў.

Па каналізацыі мы маем яшчэ больш горшае становішча. Толькі адзін горад (Менск) мае каналізацыйную сетку, але яна не ахватвае ўсё насельніцтва, якое карыстаецца водаправодам (даўжыня каналізацыйнай сеткі ў Менску—35,7 км., а водаправоднай—55 км.). Астатнія гарады каналізацыі не маюць і толькі ў гэтым годзе запраектован пачатак будаўніцтва каналізацыі ў Гомелі і некаторае нязначнае пашырэнне каналізацыйнай сеткі ў Менску.

Каналізацыя ёсць адзін з галоўнейшых і важнейшых элементаў палепшання добрабыту гарадоў, і на яе патрэбна выдзеліць больш сродкаў.

**Гарадское дарожнае будаўніцтва.** К пачатку другой пяцігодкі агульны размер гарадскіх вуліц, праездаў і плошчаў па

10 важнейшых гарадах БССР складаў 12018,8 тыс. кв. мтр., з якіх замошчана было толькі 3 314,7 тыс. кв. мтр. або 25,2 проц. Прычым удасканаленыя маставыя (пакрытыя брушчаткай, клінкерам) былі толькі ў Менску і Гомелі і іх плошча складала 48,7 тыс. кв. мтр. або 0,45 проц. ад усёй замошчанай тэрыторыі па Менску і Гомелю. Наогул удзельная вага замошчанай плошчы (да той, якую неабходна масціць) па ўсіх гарадах надзвычай нязначная, замошчаны галоўным чынам цэнтральныя часткі гарадоў.

Па паасобных гарадах наяўнасць маставых характарызуецца наступнымі лічбамі:

Менск мае 23,5 проц., Віцебск—35,9 проц., Гомель—13,7 проц., Магілеў—32,4 проц., а па астатніх гарадах процант замашчэння яшчэ больш нізкі. Яшчэ горш абстаіць справа ў раённых цэнтрах, як напр., Мсціслаў—12 проц., Рагачоў—10 проц., Быхаў—5 проц., Горкі—16 проц., Шклоў—7 проц., Крычаў—13 проц., Клімавічы—6 проц. Многія раённыя цэнтры зусім не маюць замошчанай плошчы.

Не кажучы ўжо аб вялікім значэнні маставых з пункту погляду добрабыту і аздараўлення гарадоў і раённых цэнтраў, трэба мець на ўвазе, што надзвычай узросшы грузапаток і ўсё павялічваючаяся насычанасць народнай гаспадаркі аўтатранспартам патрабуюць больш сур'ёзнай увагі да фарсіраванага развіцця дарожнага будаўніцтва ў гарадах і населеных пунктах.

Планам 1934 года прадугледжваецца значны аб'ём работы па замашчэнню ў першую чаргу важнейшых магістральных вуліц і праездаў, а таксама значныя работы па замашчэнню акраін горада. Але асігнаванні гэтыя з'яўляюцца зусім неда тарковымі. У 1935 г. трэба даць больш сродкаў на машчэнне гарадоў.

**Лазне-пральнае будаўніцтва.** Абслугоўванне працоўнага насельніцтва лазнямі і пральнямі зусім нездавальняючае. Гэта рэзультат, галоўным чынам, адсутнасці дастаткова развітой сеткі іх, з чаго выцякае крайняя неабходнасць будаўніцтва новых (маючых важнае бытавое значэнне прадпрыемстваў), культурных, прасторных, з усякімі выгодамі лазень і пралень.

Сапраўды, ці можна прызнаць здавальняючым наяўнасць лазень, хоць-бы ў сталіцы БССР—у Менску? Ні ў якім разе. Менск мае 4 комунальныя лазні, з якіх тры пабудаваны ў мінулым стагоддзі, маюць надзвычай нізкую прапускную здольнасць, тэхнічна зношаны і зусім не прыстасаваны да мала-мальскі культурнага абслугоўвання насельніцтва. Да гэтага трэба дадаць, што ўтрымліваюцца яны ў такім антысанітарным стане (са столі цячэ, сцены і падлога брудныя, раздзявальня таксама брудная і вельмі цесная), што нават пры крайняй неабходнасці многія адмаўляюцца ад „прыемнасці" памыцца ў менскіх (і не толькі ў менскіх) лазнях.

Не лепшае становішча з лазнямі і па астатніх гарадах БССР. У 10 буйнейшых гарадах БССР ёсць усяго 39 лазень, з якіх 21 комунальная і 18 ведамственых. Агульная колькасць месц у гэтых лазнях, калі ўзяць мінімальную норму, выражаецца ў 1 8 0, з якіх на комунальныя лазні прыпадае 1 120 месц. У гэтых гарадах сярэдняя колькасць памывак у год на 1 чалавека складае 8, што з'яўляецца зусім ненармальным.

Пры такім дрэнным становішчы з лазнямі Віцебскі горсовет, Оршанскі, Полацкі РВК ніяк не могуць скончыць чатыры гады таму назад пачатыя будавацца лазні, а Менскі горсовет ніяк не можа

справіцца з будаўніцтвам невялікай серабранскай лазні з прапускной здольнасцю ўсяго на 100 чалавек.

Пуск віцебскай, полацкай, оршанскай лазень (на 807 месц) значна палепшыў-бы забяспечанне патрэб насельніцтва па гэтых гарадах. Адказнейшай задачай Менскага, Віцебскага, Полацкага, Оршанскага горсоветаў з'яўляецца сканчэнне і ўвод у эксплаатацыю ў гэтым годзе будуючыхся лазень. Не менш важнай работай горсоветаў з'яўляецца рашучае і быстрае знішчэнне антысанітарнага становішча наяўных лазень. Барацьба за чыстую лазню ёсць не сезонная, ад выпадку да выпадку, работа, а пастаянная і адказная задача кіраўнікоў комунальнай гаспадаркі.

У Менску крайне неабходна запраектаваць на 1935 г. будаўніцтва буйнай, з усімі выгодамі і (калі можна так выразіцца) па апошняму слову санітарнай тэхнікі, лазні, якая задаволіла-б узросшыя культурна-бытавыя запатрабаванні працоўных мас. Таксама трэба шырэй разгарнуць будаўніцтва лазень і па астатніх гарадах і раёнах БССР.

Вельмі важным фактарам у справе лепшага здавальнення бытавых патрэб працоўных з'яўляецца разгортванне будаўніцтва пралень.

**Гарадскі комунальны транспарт.** Развіццё гарадскога транспарта пакуль яшчэ значна адстае ад развіцця нашых гарадоў. У прыватнасці, наяўны гужтранспарт толькі ў вельмі нязначнай меры абслугоўвае комунальныя патрэбы.

Пераважная частка грузазвароту па комунальна-жыллёвай гаспадарцы абслугоўваецца транспартнымі арцелямі і прыватна-уласніцкім транспартам. Вельмі слаба развіт у БССР аўтобусны транспарт—найбольш важны сродак перамяшчэння ў нашых умовах. Толькі ў апошні месяц, і то ў адным Менску, паявіліся „таксі".

Павелічэнне ўласнага комунальнага транспарта, фарсіраванае развіццё аўтобуснага транспарта і таксі—неадкладная задача гарадскіх советаў.

Па трамвайнай гаспадарцы асноўнымі задачамі з'яўляюцца:

а) пашырэнне трамвайнай сеткі ў Менску з больш поўным ахватам прамысловых і населеных раёнаў горада, улічваючы перспектывы эканамічнага развіцця Менска, прырост насельніцтва і т. д. Трэба мець на ўвазе, што па Менску мы маем вялікую перагрузку рухомага састава, якая даходзіць да 15 чал. на вагона-клм.;

б) поўная рэканструкцыя і пашырэнне сеткі віцебскага трамвая, уся гаспадарка якога (рэльсы, рухомы састаў) амаль поўнасцю зношана. Віцебскі трамвай пабудаван у 1898 г. і мае метравую каляю.

в) крайне неадкладным з'яўляецца будаўніцтва трамвая ў Гомелі—адным з буйнейшых прамысловых і культурных цэнтраў БССР. Будаўніцтва трамвая ў Гомелі трэба распачаць у 1935 годзе.

**Жыллёвае будаўніцтва.** У соцыялістычнай перабудове быту, адпавядаючай гіганцкім тэмпам росту народнай гаспадаркі, адно з цэнтральных месц займае жыллёвае будаўніцтва. Падрабязную характарыстыку становішча жыллёвага пытання ў БССР мы ў бліжэйшы час дамо асобна. Зараз мы хочам звярнуць увагу на тыя задачы, якія стаяць перад намі ў гэтым годзе: па БССР у 1934 г. аб'ём жыллёвага будаўніцтва выражаецца ў 440 тыс. куб. мтр. супроць 137 тыс. у 1933 г., або рост на 225 проц. супроць 1933 г. З гэтай колькасці выканкомамі і жылкааперацыяй у гэтым годзе павінна быць пабудавана новай плошчы 276 тыс. куб. мтр. У гэтыя лічбы не ўключан аб'ём пераходзячага жылбудаўніцтва з 1932 на 1933 г. і з 1933 г. на 1934 г. Поўнае ажыццяўленне ўсёй праграмы

будаўніцтва гэтага года будзе мець агромны ўплыў на палепшанне жыллёвага становішча працоўных. Барацьба за своечасовае і поўнае выкананне гэтай значнай праграмы жылбудаўніцтва — адказнейшая задача горсоветаў, жылкааперацыі, наркаматаў і будаўнічых арганізацый. Рашучая барацьба за якасць будаўніцтва, супроць нядбайных, а вельмі часта наплявацельскіх адносін да будаўніцтва культурнага і ўпарадкаванага памяшкання, супроць уздаражання будаўніцтва, павінна стаяць у цэнтры ўвагі ўсіх будуючых арганізацый і ўсёй грамадскасці.

Мы маем зусім ясную пастанову ўрада ад 22|V 1934 г. адносна таго, якія жыллёвыя будынкі павінны будавацца, якія выгоды павінны быць у іх. Ніякага адступлення ад гэтага дапускаць нельга. Першачарговай задачай таксама з'яўляецца поўнае выкананне ўсяго плана капіталаўкладанняў і рамонт жыллёвага фонду, на які ў гэтым годзе затрачваецца 7 мільёнаў руб. (5,5 мільёна па жылкааперацыі і 1,5 мільёна па выканкомах).

Барацьба за захаванасць кожнага метра жыллёвай плошчы, барацьба супроць безгаспадарчага вядзення жыллёвай гаспадаркі, барацьба супроць запушчанасці жыллёвага фонда павінна весціся яшчэ больш рашуча, чым да гэтага часу.

# КАНСУЛЬТАЦЫІ



## У рэдакцыю часопіса „Большэвік Беларусі“

*У СССР немагчыма ні абсалютная, ні дыферэнцыяльная зямельная рэнта, бо рэнта ёсць падачка зямельнаму ўласніку, а ў нас прыватная ўласнасць на зямлю адсутнічае.*

*Так я разумеў гэта, прапрацаваўшы «Пачатковы курс палітэканоміі» Сегаля. Але, праглядаючы архіў нашай газеты «Палеская праўда» за 1932 г., я сустрэў пастанову Гомельскага горсовета «Аб парадку ўзімання зямельнай рэнты па Гомелю і раёну». Калі я чытаў пастанову, то яшчэ не ведаў, што такое рэнта, а зараз зразумеў (магчыма і няправільна) рэнту, і гэта разуменне не вяжацца ў мяне з пастановай Гомельскага горсовета.*

*Нашы-ж вясковыя настаўнікі гавораць мне, што ў нас дыферэнцыяльная рэнта ёсць, а абсалютнай няма. Гэта тым больш падобна на словы нейкага «мудраца», які гаварыў, што «матэрыя абсалютна не існуе, а адносна магчыма яна і ёсць». Адносна-ж чаго існуе матэрыя—«мудрэц» так і не сказаў, бо сам не ведаў. Так, відаць, разумеюць нашы настаўнікі і рэнту.*

*Мучыць мяне гэта пытанне, а таму Вы, тав. з «БОЛЬШЭВІКА БЕЛАРУСІ», зрабіце ласку, дайце мне як мага хутчэй адказ: як разглядаць зямельную рэнту ва ўмовах капіталістычнай эканомікі і ва ўмовах СССР?*

*Толькі не адсылайце мяне да «Анты-Дзюрынга» Фр. Энгельса, таму што «Палеская праўда», калі я звярнуўся да іх, прапанавала мне чытаць «Анты-Дзюрынга». Аказваецца, што Энгельс піша ўсё правільна, зразумела (праўда, нямнога расшырана і таму цяжка чытаць), а вось пра СССР я там ніводнага слова не знайшоў. Пасля я даведаўся, што Энгельс жыў тады, калі «Прызрак брадзіў па Еўропе, прызрак комунізма», а зараз комунізм у СССР перастаў быць прызракам, ён пераўтвараецца ў рэчаіснасць.*

*Гэтага і не прадугледзеў т. ЕЎМЕНАЎ з «Палескай праўды».*

*Сам я комсамолец, скончыў Урыцкую ШКМ, Гомельскага раёна. Зараз думаю падрыхтавацца да іспытаў і паступіць у гомельскую СПШ. Вось Вы мне і дайце тэрмінова адказ.*

*З комсамольскім прыв. Леванаў.*

25/VII-34 г.

## Адказ тав. Леванаву

### Што такое зямельная рэнта і ці ёсць яна ў СССР

Зямельная рэнта выражае грамадскія адносіны капіталістычнай сельскай гаспадаркі, аснаванай на прыватнай уласнасці на зямлю і сродкі вытворчасці і на эксплаатацыі наёмнай працы. Пры капіталістычным земляробстве прадукты сельскай гаспадаркі вытвараюцца як тавары з мэтай атрымання прыбытку. Вытворчасць падпарадкавана інтарэсам росту капітала, а не здавальненню патрэбнасцей членаў грамадства.

Маркс ускрывае класавую прыроду зямельнай рэнты, паказваючы адносіны трох класаў, існаванне якіх прадпалагае капіталістычнае земляробства:

1. Наёмныя рабочыя, якія аддзелены ад зямлі і сродкаў вытворчасці, і таму прадаюць сваю рабочую сілу капіталісту-арандатару.

2. Капіталісты-арандатары, якія арандуюць зямлю ў землеўладальнікаў з мэтай прылажэння свайго капітала і атрымання прыбытку і апрацоўваюць зямлю працай наёмных сельска-гаспадарчых рабочых. Арандатары выплачваюць землеўладальніку за права прымянення капітала к зямлі ўстаноўленую дагаворам суму грошай.

3. Землеўладальнікі, якія здаюць зямлю ў арэнду капіталістам-арандатарам. Арэндная плата, якую яны атрымліваюць, складаецца з двух частак:

а) з процантаў за карыстанне тым капіталам, які раней укладзен у зямлю ў выглядзе ўгнаенняў, меліярацыі, гаспадарчых пабудоў і т. д.

б) з платы, якую землеўладальнік бярэ за дазвол капіталісту карыстацца самой зямлёю. Гэта апошняя частка арэнднай платы і ёсць зямельная рэнта.

Зямельная рэнта не ёсць «дар прыроды» землеўладальніку, як гэта сцвярджаюць буржуазныя вучоныя, а прадстаўляе частку дадатковай вартасці, вытвараемай с.-г. рабочымі, якую вымушан уступіць землеўладальніку капіталіст-арандатар.

Ствараемая с.-г. рабочым дадатковая вартасць распадаецца, такім чынам, на дзве часткі: адна ў форме сярэдняга прыбытку на ўкладзены капітал прысвойваецца непасрэдна капіталістам, другая паступае ў кішэнь уласніка зямлі ў выглядзе зямельнай рэнты.

Маркс адрознівае два віды рэнты: дыферэнцыяльную і абсалютную.

Існаванне дыферэнцыяльнай рэнты мяркуе наяўнасць капіталістычных адносін, абмежаванасць зямлі і розніцу ў прадукцыйнасці працы на розных зямельных участках у залежнасці ад іх пладавітасці і месцазнаходжання. Пры наяўнасці прыватнай уласнасці на зямлю дыферэнцыяльную рэнту атрымлівае землеўладальнік, а пры адмене прыватнай уласнасці на зямлю рэнту атрымлівае капіталістычная дзяржава. Ліквідаваць дыферэнцыяльную рэнту немагчыма пакуль існуе капіталістычны спосаб вытворчасці. Для ліквідацыі дыферэнцыяльнай рэнты неабходна знішчыць і самы капіталістычны спосаб земляробства, а гэта магчыма толькі пры адначасовым знішчэнні самой капіталістычнай сістэмы.

Дыферэнцыяльная рэнта ўзнікае, дзякуючы рознай прадукцыйнасці працы рабочых на рознай па якасці пладавітасці глебы паасобных зямельных участкаў, або блізкасці іх к рынку (дыферэнцыяльная рэнта I), а таксама рознай прадукцыйнасці працы рабочых пры дадатковых затратах капітала на адных і тых самых участках зямлі (дыферэнцыяльная рэнта II).

Дыферэнцыяльная рэнта ўтвараецца з розніцы, якая атрымліваецца, калі аднолькавыя па велічыні капіталы ўкладаюцца—адзін у лепшы ўчастак зямлі, другі ў горшы. Праца, прыкладзеная да больш ураджайнай зямлі, дае лепшы рэзультат, дае больш дадатковай вартасці, чым праца на горшых участках. Адзінка прадукта, здабытага на лепшых землях, патрабуе меншай затраты працы чым на кепскіх.

З прычыны абмежаванасці ўчасткаў лепшай зямлі попыт на хлеб і іншыя тавары сельскай гаспадаркі не можа быць пакрыты ўраджаем адных толькі лепшых участкаў, таму грамадская цана вытворчасці тавараў сельскай гаспадаркі вызначаецца ўмовамі вытворчасці на горшых землях.

Капіталісты, якія ўкладаюць свае капіталы ў лепшыя ўчасткі і атрымліваюць тавар дзешавей, чым на горшых участках, прадаючы іх па грамадскай цане вытворчасці, могуць атрымаць дадатковы прыбытак звыш сярэдняй нормы. Але гэты лішак загадзя ўлічваецца землеўладальнікам пры здачы зямлі ў арэнду і паступае яму ў рукі ў выглядзе рэнты.

Такім чынам крыніцай дыферэнцыяльнай, або рознаснай рэнты з'яўляецца розніца паміж індывідуальнай і грамадскай цаною вытворчасці.

Прыносяць рэнту не толькі лепшыя ўчасткі зямлі, але і горшыя ў сілу прыватнай уласнасці на зямлю, якая служыць асновай для атрымання абсалютнай рэнты.

Крыніцай абсалютнай рэнты з'яўляецца лішак каштоўнасці тавара над цаной вытворчасці з прычыны больш нізкага арганічнага складу капітала ў сельскай гаспадарцы чым у прамысловасці. Гэты лішак у сілу прыватнай уласнасці на зямлю зноў-такі ўлаўліваецца землеўладальнікамі ў форме абсалютнай рэнты.

Прыватная ўласнасць на зямлю затрудняе прыток капітала ў сельскую гаспадарку, адцягвае частку грамадскага капітала на непрадукцыйнае выкарыстанне—аплату арэнды. Капіталістам-арандатарам нявыгадна ўкладваць вялікія капіталы ў асваенне арандаванай зямлі, бо пасля таго, як скончыцца тэрмін арэнды, усе выгады ад палепшання якасці зямлі ў выглядзе меліярацыі, асушкі балот, аблясення і т. д. выкарыстоўваюць землеўладальнікі, уздуваючы яшчэ больш рэнту і цану зямлі. Усё гэта тармозіць развіццё сельскай гаспадаркі, служыць прычынай яе адставання ад прамысловасці, павялічвае рост процілегласці паміж горадам і вёскай.

Дадатковая вартасць, прысвоеная ў выглядзе рэнты землеўладальнікамі, непрадукцыйна выкарыстоўваецца імі ва ўшчэрб развіццю сельскай гаспадаркі. Зямельная рэнта выступае як даніна, якую грамадства выплачвае паразітычнаму класу за права ўласнасці на зямлю.

Пры капіталізме нацыяналізацыя зямлі, г. зн. поўнае знішчэнне прыватнай уласнасці і перадача яе ў рукі дзяржавы, знішчыла-б і абсалютную рэнту. Гэта значыла-б паніжэнне кошту сельска-гаспадарчых тавараў на суму, роўную абсалютнай рэнце, і садзейнічала-б больш хуткаму развіццю прадукцыйных сіл у сельскай гаспадарцы. У гэтым зацікаўлены не толькі рабочыя і сяляне, але і сама буржуазія. Аднак, буржуазія баіцца выступіць з патрабаваннем знішчыць прыватную ўласнасць на зямлю, паколькі напад на зямельную ўласнасць вельмі-б пагражаў уласнасці на сродкі вытворчасці саміх капіталістаў, і асабліва ў эпоху імперыялізма і абвастрэння класавай барацьбы паміж пралетарыятам і буржуазіяй буржуазія выступае супроць нацыяналізацыі зямлі.

На аснове тэорыі зямельнай рэнты Маркс—Ленін—Сталін ускрываюць асабліва цяжкае становішча сельскай гаспадаркі ва ўмовах капіталізма.

У царскай Расіі 30 тысяч памешчыкаў мелі 70 млн. дзесяцін зямлі, а на долю 10,5 млн. сялян прыпадала 75 млн. дзесяцін.

У сучаснай Германіі 7 землеўладальнікаў маюць у сваім карыстанні 772 тыс. га, тым часам як 5 млн. сялян— толькі 1588 тысяч га. Інакш кажучы, адзін буйны памешчык мае столькі-ж зямлі, колькі 350 тыс. сялян. Наколькі вяліка запазычанасць дробных арандатараў-сялян, відаць на прыкладзе фермераў передавой капіталістычнай краіны- -Злучаных Штатаў Амерыкі. У 1932 годзе валавая каштоўнасць прадуктаў сельскай гаспадаркі складала 6 мільярдаў далараў, а запазычанасць фермерства 10 мільярдаў далараў.

«Буржуазны парадак ператварыўся ў вампіра, які высасвае кроў і мозг з сялянскага землеўладання» **(Маркс).**

## Ці існуе рэнта ў СССР?

Совецкая дзяржава ў першыя-ж дні пасля Окцябра знішчыла прыватную ўласнасць на зямлю. Рабочыя і сяляне прагналі сваіх прыгнятацеляў памешчыкаў і капіталістаў. Уся зямля перайшла ў рукі пролетарскай дзяржавы.

Окцябрская рэволюцыя знішчыла прыватную ўласнасць на зямлю, знішчыла куплю і продаж зямлі, устанавіла нацыяналізацыю зямлі. Што гэта значыць? Гэта значыць, што селянін для вытворчасці хлеба зусім не мае патрэбы ў куплі зямлі. Раней ён гадамі накапляў сродкі, улязаў у даўгі, ішоў у кабалу, каб набыць зямлю.

Выдаткі на куплю зямлі перакладаліся безумоўна на кошт вытворчасці хлеба. Зараз селянін не мае ў гэтым патрэбы. Зараз ён можа вытвараць хлеб, не купляючы зямлі.

Соцыялістычная нацыяналізацыя зямлі знішчыла абсалютную і дыферэнцыяльную рэнту, аслабаніла сялян ад падатку ў 400 млн. руб., які яны штогод выплачвалі ў форме арэнднай платы на зямлю.

Нацыяналізацыя зямлі знішчыла перагародкі, пастаўленыя прыватнай уласнасцю на зямлю, вызваліла сялян ад рабскай прывязанасці да свайго кавалачка зямлі і палегчыла тым самым пераход к буйнай калектыўнай гаспадарцы. «Вось дзе вялікае рэволюцыйнае значэнне совецкіх аграрных законаў, знішчыўшых абсалютную рэнту, адмяніўшых прыватную ўласнасць на зямлю і ўстанавіўшых нацыяналізацыю зямлі» **(Сталін).**

Соцыялістычная нацыяналізацыя зямлі, ажыццёўленая нашай партыяй, дала магчымасць арганізаваць тысячы соўгасаў, сотні тысяч калгасаў, стварыць самае буйнае ў свеце земляробства, узброенае новай, перадавой навукай і тэхнікай.

На пастаўленае пытанне: «Ці ёсць рэнта ў СССР?»—мы можам сказаць, што ва ўмовах дыктатуры пролетарыята, ва ўмовах знішчэння прыватнай уласнасці на зямлю абсалютнай рэнты няма.

У нашай эканоміцы няма таксама і дыферэнцыяльнай рэнты, звязанай з панаваннем капіталістычнага спосаба вытворчасці.

Вядучую ролю ў эканоміцы краіны адразу сталі адыгрываць камандныя эканамічныя вышыні пролетарыята: прамысловасць, транспарт, банкі і т. д.

Не было глебы для дыферэнцыяльнай рэнты і ў дробнага таваравытворца ў земляробстве, паколькі аднаасобная гаспадарка вяла працоўнае землекарыстанне, і яго развіццё рэгулявалася пролетарскай дзяржавай. Перавагі ў адносінах пладавітасці глебы і месцазнаходжання таго ці іншага ўчастка зямлі ў аднаасобнікаў маглі прывесці

да некаторай розніцы ў іх працоўным даходзе. Але не ўсякі прыбытак з зямлі ёсць рэнта, а гэта часта забываюць, механічна разглядаючы розніцу ў працоўных прыбытках як дыферэнцыяльную рэнту.

Трэба памятаць, што там, дзе няма панавання капітала, там няма месца і дыферэнцыяльнай рэнце, бо няма вытворчасці дадатковай вартасці. У нашай эканоміцы ўсе катэгорыі капіталістычнай гаспадаркі— цана, капітал, дадатковая вартасць, прыбытак, рэнта—знішчожаны. У кулацкіх гаспадарках да перыяда ліквідацыі кулацтва як класа на базе суцэльнай калектывізацыі таксама не магло быць дыферэнцыяльнай рэнты, бо эксплаатацыя наёмнай працы насіла з прычыны невялікай удзельнай вагі кулацкай гаспадаркі ў эканоміцы краіны мясцовы характар. **А дыферэнцыяльная рэнта, як мы ўказалі, мае сваёй прадпасылкай агульнае панаванне капіталістычных адносін ва ўсёй эканоміцы, чаго ў совецкай гаспадарцы ніколі не было.**

К таму-ж партыя і ўрад у перыяд да ліквідацыі кулацтва як класа праводзілі палітыку абмежавання і выцяснення кулацтва.

У першую пяцігодку мы пабудавалі фундамент соцыялізма, зрабілі пануючай формай гаспадаркі соцыялістычны ўклад. Праводзячы палітыку індустрыялізацыі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі і на аснове яе ліквідацыю кулацтва як класа, мы ў СССР дабіліся канчатковай перамогі соцыялізма над капіталізмам. «Выходзіць, што капіталістычная гаспадарка ў СССР ліквідавана, а аднаасобна-сялянскі сектар у вёсцы аднесен на другарадныя пазіцыі» **(Сталін).** Значыць, канчаткова разрушаны надзеі кулацкіх ідэолагаў на рэстаўрацыю капіталізма. Сваёй шкодніцкай работай яны імкнуліся падарваць прынцып нацыяналізацыі зямлі, адстойвалі неабмежаваную арэнду і права наёмнай працы для кулацкіх гаспадарак, насаджалі адрубы і хутары з тым, каб узмацніць капіталізм.

Зараз «калгасы перамаглі канчаткова і беспаваротна... Трэба прызнаць, што працоўнае сялянства, наша совецкае сялянства, канчаткова і беспаваротна стала пад чырвоны сцяг соцыялізма» **(Сталін).**

Вас, тав. Леванаў, непакоіць пытанне: «Як-жа так: у нас знішчана прыватная ўласнасць на зямлю, няма рэнты, і ў той-жа час Вы чытаеце ў «Палескай праўдзе» пастанову Гомельскага горсовета аб парадку ўзнімання зямельнай рэнты па Гомелю і раёну?» Справа ў тым, што ў парадку дзяржаўнага заканадаўства, згодна пастанове III сесіі ЦВК СССР ад 12/XI—1923 г., уведзен рэнтны налог з зямель, якія знаходзяцца ў мяжы гарадскіх пасяленняў. **Гэты рэнтны налог нічога супольнага не мае з капіталістычнай рэнтай.** Гэты налог плацяць як дзяржаўныя прадпрыемствы, фабрыкі, заводы, установы, так і прыватныя асобы. Тут захаваўся толькі стары тэрмін «рэнта», але за ім крыецца зусім іншы соцыяльны змест.

У нас ужываецца тэрмін прыбытак. Але ўсім зразумела, што прыбытак соцыялістычных прадпрыемстваў мае зусім іншы характар. Пры капіталізме прыбытак ёсць форма дадатковай вартасці, прысвоеная капіталізмам, дзякуючы эксплаатацыі рабочых. У нас рабочы—сам гаспадар на сродкі вытворчасці. Значыць, аб эксплаатацыі рабочых не можа быць і гутаркі. Рабочы не прадае сваю рабочую сілу, а працуе для сябе, на свой клас, у інтарэсах грамадскасці.

Таксама і падаткі пролетарскай дзяржавы служаць крыніцай соцыялістычнага накаплення, сродкам барацьбы з капіталізмам, сродкам павышэння матар'яльна-культурнага ўзроўню працоўных.

Рэнтны падатак з'яўляецца адным з планавых рычагоў соцыялістычнага добрабыту гарадоў, новага будаўніцтва комунальнай гаспадаркі. Дзяржава выкарыстоўвае перавагу ў даходах з тых участкаў зямлі, якія выгадна раслаложаны, з мэтай пераразмеркавання іх шляхам падатку для карысці соцыялістычнага будаўніцтва, узмацнення мясцовага бюджэта гарадскіх советаў.

Таму грубую памылку робяць тыя таварышы, якія лічаць, што гэта ёсць дыферэнцыяльная рэнта.

**П. Меншыкаў.**

# За добраякасны сілос

Гістарычныя ўказанні тав. **Сталіна** на XVII партз'ездзе ва ўсю шырыню паставілі пытанне аб умацаванні і разгортванні соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Рашаючую ролю ў гэтай справе мае стварэнне моцнай кармовай базы. Зараз уся ўвага павінна быць накіравана ў бок найхутчэйшага забяспечання жывёлы ўсімі відамі неабходных кармоў, у тым ліку і сакавітых, праблема якіх у значнай ступені павінна быць вырашана шляхам сіласавання. У гэтых адносінах «1934 г. павінен і можа стаць годам пералому ва ўсёй жывёлагадоўчай гаспадарцы».

Сіласаванне кармоў павялічвае кармавую базу гаспадаркі, забяспечвае жывёлу сакавітым малакагонным кормам на працягу амаль усяго года. Як і ўсякі зялёны корм, сілос зяўляецца вітамінным і дыетычным кормам, які мае добры ўплыў на здароўе жывёлы і развіццё маладняка, павялічвае прадукцыйнасць жывёлы і пры правільным скарыстанні не пагаршае якасці малочнай прадукцыі.

Сіласаваць можна ў любое надвор'е. У гэтых адносінах сіласаванне мае значныя перавагі перад сушкай на сена, асабліва ў дажджлівае надвор'е. Як паказалі доследы Горацкай занальнай станцыі буйнай рагатай жывёлы, пры ўборцы віка-аўсянай мешанкі на сена ў часе дажджоў страты сухой матэрыі даходзілі да 57 проц., тым часам як пры сіласаванні той-жа культуры ў такое-ж надвор'е ў вялікай цэментаванай яме страты даходзілі толькі да 11 проц. Дрэннае надвор'е, неспрыючае сушцы на сена вікі-аўса, канюшыны, іх атавы, а таксама і атавы натуральных сенажацей, абавязвае кожнага гаспадарніка ўлічыць прыведзеныя факты і ва ўсіх такіх выпадках тэрмінова пераключацца на сіласаванне.

Найбольшая карысць ад сіласавання атрымліваецца тады, калі яно праводзіцца арганізавана і выконваецца тэхнічна-правільна. Кожны рабочы соўгаса і калгаснік павінен аўладаць тэхнікай сіласавання. Гэта задача лёгка можа быць выканана ў краіне будуючагася соцыялізма, дзе дасягненні навукі і тэхнікі праз большэвіцкія метады працы адразу знаходзяць сабе спрыяючыя ўмовы для масавага прымянення і развіцця.

Забяспечыць сіласаваным кормам добрай якасці не менш як 2½—3 тоны на дарослую галаву—цэнтральная задача соцыялістычнай жывёлагадоўлі ў разгортванні і ўмацаванні буйнай рагатай жывёлы.

## Што можна сіласаваць?

Для сілосу можна скарыстаць амаль усе расліны, якія высяваюцца ў гаспадарцы, як спецыяльна-сілосныя: сланечнік, кукурузу, тапінамбур, так і розныя іншыя: віка-авёс, канюшыну, кармавую капусту, сарадэлю, бацвінне корнеплодаў, бульбянік, пустазелле, асокі і атавы лугавых і штучных сенажацей. У крайніх выпадках, пры адсутнасці грубых кармоў, можна сіласаваць і галінкі розных лісцяных парод веснавой і летняй загатоўкі.

Усе расліны, якія ідуць на сілос для буйнай рагатай жывёлы, павінны ўбірацца і закладацца ў стадыі сілоснай спеласці, г. зн. у той час, калі яны даюць найбольшую колькасць спажыўных пераатраўных матэрый.

**Для галоўнейшых культур моманты ўборкі будуць наступныя:**

Сланечнік—убіраецца ад палавіны да поўнага цвіцення;

Кукуруза—ад малочнай да васковай спеласці насення;

Тапінамбур—увосень да пачатку земаразкаў;

Віка-авёс (мешанка)—у перыяд поўнага цвіцення і стварэння стручкоў;

Сарадэля—ад пачатку стварэння насення ў ніжнім ярусе;

Бульбянік—за 5—7 дзён да ўборкі бульбы. (Бульбянік, а таксама капусны ліст, апырсканы бардоскай або іншай атрутнай сумессю, сіласаваць нельга, за выключэннем тых выпадкаў, калі пасля апрысквання прайшлі дажджы, якія змылі з раслін атрутныя матэрыі);

Атавы розных траў і канюшыны—па меры адрастання іх, але, у кожным разе, да замаразкаў;

Бацвінне корнеплодаў—у часе ўборкі да замаразкаў;

Асока, пустазелле—да цвіцення.

## Тыпы сілосных збудаванняў

Сіласаванне праводзіцца ў рознага віду вежах і поўвежах, а таксама ямах і траншэях. Да сілосных збудаванняў прад'яўляюцца наступныя галоўныя запатрабаванні:

1) сцены і пакрышкі не павінны прапускаць паветра і вады;
2) гладкая, роўная ўнутраная паверхня іх;
3) адвеснасць сцен (за выключэннем траншэй);
4) трываласць і зручнасць загрузкі і выгрузкі корму.

Соўгасы і калгасы, не забяспечаныя поўнасцю сілоснымі збудаваннямі, павінны зараз-жа разгарнуць работу па копцы ям і траншэй. Месца для іх выбіраецца недалёка ад жывёльнага двара, больш-менш узвышанае, з такім разлікам, каб грунтавая вада не была бліжэй 0,5 метра да дна ямы або траншэі. Грунт трэба выбіраць шчытны, лепш за ўсё гліняны.

У залежнасці ад якасці грунту, глыбіні грунтавых вод і плана сіласавання, зялёная маса закладаецца ў ямы і траншэі, або вежы і поўвежы.

## Пабудова ям

Найлепшай формай ямы з'яўляецца круглая цыліндрычная, з роўнымі гладкімі адвеснымі сценкамі. Самы размер ямы дапускаецца ў 2 метры ў дыяметры і 2½ метры глыбіні, і самы большы— 3—3½ метры ў дыяметры і 3½—4 метры глыбіні. Дыяметр ямы не павінен быць больш глыбіні.

Пры ўказаных размерах кубатура ям будзе наступная:

| Глыбіня ў метрах | Дыяметр (у метрах) | | | | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| | 2,0 | 2,5 | 3,0 | 3,5 | |
| | Аб'ём у куб. метрах | | | | |
| 2,5 | 6,9 | 12,3 | — | — | 1 куб. метр умяшчае 0,5—08, т. зялёнай масы |
| 3,0 | 9,4 | 14,7 | 21,2 | — | |
| 3,5 | — | — | 24,7 | 33,7 | |
| 4 | — | — | 28,3 | 38.5 | |

Пры гэтых велічынях самы малы размер умяшчае 3—3½ тоны, а самы большы 19—20 тон зялёнай масы.

Пры наяўнасці цяжкага глiністага грунту і пры сярэднім размеры пабудовы, яму можна зусім не абліцоўваць. Калі грунт слабы, або яма вельмі вялікіх размераў, то каб ўнікнуць абвалу сцен патрэбна абліцоўка. Абліцоўку можна рабіць цэглай, дошкамі, аполкамі або плятнём.

Плятнёвыя ямы будуюцца наступным чынам: пры копцы размер ямы па дыяметру робіцца шырэй, чым трэба, на 50 см. Калы набіваюцца ў дно ямы на адлегласці ад сцен на 35 см. і заплятаюцца галлём. Прастора паміж плятнём, і сценкай ямы, а таксама і дно, забіваюцца глінай. Сам пляцень змазваецца (штукатурыцца) жырнай глінай, каб паміж галлём не было паветра і каб сценкі былі зусім гладкімі і адвеснымі. Плятнёвыя ямы могуць служыць на працягу некалькіх год.

## Пабудова траншэй

Траншэя прадстаўляе сабой яму прадаўгаватай формы з некалькі скошанымі к дну ямы сценкамі. Шырыня верху больш шырыні дна на 1½—1 метр (у залежнасці ад грунту). Размер траншэй робіцца наступны: глыбіня 2—2½ метры, шырыня па дну 2—2½ метры, шырыня па верху 2½—3½ метры. Траншэі робяцца ёмкасцю ад 50 да 100 тон зялёнай масы і прад'яўляюць да грунту тыя самыя патрабаванні, як і ямы. Пры глiністым грунце траншэі можна не абліцоўваць.

Для вызначэння велічынь траншэй можна карыстацца наступнай табліцай:

| Размер траншэі | Аб'ём 1-га пагоннага метра траншэі | 1-ы пагонны метр траншэі ўмяшчае сілосу |
|---|---|---|
| Глыбіня—2 метры . . . . . .<br>Шырыня па дну—2 метры . .<br>Шырыня па верху—$2^1/_2$ метры | 4,5 куб. метраў | 2,25 тон |
| Глыбіня—$2^1/_2$ метры . . . . .<br>Шырыня па дну—$2^1/_2$ мэтры .<br>Шырыня па верху $3^1/_2$ " | 7,5 куб. метраў | 3,75 тон |

Выходзячы з плана сіласавання ўстанаўляецца даўжыня траншэі, або робіцца некалькі траншэй. У тым выпадку, калі недалёка знаходзяцца грунтавыя воды, сілос можна закладаць у поўпадземных траншэях, для чаго, углыбіўшыся на 0,75—1 метр, над краямі траншэі насыпаецца зямля, якая стварае сценку. Такую траншэю неабходна абавязкова абліцаваць плятнём або дошкамі, а паміж абліцоўкай і сценкай набіваецца гліна.

## Падрыхтоўка да сіласавання пры наяўнасці збудаванняў

Сілосныя збудаванні, якія скарыстоўваліся ў мінулым годзе, патрэбна таксама падрыхтаваць да сіласавання і ў гэтым годзе. Вежы неабходна добра вымыць, ачысціўшы іх ад засохшага, а часам і запляснявелага корму і чыста выбраць са дна ваду. Пасля гэтага пабудову прасушваюць, для чаго ў вежы адчыняюць ніжнюю люкавую крышку і дзверкі слухавога акна ў страсе, каб стварыць непрарыўную струю свежага паветра. Трэба праверыць катлаван вежы. Калі выявяцца шчыліны (дзе-б яны ні былі), іх неабходна зараз-жа замазаць цэментам, бо бываюць выпадкі, калі грунтавыя воды прасочваюцца і псуюць збудаванне і сілос.

Неабходна праверыць нацяжэнне абручоў, каб клёпкі шчытна прыляглі адна да другой. Унутраную сценку трэба пабяліць 3 проц. вапнавым малаком, каб быць гарантыраваным ад псуцця вежы і для меншага разбухання клёпак пасля загрузкі сілоснай масы.

Цэментаваныя ямы трэба старанна вымыць, насуха выбраць ваду з дна, замазаць ўсе папсаваныя месцы цэментам і пабяліць вапнавым малаком.

Сцены неабліцаваных ям у глінiстым грунце, ў якіх у мінулым годзе праводзілася сіласаванне, трэба таксама ачысціць, зраўняць іх паверхню і, калі ёсць паглыбленні ў сценках, замазаць жырнай глінай. Трэба, каб сцены ям былі гладкія, каб пры асадцы сілоснай масы не было затрымак, а таксама, каб у няроўнасцях не асталася паветра, якое з'яўляецца ворагам сілосу.

Плятнёвыя ямы трэба папpавіць, прыгатаваць раствор гліны, як гэта робіцца для печак, і добра абмазаць ім сценкі. Пасля прасушкі, калі з'явяцца шчыліны, зноў паўтарыць абмазку глінай.

Перад загрузкай сценкі кожнага з сілосных збудаванняў павінны быць змочаны вадой.

## Уборка сілосных раслін

Уборка сілоснай масы робіцца жняяркамі і касілкамі, а пры адсутнасці машын і ўручную. Работу трэба арганізаваць такім чынам і так расставіць сілы, каб скошаная маса як па канвееру рухалася з поля ў сілоснае збудаванне, а не валялася ў полі каля вежы або ямы і не ляжала неўтрамбаванай у сілосным збудаванні. Трэба зразумець, што сілосная кампанія з'яўляецца такой-жа важнай і ўдарнай кампаніяй, як пасеўная і ўборачная і што сіласаванне нельга праводзіць «паміж іншым», карыстаючыся парапынкамі паміж другімі работамі.

Усе страты, якія мы маем ад недаацэнкі сілоснай кампаніі і няправільнай тэхнікі закладкі, хоць і не кідаюцца адразу ў вочы, але фактычна з'яўляюцца вельмі значнымі, яны падрываюць нашу кармавую базу і выкідаюць тысячы літраў малака ў паветра.

Пры правільнай тэхніцы закладкі сілосу страты спажыўных матэрый не павінны перавышаць 8—10 проц. Пры няправільнай-жа тэхніцы сіласавання гэты процант падымаецца значна вышэй.

### Вільготнасць сіласуемых раслін

Вільготнасць зялёнай масы пры закладцы сілосу можа хістацца ад 65 да 75 проц. У выпадку большай вільготнасці патрэбна дабаўка сухіх кармоў (мякіны, саломы). Пры меншай вільготнасці, наадварот,—патрэбна дабаўка больш вільготных кармоў або вады.

Вада, вільготныя або сухія кармы дабаўляюцца ў часе загрузкі і ўтрамбоўкі сілоснай масы. Вадой маса паліваецца пры трамбаванні роўнамерна па вышыні і больш каля сцен. Сухія і вільготныя кармы можна дабаўляць непасрэдна, падкідаючы іх на транспарцёр сіласарэзкі разам з зялёнай масай.

### Закладка зялёнай масы

Падвезеная да сілоснага збудавання маса павінна зараз-жа закладацца. Увесь сакрэт тэхнікі закладкі не заключаецца ў тым, каб як мага больш шчытна ўлажыць зялёную масу (выцесніць усё паветра) і гэтым стварыць спрыяючыя ўмовы для малочна-кіслага бражэння. Апрача дастатковай вільготнасці сіласуемых кармоў, яны павінны быць больш-менш дробна зрэзаны (пасечаны) і добра ўтрамбаваны.

Сілос рэжуць на сіласарэзках, саломарэзках, а ў крайніх выпадках, пры адсутнасці апошніх, сякуць востра адточанымі лапатамі. Абавязкова трэба рэзаць усе грубасцябельныя расліны. Даўжыня рэзкі павінна быць 2—5 см. Толькі такія расліны, як бацвінне буракоў, турнэпсу, бручкі, капусны ліст і атаву траў, можна сіласаваць без рэзання.

Для больш шчытнай укладкі неабходна старанная трамбоўка масы, якая робіцца людзьмі і жывёламі (коньмі, валамі, быкамі). Асабліва трэба звярнуць увагу на лепшую трамбоўку масы каля сцен. На аднаго рабочага плошча трамбоўкі ўстанаўляецца ў 5—7 кв. метраў.

Закладку ям і траншэй трэба рабіць у 2—3 дні, а веж не больш як ў 10—12 дзён. Кожны дзень слой закладзенай масы павінен мець не менш аднаго метра.

Для больш поўнага скарыстання ям і траншэй у сувязі з асяданнем сілосу, маса накладваецца вышэй краёў на ½—1 метр. Пры наяўнасці невялікай колькасці сілоснай масы, закладаць траншэі можна часткамі, для чаго ўстанаўляецца драўляны шчыт, які пасля можна і не вымаць, а прадаўжаць закладку наступнай часткі.

Пажадана сілос саліць—з разліку 2—5 кгр. солі на 1 тону масы.

Зялёную масу, забруджаную зямлёй перад сіласаваннем, трэба ачысціць.

### Закрыццё сілосу

Зараз-жа пасля закладкі масы сілоснае збудаванне павінна быць накрыта вада-і паветра-непранікальнай пакрышкай. Ямы і траншэі накрываюцца наступным чынам:

Зверху параўнянай масы накладаецца слой у 10—15 см. добра змочанай мякіны, торфу, моху або дрэўнага лісту, а на яго накладаюцца дошкі і аполкі. Дошкі не павінны даходзіць да краёў ямы на

5 см., каб пры асадцы не было затрымкі. У траншэях дошкі трэба класці папярок ямы. На дошкі накладаецца слой гліны ў 15—20 см., які змачваецца вадой і ўтрамбоўваецца, а потым засыпаецца зямля на 0,4—0,5 метраў таўшчыні.

У вежах паверх слою мякіны, торфу, моху накладаюцца дошкі і слой гліны толькі ў 10 см. таўшчынёй.

Калі па якіх-небудзь прычынах у час закладкі сілосу ў вежы робіцца перапынак і калі гэты перапынак не больш як 10 дзён, неабходна закладаць часовую пакрышку—слой мякіны, торфу, моху ў 5 см., якую трэба трымаць у вільготным стане. Пры перапынку больш як 10 дзён патрэбна пастаянная пакрышка.

Пасля закрыцця трэба сачыць за тым, каб у пакрышцы не ствараліся шчыліны, што асабліва мае месца ў першы месяц пасля закладкі сілосу. Гэтыя шчыліны ў ямах і траншэях засыпаюць зямлёю, а ў вежах замазваюць глінай.

Над ямамі і траншэямі будуюцца павеці, шалашы. Вакол іх, на адлегласці 0,5 метра, павінны быць зроблены канаўкі для адводу вод, якія могуць папсаваць сілос.

* * *

Забяспечым пабудову ям і траншэй, выканаем усе правілы сіласавання, не дамо загінуць ні аднаму кіло зялёнай масы, забяспечым сакавітым кормам жывёлу соўгасаў і калгасаў і гэтым выканаем указанні т. **Сталіна** аб умацаванні соцыялістычнай жывёлагадоўлі.

Ні адной гаспадаркі без сілосу—такую задачу павінны паставіць перад сабой соўгасы, калгасы і аднаасобнікі.

**А. Капусціна.**

---

# КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

## Супроць верхаглядства і палітычнай блытаніны

**В. М. Сыцько—«Крытыка трацкісцкай тэорыі імперыялізма». Менск 1934 г.**

**Беларуская Акадэмія Навук. Інстытут Эканомікі.**

**«Эканамічная бібліятэка» пад рэдакцыяй акадэміка Т. Ф. Домбаля.**

У пачатку 1934 г. Інстытут Эканомікі БелАН выдаў работу т. Сыцько «Крытыка трацкісцкай тэорыі імперыялізма». Бясспрэчна, што з'яўленне работы, прысвечанай барацьбе з контррэвалюцыйным трацкізмам, павінна разглядацца як буйны крок уперад у дзейнасці Інстытута Эканомікі БелАН. Паварот к такім задачам, як барацьба з трацкізмам, бясспрэчна яшчэ больш актуалізуе ўсю работу Інстытута Эканомікі, яшчэ цясней звяжа яго з праблемамі соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР і з барацьбой КП(б)Б супроць ворагаў марксізма-ленінізма.

Што прадстаўляе сабой трацкісцкая тэорыя імперыялізма? Гэта—састаўная частка ўсёй тэорыі трацкізма, як перадавога атрада контррэвалюцыйнай буржуазіі. Усебаковая і вычарпальная барацьба з ім прадпалагае выкрыццё да канца ўсіх яго састаўных частак, прыстасаваных да абслугоўвання інтарэсаў контррэвалюцыйнай буржуазіі.

Ленінская тэорыя імперыялізма ёсць састаўная частка ленінскага вучэння аб пролетарскай рэвалюцыі, аб дыктатуры пролетарыята.

Трацкісцкая тэорыя імперыялізма ёсць састаўная частка той контррэвалюцыйнай тэорыі Троцкага, якую ён прадастаўляе ў распараджэнне контррэвалюцыйнай буржуазіі.

Наўрад ці трэба доўга развважаць наконт значэння такой тэмы як выкрыццё трацкісцкай тэорыі імперыялізма.

Тав. Сталін падае нам сусветна-гістарычныя ўзоры непрымірымай і бязлітаснай барацьбы з трацкізмам, вучыць нас выкрываць яго як перадавы атрад контррэвалюцыйнай буржуазіі.

Іменна, выходзячы з указанняў тав. Сталіна, павінны мы падыйсці да ўсякай работы, якая ставіць сабе задачу барацьбы з трацкізмам.

Што-ж з гэтага пункту погляду прадстаўляе сабой выданая Інстытутам работа тав. Сыцько «Крытыка трацкісцкай тэорыі імперыялізма»? Ці адпавядае яна тым патрабаванням, якія партыя ўправе прад'явіць да работы, накіраванай супроць трацкізма—заклятага ворага ленінізма?

Уважлівы прагляд работы тав. Сыцько паказвае, што яна далёка не адпавядае партыйным патрабаванням. У палітычных адносінах работа тав. Сыцько багата такімі буйнымі памылкамі, якія змазваюць у радзе выпадкаў ролю трацкізма, як перадавога атрада контррэвалюцыйнай буржуазіі.

Навукова-даследчы тэарэтычны ўзровень работы тав. Сыцько вельмі нізкі. Работа гэта пабудавана па тыпу тых работ, якія ствараюцца шляхам склейвання цытат без прадумвання сутнасці справы, без спробы самастойнай сур'ёзнай навуковай прапрацоўкі пытання. Работа недапушчальна спрашчае, вульгарызуе рад пытанняў і скажае ў радзе выпадкаў марксізм-ленінізм.

Што-ж датычыць масавага чытача, то для яго работа тав. Сыцько прадстаўляе зусім няўдобаварымую страву, якая можа даць вельмі адмоўныя вынікі.

Разабраць усе памылкі работы т. Сыцько не прадстаўляецца магчымым. Прышлося-б спыняцца амаль на кожнай старонцы. Мы ставім сабе мэту паказаць толькі важнейшыя палітычныя і тэарэтычныя памылкі. Звернемся перш за ўсё да палітычнага боку работы.

Важнейшым пытаннем барацьбы з контррэволюцыйным трацкізмам з'яўляецца пытанне аб класавай яго сутнасці, аб яго класавых карэннях. На працягу ўсёй сваёй барацьбы з трацкізмам Ленін і Сталін з вычарпальнай паўнатой і яснасцю выкрылі класавую сутнасць трацкізма, паказваючы, як ён з ідэалогіі дробна-буржуазнага радыкалізма, упадаючы то ў «звышрэволюцыйны» раж, то ў паніку і капітулянцтва, ператварыўся ў перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі. Без ленінскага разумення класавай сутнасці трацкізма на кожным гістарычным этапе немагчыма сапраўдная барацьба з ім.

Тав. Сталін у сваім гістарычным лісце ў рэдакцыю часопіса «Пролетарская революция»—«Аб некаторых пытаннях гісторыі большэвізма»,—адзначыў трацкізм як перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі:

> «Хто даў контррэволюцыйнай буржуазіі духоўную зброю супроць большэвізма ў выглядзе тэзіса аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, у выглядзе тэзіса аб неўнікнёнасці перараджэння большэвікоў і т. п.? Гэту зброю даў ёй трацкізм»...
>
> «Хто даў контррэволюцыйнай буржуазіі ў СССР тактычную зброю ў выглядзе спроб адкрытых выступленняў супроць совецкай улады? Гэту зброю далі ёй трацкісты, спрабаваўшыя ўстроіць антысовецкія дэманстрацыі ў Маскве і Ленінградзе 7-га лістапада 1927 г.»...
>
> «Хто даў контррэволюцыйнай буржуазіі арганізацыйную зброю ў выглядзе **спроб устройства падпольных** антысовецкіх арганізацый? Гэту зброю далі ёй трацкісты, арганізаваўшыя сваю ўласную антыбольшэвіцкую нелегальную групу» [1])...

Справа ясная: трацкізм з'яўляецца перадавым атрадам контррэволюцыйнай буржуазіі таму, што выражае яе жыццёвыя інтарэсы ў барацьбе з совецкай уладай, з большэвізмам, таму што ён прадаставіў у распараджэнне контррэволюцыйнай буржуазіі цэлы арсенал сродкаў барацьбы з большэвізмам, ідучы ў яе авангардзе.

А як паступае тав. Сыцько? Ён спрабуе вытлумачыць трацкісцкую тэорыю імперыялізма, выходзячы выключна з механічнай метадалогіі.

Тав. Сыцько, правільна ўказваючы, што механіцызм і ідэалізм састаўляе тэарэтыка-метадалагічную аснову контррэволюцыйных поглядаў Троцкага, разам з тым не звязвае гэтыя погляды з класавай сутнасцю трацкізма, не ставіць пытання: а чым-жа ўрэшце вызначаецца сама механістычная метадалогія Троцкага?

Тав. Сыцько, даючы агульную ацэнку трацкізма, характарызуе яго як перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі. Але тав. Сыцько, пераходзячы да выкрыцця трацкісцкай тэорыі імперыялізма, не пры-

[1]) И. Сталин. „О некоторых вопросах истории большевизма“ Ленпартизд., 1933 г. стр. 19—20.

мяняе паданую характарыстыку для паказу контррэволюцыйнага значэння трацкісцкай тэорыі імперыялізма. Тав. Сыцько не раскрывае сувязі трацкізма з тэорыяй аўтаматычнага краху капіталізма. Тав. Сыцько зусім моўчкі абыходзіць выкрыты партыяй манеўр трацкістаў, падхапіўшых для прыкрыцця сваёй контррэволюцыйнай нагаты сцяг люксембургіянства з тым, каб затрымаць пераход рэволюцыянізуючыхся мас у бок комунізма.

Тав. Сыцько ўмудрыўся напісаць цэлую брашуру аб трацкісцкай тэорыі імперыялізма, абходзячы важнейшыя дакументы барацьбы партыі і тав. Сталіна з трацкізмам на сучасным этапе.

Абыходжанне гэтых пытанняў з боку тав. Сыцько яшчэ раз падкрэслівае характар усёй работы ў цэлым, яго выключнае «метадалагізаванне» барацьбы з трацкізмам, змазванне класавай сутнасці трацкізма і ў значнай меры апалітычны характар крытыкі трацкізма. Але і сама крытыка трацкісцкай метадалогіі прадстаўляе толькі відочнасць крытыкі.

Тав. Сыцько ўвесь час «змагаецца» з метадалогіяй Троцкага. Брашура мае нават спецыяльны раздзел—«Да характарыстыкі метадалагічных асноў трацкісцкай тэорыі».

Што-ж прадстаўляе сабою «барацьба» тав. Сыцько з метадалогіяй Троцкага?

Гэта—чысцейшая схаластыка, голыя дэкларацыі наконт механіцызма і ідэалізма. Слова «механіцызм» паўтараецца амаль праз кожны радок, але паказу таго, у чым заключаецца гэты механіцызм, няма.

У чым тав. Сыцько, напрыклад, бачыць эклектычнасць Троцкага? У тым, што ў Троцкага няма «строга вытрыманага ланцуга разважанняў» (стар. 8), у тым, што ў Троцкага «не знаходзіць месца ўнутраная супярэчнасць з'явішч» (стар. 8).

Тав. Сыцько сам нібы спахапляецца наконт выключнага значэння, якое ён надае «метадалагічным карэнням». Але як і што ён робіць? Вось што ён піша:

> «Але ў той час неабходна паказаць на тое, што метадалогія Троцкага не з'яўляецца адзінай прычынай яго контррэволюцыйных поглядаў» (стар. 10).

Што-ж, можа быць варта пашукаць прычыну яго контррэволюцыйных поглядаў у яго класавай сутнасці? Паслухаем далей:

> «Нельга лічыць няправільнай яго эканамічную творчасць толькі ў моц памылковай метадалогіі. Наадварот, ён дае ілжывую, няправільную эканамічную канцэпцыю не толькі таму і, перш за ўсё, не таму, што яго метадалогія з'яўляецца механістычнай, а таму, што ён зусім не зразумеў самай капіталістычнай рэчаіснасці, не зразумеў эпохі імперыялістычнага развіцця капіталізма і, карыстаючыся варожай марксізму-ленінізму метадалогіяй, прышоў да контррэволюцыі» (стар. 10).

Што-ж выходзіць з гэтага «наадварот»? Троцкі дае ілжывую эканамічную канцэпцыю таму, што... не разумее капіталістычнай рэчаіснасці. Як быццам «трацкісцкае неразуменне капіталістычнай рэчаіснасці» ёсць нешта іншае, чым «ілжывая эканамічная канцэпцыя Троцкага».

І ўсё-ж такі, пад канец аказваецца, што к «контррэволюцыі Троцкі прышоў, **«карыстаючыся варожай марксізму-ленінізму метадалогіяй»** [1]).

[1]) Курсіў наш—*В.* і *З.*

Зусім відавочна «заметадалагізаваўся» тав. Сыцько.

Дзякуючы свайму «чыста метадалагічнаму» падыходу да крытыкі трацкізма, тав. Сыцько робіць буйныя палітычныя памылкі як пры ацэнцы сучаснага трацкізма, так і яго гісторыі.

Гістарычныя этапы трацкізма з вычарпальнай яснасцю ўказаны тав. Сталіным.

> «Трацкізм быў фракцыяй меншавізма да ўступлення трацкістаў у нашу партыю, ён стаў часова фракцыяй комунізма пасля ўступлення трацкістаў у нашу партыю, ён стаў зноў фракцыяй меншавізма пасля выгнання трацкістаў з нашай партыі».
>
> «Сабака вярнуўся да сваёй блявоціны» [1]).

А што-ж піша тав. Сыцько?

> «**У сваім развіцці трацкізм эвалюцыянізаваў ад цэнтрызма к большэвізму**, будучы некаторы час фракцыяй комунізма, хістаўся паміж меншавізмам і большэвізмам, і ўрэшце зноў эвалюцыянізаваў у лагер контррэволюцыі, стаўшы перадавым яе атрадам» (стар. 5, курс. наш—**В. і З.**).

Безапеляцыйна заяўляючы аб эвалюцыі Троцкага ад цэнтрызма к **большэвізму**, не ўпамінаючы, што трацкісты, састаўляючы ў свой час фракцыю комунізма, не разглядаліся партыяй як сапраўдныя большэвікі, т. Сыцько сцвярджае, што трацкізм эвалюцыянізаваў к **большэвізму**, што Троцкі быў **большэвіком.**

І гэта ў той час, як тав. Сталін піша:

> «Нельга сцвярджаць, што «на пэўным гістарычным адрэзку часу» партыя лічыла Троцкага і трацкістаў сапраўднымі большэвікамі, бо такое прадпалажэнне карэнным чынам супярэчыць фактам з гісторыі нашай партыі за перыяд 1917—1927 гг.» [2]).
>
> «Трацкісты не былі **сапраўднымі** большэвікамі, хоць састаялі ў партыі і падпарадкоўваліся яе рашэнням» [3]).

Тав. Сыцько сказіў, такім чынам, партыйнае разуменне этапаў трацкізма і працягвае гэта скажэнне, калі піша:

> «Кожная эвалюцыя трацкізма суправаджалася, да **некаторай** ступені і эвалюцыяй у яго тэарэтычных паглядах» (стар. 5).

Пад флагам «эвалюцыі» тав. Сыцько процістаўляе свой погляд важнейшаму ўказанню тав. Сталіна аб тым, што

> «згарнуўшы свае антыбольшэвіцкія погляды і ўвайшоўшы такім чынам у партыю, трацкісты **не адмовіліся** ўсё-ж ад гэтых поглядаў, з прычыны чаго яны, гэтыя погляды, давалі аб сабе знаць з асаблівою сілай пры кожным павароце партыі і Комінтэрна» [4]).

Іменна характэрнаю рысай трацкістаў быў манеўр хавання, захавання сваіх антыбольшэвіцкіх поглядаў, на што зусім не зварочвае ўвагі тав. Сыцько, блытаючыся ўвесь час на тым, каб даказаць «эвалюцыю ў яго (трацкізма—**В.** і **З.**) тэарэтычных поглядах».

Тав. Сыцько характарызуе трацкізм як перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі. Аднак, у яго гэта характарыстыка застаецца **чыста фармальнай**. На справе ён вядзе барацьбу з трацкізмам так,

---

1) И. Сталин. О некоторых вопросах истории большевизма", Ленпартиздат, 1933, стар. 28 (Ответ т. Алехновичу).

2) Там жа, стар. 28.

3) Там-жа, стар. 26. Курсіў тав. Сталіна.

4) Там-жа, стар. 26—27. Курсіў тав. Сталіна.

як-бы трацкізм прадаўжаў заставацца фракцыяй комунізма. Замест таго, каб кіравацца характарыстыкай поглядаў Троцкага, як контррэволюцыйных, т. Сыцько характарызуе іх амаль усюды як **заблуджэнне і неразуменне** Троцкім ленінізма. Уся работа літаральна стрыкаціць наступнымі характарыстыкамі трацкізма:

«**Не зразумеўшы**[1]) марксісцка-ленінскай дыялектыкі»... (стар. 9).

«... **не зразумеў** самай капіталістычнай рэчаіснасці». (стар. 10).

«... **не разумее** ўнутраных законаў развіцця капіталізма... (стар. 11, 23).

«... **не разумеючы** характару і перспектыў Кастрычнікай рэволюцыі»... (стар. 11).

«... **неразуменне** ўнутранай прыроды манаполіі... (стар. 23—24).

«... **неразуменне таго**, што магчыма... перамога соцыялізма ў асобных краінах...» (стар. 30) і т. д. і т. п.

Хіба можна цяпер, калі трацкізм ператварыўся ў перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі і **адкрыта выступае з усёй сваёй уласнай контррэволюцыйнай тэарэтычнай, тактычнай і арганізацыйнай зброяй** супроць большэвізма, падкрэсліваць увесь час «неразуменне» Троцкім марксізма і не ўказваць тут-жа на варожасць ленінізму контррэволюцыйнай трацкісцкай тэорыі і практыкі?

— Троцкі **не разумее** (?!!) таго, што... магчыма перамога соцыялізма ў адной краіне!

Тое, што складае ядро, аснову, квінтэсенцыю, джала трацкізма, як перадавога атрада контррэволюцыйнай буржуазіі, рысуецца т. Сыцько, як нявіннае **«неразуменне».** Гэта па меншай меры гнілы лібералізм у адносінах трацкізма.

Уся справа зводзіцца выключна да «неразумення» Троцкага, да няведання і т. п. Акурат так сама як добры татка стараецца раз'ясніць няўцямнаму сыну цяжкія пытанні матэматыкі. Уся бяда Троцкага ў тым, што ён нічога не разумее. Увесь трацкізм—суцэльнае неразуменне.

Такі падыход тав. Сыцько звязан бясспрэчна з яго ігнараваннем на справе класавай сутнасці трацкізма. Толькі гэтым можна аб'ясніць, што тав. Сыцько, з аднаго боку, вызначаючы трацкізм як перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі, з другога—недапушчальна ідэалізуе яго. Вось як ён ізабражае трацкісцкі тэзіс аб немагчымасці пролетарскай рэволюцыі ў адной краіне:

> **«паколькі буржуазны лад сябе абсалютна і паўсямесна вычарпаў**[2]), пастолькі ўлада ўсюды і **адначасова**[3]) павінна перайсці ў рукі пролетарыята» (стар. 37).

І далей на працягу некалькіх старонак тав. Сыцько даказвае, што аўтамабільная, нафтавая і іншыя галіны прамысловасці ў 1929 г. далёка перашагнулі даваенны ўзровень:

> «Факты гэтыя зусім дастатковы для таго, каб паказаць неадпаведнасць тэорыі стагнацыі сапраўднаму гістарычнаму працэсу грамадскага развіцця, каб паказаць яе вымучаны і надуманы характар» (стар. 39).

Справа ў тым, што сцверджанне Троцкага аб адначасовай пролетарскай рэволюцыі (на справе—барацьба супроць перамогі пролетарскай рэволюцыі) выцякае ў Троцкага з усёй яго тэорыі імперыялізма,

---

1) Словы „неразуменне" падкрэслены намі—*В.* і *З.*
2) Курсіў наш—*В.* і *З.*
3) Курсіў аўтара.

з адмаўлення закона няроўнамернасці развіцця пры імперыялізме, з нявер'я ў сілы пролетарыята, з адмаўлення ролі працоўнага сялянства, як саюзніка пролетарыята, з адмаўлення ролі пролетарыята, як кіраўніка сялянства, а не з таго, што капіталізм «сябе абсалютна і поўнасцю вычарпаў», як уяўляе сабе трацкізм тав. Сыцько. Замест выкрыцця трацкісцкай тэорыі перманентнай рэволюцыі, якая адмаўляе магчымасць пабудовы соцыялізма першапачаткова ў адной краіне, т. Сыцько ўсю сваю ўвагу накіроўвае на довад таго, што капіталізм яшчэ расце і, напэўна, па думцы тав. Сыцько, яшчэ як сістэма сябе не вычарпаў.

Пачаўшы з таго, што «**па мове** Троцкага, абсалютная стагнацыя азначае...» і т. д., тав. Сыцько застаецца ў межах гэтай **«мовы»** і не **пераходзіць да «мовы»** партыйнай. Таму і выходзіць, што тав. Сыцько пазбягае ў якой-небудзь меры—у 1934 г.!—закрануць сусветны эканамічны крызіс і аперыруе ў абвяржэнні трацкісцкай тэорыі стагнацыі лічбамі ўздыму капіталістычнай гаспадаркі 1929 г.

Тав. Сыцько, напісаўшы цэлы раздзел аб барацьбе двух сістэм, умудрыўся зусім абыйсці пытанні сусветнага эканамічнага крызіса, надзвычай абвастрыўшага і паглыбіўшага агульны крызіс капіталізма, абыходзячы тым самым **сучасны этап** барацьбы двух сістэм, абмежаваўшыся толькі мімаходзь кінутай заўвагай аб гэтай барацьбе.

Таму і выходзіць, паводле слоў тав. Сыцько, што Троцкі, будучы нібы прыхільнікам адначасовай сусветнай пролетарскай рэволюцыі, **толькі дрэнна абгрунтоўвае яе шляхам** тэорыі стагнацыі, абвяргаемай перыядам «прасперыці»—адноснай стабілізацыяй 1922—1929 гг.

Гэта бясспрэчна ідэалізацыя трацкізма, колькі-б раз тав. Сыцько ні вымаўляў: трацкізм—перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі.

Зусім недапушчальным прыёмам з боку члена партыі з'яўляецца пісаць:

> «Сцвярджэнні Троцкага аб уцягненні СССР у сферу кан'юнктурных ваганняў сусветнага рынка, **супярэчаць яго ўласным пабудовам**[1]) аб поўнай прыастаноўцы развіцця прадукцыйных сіл у пасляваенным капіталізме...» (стар. 49).

Чаму «супярэчаць»? Ці не ў поўнай гармоніі знаходзяцца паміж сабою ўсе тэзісы контррэволюцыйнага трацкізма? Ці не ў інтарэсах перадавога атрада контррэволюцыйнай буржуазіі знаходзяцца **і** тэорыя стагнацыі **і** тэорыя залежнасці СССР ад сусветнага рынка?

У тав. Сыцько вельмі часта сустракаецца лёгкадумны падыход да пытанняў класавай барацьбы. Акрамя таго змазвання контррэволюцыйнасці трацкізма, якое толькі што было ўказана, тав. Сыцько па свойму ізабражае буржуазных эканамістаў наогул. Ён піша:

> «Зараз ужо і буржуазныя эканамісты не праводзяць атоесамліванне шляхоў руху савецкай і капіталістычнай эканомікі...» (стар. 49).

Тое, што некаторыя **паасобныя** буржуазныя эканамісты, стыхійна штурхаемыя сілаю фактаў, вымушаюцца—**і то па-свойму**—прызнаць, што «шляхі развіцця савецкай і капіталістычнай эканомікі нетоесамны»,—гэта тав. Сыцько прыпісвае буржуазным эканамістам наогул.

З боку тав. Сыцько мы маем тут бясспрэчную спробу прытуплення партыйнай пільнасці да буржуазных эканамістаў.

1) Курсіў наш—*В.* і *З.*

* * *

Своеасаблівасць «барацьбы» тав. Сыцько з трацкізмам у важнейшых пытаннях імперыялізма заключаецца ў тым, што ён кіруецца прынцыпам—на кожнае трацкісцкае «так» адказваць сваім «не» і наадварот.

Калі Троцкі зводзіць усе супярэчнасці імперыялізма выключна да знешніх супярэчнасцей, то тав. Сыцько лічыць неабходным звесці ўсе супярэчнасці імперыялізма толькі да ўнутраных.

Калі Троцкі сцвярджае, што існуе ў якасці асноўнай і несупярэчнай тэндэнцыі—цэнтралізацыйная тэндэнцыя, то тав. Сыцько скатваецца да адмаўлення ўсё ўзмацняючагася працэса цэнтралізацыі пры імперыялізме.

Такім чынам тав. Сыцько не выходзіць за межы трацкісцкіх **пастановак** пытання, знаходзіцца ў палоне гэтых **пастановак** і, замест выкрыцця іх, у радзе выпадкаў упадае ў «своеасаблівы» трацкізм навыварат.

Гэта не цяжка паказаць на асноўных праблемах імперыялізма.

Разгледзім пытанне аб унутраных і знешніх супярэчнасцях імперыялізма.

Адным з трох асноўных палажэнняў, з якіх зыходзіць ленінская тэорыя пролетарскай рэволюцыі, з'яўляецца

> «... ператварэнне капіталізма ў **сусветную сістэму** фінансавага зняволення і каланіяльнага прыгнечання горсцю «перадавых» краін гіганцкай большасці насельніцтва зямлі—усё гэта, з аднаго боку, ператварыла паасобныя нацыянальныя гаспадаркі і нацыянальныя тэрыторыі ў звенні адзінага ланцуга, называемага сусветнай гаспадаркай, з другога боку, раскалола насельніцтва зямнога шара на два лагеры»...[1]).

Тав. Сталін, указаўшы на агульны вывад Леніна аб тым, што **«імперыялізм ёсць пярэдадзень соцыялістычнай рэволюцыі»**, падкрэслівае далей:

> «Адпаведна з гэтым мяняецца і самы падыход да пытання аб пролетарскай рэволюцыі, характары рэволюцыі, яе аб'ёме, яе глыбіні, схеме рэволюцыі наогул.
>
> Раней да аналіза прадпасылак пролетарскай рэволюцыі падыходзілі, звычайна, з пункту погляду эканамічнага становішча той ці іншай краіны. Цяпер гэты падыход ужо недастатковы. Цяпер трэба падыходзіць да справы з пункту погляду эканамічнага становішча ўсіх ці большасці краін...»[2]).

і далей:

> «цяпер трэба гаварыць аб наяўнасці аб'ектыўных умоў рэволюцыі ва ўсёй сістэме сусветнай імперыялістычнай гаспадаркі, як адзінага цэлага... **бо** сістэма ў цэлым ужо даспела для рэволюцыі»[3]).

Пролетарская рэволюцыя з'яўляецца рэзультатам развіцця ўнутраных і знешніх супярэчнасцей ў сусветнай сістэме імперыялізма, рэзультатам прарыву імперыялістычнага фронта там,

---

[1]) **Сталин** „Вопросы ленинизма", 9-е выд., стар. 19—20. Курсіў тав. **Сталіна**.
[2]) **Сталин** „Вопросы ленинизма", 9 выдан., стар. 20.
[3]) **Там-жа**, стар. 20—21. Курсіў тав. Сталіна.

«дзе ланцуг імперыялізма слабей, бо пролетарская рэволюцыя ёсць рэзультат разрыву ланцуга сусветнага імперыялістычнага фронта ў найбольш слабым яго месцы...» [1]).

Такава, у асноўных рысах, ленінска-сталінская пастаноўка пытання.

Замест таго, каб пры крытыцы ультра-імперыялісцкай канцэпцыі Троцкага выходзіць з ленінска-сталінскага вучэння аб існаванні «сусветнай імперыялістычнай гаспадаркі, як адзінага цэлага» **(Сталін)**, замест таго, каб паказаць вызначаючую ролю ўнутраных супярэчнасцяй імперыялізма, у адносінах да яго знешніх супярэчнасцей, замест таго, каб паказаць, што знешнія супярэчнасці з'яўляюцца працягам унутраных, замест таго, каб выходзіць **з абвастрэння пры імперыялізме, як унутраных, так і знешніх супярэчнасцей,** з ленінскага закона няроўнамернасці развіцця пры імперыялізме і магчымасці, на гэтай аснове, прарыву імперыялістычнага ланцуга ў яго найбольш слабым звяне,—тав. Сыцько на справе ігнаруе ўстаноўлены Леніным і Сталіным тэзіс аб спеласці **ўсёй** сістэмы капіталізма да рэволюцыі.

Тав. Сыцько ўсю сваю ўвагу сканцэнтроўвае на крытыцы адмаўлення Троцкім унутраных супярэчнасцей імперыялістычных краін:

«Згладжванне, сціранне **ўнутраных** іманентных капіталізму супярэчнасцей, прытупленне антаганізмаў **унутры** імперыялістычных краін—такава агульная трактоўка праблем імперыялізма ў Троцкага». (стар. 31) [2]).

Тав. Сыцько лічыць, што даўшы такую характарыстыку, ён вычарпаў крытыку трацкізма і ў далейшым зусім абыходзіць рост знешніх супярэчнасцей пры імперыялізме.

На самай-жа справе Троцкі не толькі адмаўляе ўнутраныя супярэчнасці сучаснага капіталізма, але па-свойму—па-трацкісцку—трактуе знешнія супярэчнасці.

Як вядома, Троцкі, адмаўляючы ўнутраныя супярэчнасці капіталізма, разам з тым адмаўляе па сутнасці і знешнія супярэчнасці імперыялізма, змыкаючыся з соцыял-фашыстамі, з іх тэорыяй ультраімперыялізма і арганізаванага капіталізма.

Вядома, што Троцкі разглядае імперыялізм, як палітыку **планамернай** і ўсеагульнай цэнтралізаванай арганізацыі сусветнай капіталістычнай гаспадаркі, што Троцкі развіў варыянт тэорыі ультраімперыялізма ў выглядзе «тэорыі мірнага панамерыканскага звышімперыялізма», што Троцкі, адмаўляючы закон няроўнамернага развіцця пры імперыялізме, адмаўляе тым самым рост і абвастрэнне антаганістычных супярэчнасцей і канфліктаў, да якіх прыводзіць няроўнамернасць развіцця, што Троцкі адмаўляе ўзмацняючыяся супярэчнасці ва ўсёй сістэме імперыялізма ў цэлым і ў прыватнасці супярэчнасці паміж калоніямі і метраполіямі і рэволюцыйны характар нацыянальна-вызваленчага руху, што Троцкі адмаўляе «новую прынцыповую супярэчнасць сусветна-гістарычнага маштаба і значэння: **супярэчнасць паміж СССР і капіталістычным светам»** [3]).

Іменна адсюль—з неразумення тав. Сыцько існавання адзінага імперыялістычнага ланцуга, называемага сусветнай гаспадаркай, неразумення ўсёй сістэмы ўнутраных і знешніх супярэчнасцей пры імперыялізме—выцякае ў яго блытанае ўяўленне аб перамозе пролетарскай рэволюцыі першапачаткова ў адной краіне.

---

1) Сталин „Вопросы ленинизма", 9 выд., стар. 21.
2) Курсіў наш—*В. і З.*
3) Праграма Комінтэрна, раздз. II, § 4.

У барацьбе з трацкізмам, з памылкамі тав. Бухарына па гэтаму пытанню тав. Ленін і тав. Сталін высвятлілі, што азначае слабое звяно імперыялізма. Ленін і тав. Сталін паказалі, што слабым звяном не абавязкова павінна быць краіна з вышэйшым узроўнем развіцця капіталізма. Слабасць таго ці іншага звяна імперыялістычнага ланцуга вызначаецца сукупнасцю ўсіх умоў, характарызуючых становішча «звяна» іменна ў адносінах да ўсяго ланцуга імперыялістычнага фронта. Пытанне аб спеласці той ці іншай краіны мае толькі тое значэнне, што перамога соцыялізма немагчыма ў самай адсталай краіне, што для перамогі соцыялізма ў адной краіне неабходзен некаторы мінімум развіцця, або, як выразіўся Ленін у палеміцы з тав. Бухарыным — не самая слабая краіна, а «сярэдне-слабая», бо «без вядомай вышыні капіталізма ў нас нічога-б не вышла» [1]).

Што-ж піша тав. Сыцько?

> «Сутнасць крызіса капіталістычнай сістэмы заключаецца ў тым, што з пачаткам імперыялістычнай вайны 1914—18 гг. усе супярэчнасці капіталізма настолькі абвастрыліся, дайшлі да такой ступені накалу, што з кругаварота (?!—В. і З.) капіталістычнай сістэмы пачалі выпадаць **найбольш паспеўшыя** для соцыялістычнай рэволюцыі звенні гэтай сістэмы» (стар. 36) [2]).

Замест яснай ленінска-сталінскай пастаноўкі пытання аб **найбольш слабым звяне** імперыялістычнага ланцуга, тав. Сыцько выстаўляе вельмі туманны тэзіс аб «найбольш паспеўшых для соцыялістычнай рэволюцыі звеннях». Як вядома пытанне аб слабым звяне міжнароднага ланцуга імперыялізма мае самыя непасрэдныя адносіны да вучэння Леніна—Сталіна аб магчымасці першапачатковай перамогі соцыялізма ў адной, асобна ўзятай, краіне.

Весці барацьбу з трацкізмам без распрацаванай Леніным і Сталіным тэорыі прарыву імперыялістычнага ланцуга ў найбольш слабым звяне, без тых канкрэтных указанняў у рашэннях XIII пленума Выканкома Комінтэрна на сучасныя слабыя звенні імперыялізма—весці без усяго гэтага барацьбу з трацкізмам значыць—весці гэтую барацьбу толькі для выгляду.

Тав. Сыцько не толькі не дае разгорнутай тэорыі слабога звяна, а абыходзіць нават такую фармуліроўку, замяняючы яе вельмі расплыўчатай фармуліроўкай аб «найбольш паспеўшых для соцыялістычнай рэволюцыі звеннях».

Няправільна падыходзіць тав. Сыцько і да крытыкі ультраімперыялісцкай тэорыі Троцкага аб цэнтралізацыйнай тэндэнцыі пры імперыялізме.

І тут, адштурхваючыся ад тэзіса Троцкага аб цэнтралізацыйнай тэндэнцыі як «асноўнай, несупярэчлівай тэндэнцыі», тав. Сыцько, замест выкрыцця з марксісцка-ленінскіх пазіцый апалагетычнага ультраімперыялісцкага тэзіса, процістаўляе яму сваё ўласнае палажэнне, па сутнасці адмаўляючае канцэнтрацыю і цэнтралізацыю капітала ў эпоху імперыялізма.

Калі Троцкі сцвярджае, што цэнтралізацыйная тэндэнцыя з'яўляецца пры імперыялізме асноўнай і несупярэчлівай, то тав. Сыцько, замест паказу супярэчлівасці цэнтралізацыі, адмаўляе рост цэнтралізацыі наогул, сцвярджаючы, што «ў ланцугу ўсіх супярэчнасцей капіталізма цэнтралізацыйная тэндэнцыя не бярэ верх» (стар. 22).

[1]) Ленинский сборник, XI, стар. 397.
[2]) Курсіў наш—*В. і З.*

Вось і ўсё!

Троцкі механістычна вырывае цэнтралізацыйную тэндэнцыю з усёй сукупнасці супярэчлівага развіцця імперыялізма, ператварае яе ў абсалют, робячы аднабаковае абагуленне аб стварэнні аб'яднанай сусветнай гаспадаркі без нацыянальных межаў і мытных застаў, і прыходзіць да ультраімперыялісцкага лозунга «Злучаных Штатаў Еўропы».

Тав. Сыцько, замест таго, каб выкрыць контррэволюцыйны ультраімперыялістычны характар пазіцыі Троцкага, абмяжоўваецца процілеглай груба памылковай заявай: «цэнтралізацыйная тэндэнцыя не бярэ верх», г. зн. працэс цэнтралізацыі пры імперыялізме ўвесь час топчацца на адным месцы.

Аднак-жа Маркс і Ленін выводзілі неўнікнёнасць пролетарскай рэволюцыі з росту супярэчнасцей, якія ўзмацняюцца і абвастраюцца разам з ростам цэнтралізацыі капітала і аграмаджання працы.

Яшчэ Маркс пісаў:

> «Цэнтралізацыя сродкаў вытворчасці і аграмаджання працы дасягаюць узроўню, пры якім яны становяцца несумяшчальнымі з іх капіталістычнай абалонкай. Апошняя разрываецца. Б'е час капіталістычнай прыватнай уласнасці. Экспрапрыятараў экспрапрыіруюць» [1]).

Ніхто-ж іншы як Ленін вучыў, што фінансавы капітал

> «асабліва лёгка канцэнтруецца і асабліва далёка ўжо сканцэнтраваны, так што, літаральна, некалькі сот мільярдэраў трымаюць у руках лёсы ўсяго свету» [2]).

і далей

> «параджэнне манаполіі канцэнтрацыяй вытворчасці, наогул, з'яўляецца агульным і асноўным законам сучаснай стадыі развіцця капіталізма» [3]).

Пасляваенны перыяд паказаў далейшае ўзмацненне канцэнтрацыі вытворчасці і, на аснове гэтага, далейшы рост капіталістычных манаполій.

Разам з тым Ленін з усёй сілай падкрэслівае супярэчлівы характар росту цэнтралізацыі і аграмаджання вытворчасці пры імперыялізме.

> «Самая глыбокая эканамічная аснова імперыялізма ёсць манаполія. Гэта манаполія капіталістычная, г. зн. такая, якая вырасла з капіталізма і знаходзіцца ў агульнай абстаноўцы капіталістычна-таварнай вытворчасці, канкурэнцыі, у пастаяннай і невыходнай супярэчнасці з гэтай агульнай абстаноўкай» [4]).

Навошта патрабавалася т. Сыцько заблытаць пытанне пры наяўнасці такой яснай пастаноўкі яго Леніным?

* * *

Мова, якою напісана кніга, настолькі неахайна, некультурна, месцамі да незразумеласці «вучона», што ў цэлым яе трэба характарызаваць як просты здзек над чытачом.

---

1) Маркс „Капитал", т. 1, выдан. 1929 г., стар. 613.
2) Ленін, III выданне, т. XVIII, стар. 354.
3) Ленін, т. XIX, стар. 85.
4) Ленін, т. XIX, стар. 151.

Прывядзем некалькі прыкладаў блытаных і бяссэнсных фармуліровак і фраз:

1) Трацкізм «ігнарує імперыялізм як асобую **стадыю**[1]) загніваючага і паміраючага капіталізма». (стар. 33, гл. таксама стар. 18—30).

Аказваецца, што, па тав. Сыцько, імперыялізм ёсць **стадыя** загніваючага капіталізма!

2) «Пэўная паслядоўнасць і перыядычнасць паасобных цыклічных фаз, роўна як самога капіталістычнага цыкла, ужо ўтрымліваецца ў самай яго неабходнасці...» (стар. 13).

3) «Уся блытаніна Троцкага ў разуменні фінансавага капітала і тлумачэнне ім яго большай рухомасці ўраўніцельнымі тэндэнцыямі, неразуменне ім таго, што самарухомасць не ёсць рухомасць фінансавага капітала, а ёсць рухомасць фіктыўнага капітала і ўласнасці на капітал, для нас тут неважна» (стар. 29).

Папрабуй, чытач, разабрацца—хто, куды і зачым рухаецца?

4) «Пасляваенны перыяд у развіцці капіталізма **аж да пачатку** сучаснага эканамічнага крызіса, характарызуецца надзвычайна няроўнамерным і канфліктным развіццём прадукцыйных сіл» (стар. 38).

Няўжо-ж толькі **да пачатку** крызіса? Аднак-жа і сам крызіс разгортваўся якраз **няроўнамерна** і да крайнасці абвастрыў няроўнамернасць капіталістычнага развіцця.

5) «**ніveліроўка...** ў рысах паразітызма» (стар. 42). Што гэта азначае—невядома!

6) Трацкісты «скаціліся да самага паганенькага капітулянцтва **перад** большэвіцкімі сусветна-гістарычнымі тэмпамі соцыялістычнага будаўніцтва» (стар. 11).

Тое, што трацкісты з'яўляюцца самымі паганенькімі капітулянтамі, гэта верна. Але перад кім яны капітулявалі?

Тав. Сыцько сцвярджае, што перад большэвіцкімі тэмпамі соцыялістычнага будаўніцтва.

Па тав. Сыцько выходзіць, значыць, што контррэволюцыйны трацкізм капітуляваў перад большэвікамі, г. зн. прызнаў правату большэвізма.

Большасць прыведзеных і падобных ім формуліровак, скажаючых палітычны сэнс, абавязаны, відаць, таму, што тав. Сыцько лічыць законы граматыкі несумяшчальнымі з годнасцю навуковага работніка.

* * *

Якія задачы паўстаюць перад грамадскасцю БелАН, якая зусім не абгаварвала работу тав. Сыцько і не падвяргала яе большэвіцкай крытыцы, што было-б карысным перш за ўсё для самога аўтара? Якія задачы паўстаюць перад Інстытутам Эканомікі БелАН?

Партыя дала чоткія і ясныя дырэктывы аб рабоце на тэарэтычным фронце. Рашэнне Бюро ЦК КП(б)Б ад 11/VI—34 г. аб рабоце БелАН гаворыць, што

> «якасць раду навуковых работ да гэтага часу прадаўжае заставацца на недастатковым тэарэтычным узроўні і ў радзе выпадкаў не адпавядае ўзросшым запатрабаванням да навуковых работ»,

[1]) Курсіў у вытрымках усюды наш—*В. і З.*

у сувязі з чым,

«ЦК КП(б)Б звяртае асаблівую ўвагу на неабходнасць сістэматычнай барацьбы за павышэнне якасці навуковай прадукцыі, каб навуковая прадукцыя Акадэміі адпавядала ўсім патрабаванням навукова-даследчай работы (усебаковае вывучэнне матар'ялаў і раней выданых работ па данаму пытанню, вучот вопыту навуковых устаноў Саюза, выкарыстанне апошніх работ, выходзячых у СССР і за мяжой і т. д.)».

Гэта рашэнне дае чоткія і ясныя дырэктывы для падняцця навуковай работы БелАН на неабходны партыі высокі ўзровень.

Няма ніякага сумнення, што большая частка памылак т. Сыцько звязана з «лёгкімі» адносінамі яго да навуковай работы, адносінамі, сустрэўшымі заахвочванне ў сценах Акадэміі. Дырэктар інстытута Эканомікі—тав. Домбаль даў такі водзыў аб кніжцы т. Сыцько:

*«Работа тав. Сыцько сінтэзуе ў адно цэлае барацьбу супроць контррэволюцыйнага трацкізма. Гэта адна з першых арыгінальных работ, зусім неабходных для нашага партактыва. Мною праведзена ўважлівая рэдакцыя, і аўтар унёс усе папраўкі і дапаўненні. Работа ў тэарэтычных і палітычных адносінах бездакорна і з'яўляецца адным з дасягненняў інстытута Эканомікі.*

*Яе прыдзецца надрукаваць і на іншых мовах (рускай, польскай і яўрэйскай)».*

Водзыў Бюро секцыі навуковых работнікаў БелАН, накіраваны ў ЦБ СНР, таксама характарызуе работу тав. Сыцько як **каштоўную**.

Такія «лёгкія» адносіны т. Домбаля і секцыі навуковых работнікаў да работы т. Сыцько не забяспечваюць сапраўднай барацьбы за якасць навуковай прадукцыі і за яе ідэалагічную чыстату. Тав. Домбалю, як дырэктару інстытута Эканомікі трэба гэта ўлічыць у першую чаргу і зрабіць адсюль усе адпаведныя вывады.

Разам з тым Інстытут Эканомікі павінен больш развіць большэвіцкую самакрытыку, падняць на вышэйшы ўзровень класавую пільнасць.

Выхоўваючы новых маладых навуковых работнікаў—а такім з'яўляецца тав. Сыцько,—Інстытут Эканомікі павінен кіраваць імі, аказваць дапамогу ў рабоце, выходзячы з рашэнняў партыі аб падрыхтоўцы навуковых кадраў, якасці вучобы і навуковай прадукцыі, аб павышэнні патрабавальнасці да навуковай работы і разгортванні сярод навуковых работнікаў большэвіцкай самакрытыкі.

**Р. Выдра.**

**В. Задзернюк.**

---

## Кніжная паліца

**МАРКС КАРЛ. Заработная плата, цана і прыбытак.** (Пераклад з 2-х томніка выбраных твораў Карла Маркса). Менск, Партвыдавецтва, 1934 г. Стар. 50. Ц. 40 к.

Гэта работа Маркса прадстаўляе сабой даклад, прачытаны ім на двух паседжаннях Генеральнага совета і інтэрнацыянала ў чэрвені 1865 года.

Тут Маркс у барацьбе з палажэннямі оуэністаў дае сціслае ізлажэнне сваёй эканамічнай тэорыі. «Заработная плата, цана і прыбытак» побач з творам «Наёмная праца і капітал» з'яўляецца незамянімым дапаможнікам пры вывучэнні эканамічнай тэорыі Маркса.

Гэта кніжка, з'яўляючыся бліскучым узорам работы, даступнай шырокім масам рабочых, адначасова прадстаўляе сабой выключна глыбокае навуковае даследванне.

**ЛЕНІН В. І. ЗБОР ТВОРАЎ.** Пад рэд. **С. Агурскага, П. Горына, Т. Домбаля, В. Жаброўскага, М. Леўкова, С. Поссе, А. Чарнушэвіча і В. Шаранговіча, Т. І. Менск, Партвыдавецтва, 1933 г. стар. 722.**

Павышэнне боездольнасці нашых радоў неадрыўна звязана з узняццем ідэйна-палітычнага іх узроўню. Вось чаму асаблівае значэнне мае для КП(б)Б максімальнае паскарэнне выдання на беларускай мове твораў Леніна. Спарадычнае з'яўленне на беларускай мове раду ленінскіх работ зусім не забяспечвала гэтай вострай патрэбы. Першае выданне выбраных твораў Леніна (у 12-ці тамах) на беларускай мове, якое павінна з'явіцца першым крокам да выдання поўнага збору, кладзе пачатак больш сістэматычнаму вырашэнню паказанай задачы. У асноўным у 12-ці томнік уключана ўсё, што змешчана ў рускім 6-ці томніку.

Першы том гэтага выдання ахватвае час літаратурнай дзейнасці Леніна (з 1894 па 1889 г. уключна). Гэты перыяд характарызуецца падрыхтоўкай і пачаткам рэволюцыйнага руху рабочага класа, «узнікненнем і ўмацаваннем тэорыі і праграмы соцыял-дэмакратыі» (1884—1894 гг.) і тым, што соцыял-дэмакратыя з'яўляецца як «грамадскі рух, як уздым народных мас і як палітычная партыя» (1894—1898 гг.).

Супроць двух асноўных праціўнікаў накіроўвае Ленін у гэты перыяд галоўныя свае ўдары: народніцтва і легальнага марксізма. Поруч з гэтым Ленін ставіць і распрацоўвае праграмныя, тактычныя і арганізацыйныя пытанні рускай соцыял-дэмакратыі. Ужо ў гэтых сваіх першых творах Ленін з усёй глыбінёю паказаў ролю пролетарыята, як гегемона ў рэволюцыйным змаганні ў Расіі, ролю пролетарскай партыі, як адзінага правадыра рабочага класа і эксплаатуемых працоўных мас, паказаў расстаноўку класавых сіл у Расіі і вы-

значыў характар надыходзячай рэволюцыі. Ужо тут заложаны асновы ленінскага вучэння аб перарастанні буржуазнай дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную, вучэння, якое знайшло сваё поўнае развіццё ў першай рэволюцыі і ажыццёўлена пад непасрэдным кіраўніцтвам Леніна ў 1917 г.

У першы том выбраных твораў увайшлі наступныя творы: 1. Што такое «прыяцелі народу» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў. 2. Эканамічны змест народніцтва і крытыка яго ў кнізе П. Струве (адлюстраванне марксізма ў буржуазнай літаратуры). 3. Фрыдрых Энгельс. 4. Да характарыстыкі эканамічнага рамантызма. 5. Задачы рускіх соцыял-дэмакратаў. 6. Перлы народніцкага пражэкцёрства. 7. Ад якой спадчыны мы адмаўляемся. 8. Артыкулы па пытаннях аб тэорыі рынкаў.

У пачатку тома змешчана «Кароткая біяграфія» Уладзіміра Ільіча, напісаная (на 72 старонках) т. Сорыным, а ў дадатку «Дакументы і матэрыялы», увагі і слоўнік—паказальнік імён.

Пераклад зроблен з 2-га і 3-га выдання «Собрания сочинений» Ленина.

**ЛЕНІН В. І. ПІСЬМО АД РАБОЧЫХ І СЯЛЯН УКРАІНЫ ПА ПОВАДУ ПЕРАМОГ НАД ДЗЕНІКІНЫМ.** Менск, Партвыдавецтва, 1934 г. Ст. 8, Ц. 10 к.

Гэта пісьмо—дакумент аб барацьбе Уладзіміра Ільіча за большэвіцкую пастаноўку нацыянальнага пытання. З выключнай прастатой і сілай тлумачыць Ільіч рабочым і сялянам Украіны, што агульныя інтарэсы патрабуюць самага поўнага давер'я, самага цеснага саюза паміж працоўнымі розных краін, розных нацый, што мы хочам «дабравольнага саюза нацый, такога саюза, які не дапускаў-бы ніякога насілья адной нацыі над другой, такога саюза, які быў-бы аснован на паўнейшым давер'і, на ясным сазнанні брацкага адзінства...»

У сваім пісьме Уладзімір Ільіч растлумачвае працоўным тое, што хто нарушае адзінства і цяснейшы саюз вялікарускіх і украінскіх рабочых і сялян, той дапамагае Калчакам, Дзенікіным, капіталістам, драпежнікам усіх краін. «Калі мы не здолеем захаваць цяснейшага саюза паміж сабой, саюза супроць Дзенікіна, саюза супроць капіталістаў і кулакоў нашых краін і ўсіх краін, тады справа працы напэўна загіне на доўгія гады ў тым сэнсе, што Совецкую Украіну і Совецкую Расію тады змогуць задавіць і задушыць капіталісты». Уладзімір Ільіч прызывае комуністаў Расіі і Украіны цярплівай, настойлівай, упорнай, сумеснай работай перамагаць нацыяналісцкія проіскі ўсякай буржуазіі, нацыяналісцкія забабоны ўсякага роду і паказаць працоўным усяго свету прыклад сапраўды трывалага саюза рабочых і сялян розных нацый у барацьбе за Совецкую ўладу, за знішчэнне гнёту памешчыкаў і капіталістаў, за сусветную Совецкую рэспубліку.

**КП(б)Б у рэзалюцыях.** Ч. І. (1903—1921 гг.) Падрыхтаваў да друку Ю. Майзель. Рэдактар А. Зюзькоў (Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б) Менск, Партвыдавецтва, 1934 г. Ст. 266. Ц. 2 р. 50 к.

Гэты зборнік з'яўляецца першай часткай рыхтуемага Ін-там гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б поўнага выдання «КП(б)Б у рэзалюцыях», і ахватвае перыяд, пачынаючы ад моманту ўзнікненя і афармлення першых большэвіцкіх груп і арганізацый на Беларусі да пераходу КП(б)Б к новай эканамічнай палітыцы (1903—1921 г.). Асноўны тэкст зборніка мае 4 раздзелы: 1-шы раздзел асвятляе начальны пе-

рыяд большэвіцкага руху на Беларусі—з 1903 да 1917 г.; другі раздзел паказвае гісторыю партыі ў 1917 г. на матэрыялах заходняй абласной і франтовай нарады РСДРП(б) і трох канферэнцый РСДРП Паўночна-заходняй області; трэці раздзел асвятляе работу партыі ў 1918 г.; у IV раздзеле змешчаны рэзалюцыі і пастановы партыйных канферэнцый, нарад і з'ездаў перыяда 1919—1921 гг.

Матэрыял зборніка—грунтоўная база для вывучэння гісторыі партыі, магутная зброя ў барацьбе за далейшае соцыялістычнае будаўніцтва, у барацьбе супроць скажэнняў і фальсіфікацыі гісторыі КП(б)Б. Перад матэрыялам кожнага паасобнага з'езда, канферэнцыі і нарады даюцца кароткія ўводзіны, у якіх адзначаюцца абстаноўка работы, парадак дня і т. д.

Прадмова, уводзіны, дадаткі і ўвагі даюцца на беларускай мове, асноўны тэкст дакументаў на мове арыгіналаў.

**ПІК, В. Мы борамся за Совецкую Германію.** Рэволюцыйная барацьба германскага рабочага класа пад кіраўніцтвам компартыі Германіі супроць фашысцкай дыктатуры. Даклад і заключнае слова на XIII пленуме ВККІ. Менск, Партвыдавецтва, 1934 г. Ст. 56. Ц. 50 к.

У пачатку свайго даклада т. Пік характарызуе ўрад Гітлера, і ўказвае, што «Германія пад панаваннем фашызма ператварылася ў крыніцу пастаяннай небяспекі імперыялістычнай вайны ў Еўропе». Далей ён пераходзіць да аналізу працэса нарастання новага рэволюцыйнага ўздыму. У наступных частках даклада разглядаецца палітыка і перспектыва фашысцкай дыктатуры, ускрываецца здрадніцкая роля соцыял-дэмакратыі, дзякуючы якой фашысты захапілі ўладу. Даклад заканчваецца абвяшчэннем комуністычнай праграмы выратавання працоўных мас Германіі і растлумачэннем лозунга компартыі Германіі:—«Узброенае паўстанне для зваржэння фашысцкай крывавай дыктатуры».

У заключным слове т. Пік аналізуе антыпартыйныя справы Рэмеле, Нэймана, імкнуўшыхся раскалоць партыю.

**Советы в Китае.** Сборник материалов и документов. Перев. с немецкого, Москва, Партиздат. (Научно-иссл. ин-т по Китаю при Комакадемии). Москва, Партиздат 1934 г. Ст. 519. Ц. 6 руб.

Большасць матэрыялаў і дакументаў зборніка адносіцца к 1931 г. і першай палове 1932 г. Выдавецтвам у I раздзеле выкарыстаны матэрыялы, якія ёсць у выданнях нав.-дасл. ін-та па Кітаю. Астатнія матэрыялы—гэта пераклад артыкулаў і карэспандэнцый з кітайскай комуністычнай прэсы: з раду нелегальных газет кітайскай компартыі, а таксама з выданняў партыйных арганізацый, совецкіх органаў і чырвонай арміі ў важнейшых совецкіх раёнах.

Матэрыял у зборніку размешчан па храналагічнаму і тэрытарыяльнаму прынцыпу. Спачатку дан гістарычны раздзел, куды ўключаны дакументы, якія малююць першапачатковы, ужо пройдзены этап руху. Наступныя раздзелы групіруюць дакументы па 8 асноўных совецкіх раёнах і ўнутры кожнага раздзела матэрыял размяркован у храналагічным парадку. Апошні раздзел уключае афіцыйныя дакументы, выданыя кітайскімі совецкімі органамі.

Спецыяльны аддзел III прысвечан водгукам на совецкі рух у лагеры кітайскай контррэволюцыі і імперыялістаў. Да асобных дакументаў маюцца заўвагі.

У канцы зборніка змешчана храналагічная табліца, якая дае неабходныя ўказанні аб важнейшых датах развіцця совецкага руху ў Кітаі.

Табліца «Китайские меры и деньги» дапаможа разабрацца ў шматліkіх назвах кітайскіх грошай, мер вагі, абёма, даўжыні і т. д.

Бібліяграфія, складзеная Навукова-даследчым ін-там па Кітаю па рускай літаратуры, дае чытачу далейшыя весткі аб советах Кітая.

У канцы кнігі дадацы фізіка-геаграфічныя карты галоўных раёнаў, на якія па магчымасці нанесены ўсе пункты, упамінаемыя ў матэрыялах.

Прадметны паказчык, дадацы да зборніка, дае таксама тлумачэнне кітайскіх тэрмінаў.

Матэрыялы зборніка ў асноўным напісаны непасрэднымі ўдзельнікамі совецкага руху ў Кітаі. Гэтыя матэрыялы крок за крокам праўдзіва і бясштучна адлюстроўваюць гераічную барацьбу кітайскіх працоўных пад сцягам советаў, але ў той-жа час у радзе выпадкаў маюць розныя памылкі і няправільныя ўстаноўкі пры вырашэнні тых ці іншых пытанняў. Крытыка гэтых памылак дана ва ўводным артыкуле, а таксама ў заўвагах рэдакцыі да адпаведных месц матэрыялаў.

Зборнік па сутнасці прадстаўляе сабой першую сур'ёзную работу, у якой сістэматызаваны матэрыялы і дакументы кітайскай рэволюцыі на яе совецкім этапе.

**Рассказы рабочих о Ленине.** Записи С. Мирера и В. Боровика. Москва. Партиздат 1934 г. Ст. 142. Ц. 2 р.

Зборнік «Рассказы рабочих о Ленине» з'яўляецца вельмі цікавым вопытам калектыўнай работы рабочых над ленінскім партрэтам. Сабраныя ў гэтым зборніку выдавецтвам ВЦСПС (Профвыдат) успаміны рабочых аб Леніне прадстаўляюць безумоўную гістарычную каштоўнасць.

Усе ўспаміны згрупаваны ў храналагічным парадку апісваемых падзей у 8 наступных глаў: I. Как рабочие ждали Ленина из эмиграции и как его встретили на Финляндском вокзале; 2. Ленин идет к массам, массы идут за Лениным; 3. Как Ленин оказался прав в июле, удерживая массы от выступления; 4. Рабочие скрывают Ленина от буржуазных ищеек; 5. Ленин возвращается в Петроград к решающим дням Октября; 6. Рабочие и солдаты идут к Ленину в Смольный в первые дни советской власти; 7. Ленин на трибуне перед рабочими; 8. Враги революции покушаются на жизнь Ленина; 9. Рабочие дорисовывают портрет Ленина; 10. Болезнь и смерть Ленина. Сталин продолжатель дела Ленина.

Сярод успамінаў ёсць і такія, якія даюць новыя біяграфічныя даныя. Такім з'яўляецца, напрыклад, апавяданне старога пуцілаўца т. Данілава аб раптоўным з'яўленні Леніна на пуцілаўскім заводзе а першай гадзіне ўночы, калі ішла барацьба з Керанскім і Красновым.

Прадмова да кнігі напісана Н. К. Крупскай, уступны артыкул— Е. М. Яраслаўскім.

**Брыгада Бібліяграфічнага інстытута БССР імя Леніна.**

# ПАСТАНОВЫ ЦК КП(б)Б

## Аб парушэнні совецкай палітыкі цэн у некаторых кааператыўных арганізацыях

(*Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б ад 8 жніўня 1934 года*)

Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што выяўленыя Дзяржаўнай Інспекцыяй цэн факты парушэння совецкай палітыкі цэн, якія вызначаюцца ў незаконным устанаўленні рознічных цэн:

а) тварог пад відам перапрацоўкі ў сырнікі прадаваўся па 5 руб. за кгр. замест устаноўленай цаны 1 руб. 30 кап. (64 крама МГРК— загадчык Капельсон, сталоўка друкарні імя Сталіна—загадчык Опенгейм, секцыя грамадскага харчавання МГРК—загадчык Родштэйн);

б) незаконнага продажу макарону па 88 кап. за кілограм замест устаноўленых 83 кап. (Віцебскі ЗВК);

в) продаж сшыткаў па 20 кап. за штуку, замест устаноўленай этыкетнай цаны 5 кап. штука (Абчацкае сельпо);

г) продаж і купля тавараў оптам па рознічных цэнах. (Гомельскі рабкоп закупіў у Днепрапетроўску на 29026 руб. рыбтавараў оптам па рознічных цэнах. Менская крама ЗВК № 2 прадавала Абчацкаму сельпо оптам па рознічных цэнах розныя промтавары) і інш.

Гэтыя факты сведчаць аб тым, што за апошні час у радзе кааператыўна-гандлюючых арганізацый не толькі не аслаблі, але з новай сілай узмацніліся тэндэнцыі «непманскага духу» і нядбайных адносін да спажыўца. Адсутнічае якая-б там ні было ўвага і клопат за захаванне і павышэнне рэальнай зарплаты рабочых і таксама адсутнічае большэвіцкая барацьба з парушэннямі совецкай палітыкі цэн, чым па сутнасці парушаецца дырэктыва XVII партз'езда аб зніжэнні рознічных цэн на 35 проц. і давядзенні гэтага зніжэння непасрэдна да спажыўца.

З боку асобных гаспадарнікаў, парткомаў і прафкомаў не толькі не звяртаецца ўвага на справу якаснага снабжэння рабочых і на факты парушэння совецкай палітыкі цэн, але часамі яны становяцца на шлях абароны канкрэтных вінаватых, якія аказваюць супраціўленне Дзяржаўнай інспекцыі цэн у барацьбе з парушальнікамі совецкай палітыкі цэн (друкарня імя Сталіна).

Выходзячы з гэтага, бюро **ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

1. Загадчыка сталоўкі друкарні імя Сталіна тав. Опенгейма—кандыдата партыі—за куплю і перапродаж тварагу па незаконнай цане і грубыя адносіны да работнікаў Дзяржаўнай інспекцыі цэн, загадчыка менскага магазіна Дзяржшвеймашына тав. Шпілевіча—кандыдата партыі—за водпуск швейных машын оптам па рознічнай цане—зняць абодвух іх з работы і справу аб іх партыйнасці перадаць у парткалегію.

2. Прыняць да ведама, што прэзідыумам БКС па пастанове СНК БССР вынесена спагнанне дырэктару Плодагародтрэста Гомельскага рабкопа тав. Гольдвасэру—суровая вымова з папярэджаннем—за продаж бульбы па незаконнай цане, пераграўшы ад рабочых 16 620 руб.

3. Намесніку сакратара парткома друкарні імя Сталіна т. Струнскаму за нерэагаванне на факты парушэння савецкай палітыкі цэн з боку загадчыка сталоўкі, не гледзячы на паведамленні парткома з боку дзяржаўнай інспекцыі цэн аб'явіць суровую вымову.

Прапанаваць прэзідыуму ЦСПСБ прыцягнуць да адказнасці фабком друкарні імя Сталіна за дапушчэнне перавышэння цэн на тавар загадчыкам сталоўкі.

4. За апошні час выяўлены выпадкі водпуску тавараў кааператы̆ўна-гандлюючымі арганізацыямі на папсаваных вагах і няправільнымі гірамі, чым па сутнасці тавар адпускаецца не чыстай вагой (з правераных 105 магазінаў па Менску ў 22 аказаліся няправільныя і папсаваныя вагі, няклейменых гір. ад двух год і больш, у 13 магазінах).

Прыняць да ведама паведамленне аб тым, што СНК БССР разгледзеў пытанне арганізацыі праверкі вагавай гаспадаркі па БССР і ўстанавіў парадак набыцця і ўстаноўку ў магазінах кантрольных вагаў. Даручыць гаркомам і райкомам КП(б)Б устанавіць строгі кантроль за ажыццяўленнем указанай пастановы СНК.

5. Прапанаваць Наркам'юсту тав. Кузьміну згодна дырэктыве пракурора Саюза тав. Акулава даць адпаведнае ўказанне месцам аб своечасовым разглядзе матэрыялаў па фактах парушэння савецкай палітыкі цэн, прыцягваючы вінаватых да самай суровай адказнасці.

Прапанаваць рэдакцыям цэнтральных і раённых газет шырока асвятляць на сваіх старонках факты парушэння савецкай палітыкі цэн, паказваючы канкрэтных парушальнікаў, ведучы рашучую барацьбу супроць іх.

6. Прапанаваць упаўнаважанаму Дзяржаўнай інспекцыі цэн тав. Талкачову тэрмінова расследаваць факты куплі Гомельскім рабкопам у Днепрапетроўску оптам па рознічных цэнах рыбтавараў на суму 29.026 руб. і ОРС'амі эксплаатацыі 5 раёнаў Заходняй чыгункі Гомель на суму 41 тыс. руб. прыцягнуўшы вінаватых да суровай адказнасці.

7. Бюро ЦК КП(б)Б папярэджвае ўсе гаспадарчыя, партыйныя і профсаюзныя нізавыя арганізацыі прадпрыемстваў, горрабкопаў, ЗРК, ЗВК і ОРС'аў, што разам з канкрэтнымі вiноўнікамі яны нясуць не меншую адказнасць за факты парушэння савецкай палітыкі цэн.

Пастанову апублікаваць у друку.

# Аб рабоце ільнацерабілак

(*Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б*)

Не гледзячы на неаднаразовыя дырэктывы ЦК аб поўным выкарыстанні і высокаякаснай рабоце ільнацерабілак, у радзе раёнаў гэтыя дырэктывы не выконваюцца, і ільнацерабілкі да гэтага часу выкарыстоўваюцца далёка не поўнасцю і працуюць з рук вон дрэнна. Ва Ушацкай МТС частка ільнацерабілак не развезена па калгасах, пераробка шыроказахватных праведзена няправільна, перадкі для кожнай работы «Комсамолкі» прыстасаваны не поўнасцю, праводзіцца недастатковая змазка машын; аналагічныя недахопы адзначаюцца ў Лепельскай, Сенненскай і Гарадоцкай МТС. У Полацкай, Асвейскай і Суражскай МТС участкі для машыннага цераблення не падрыхтоўваюцца і не прымацаваны да машын. Не падрыхтаваны кадры, здольныя кіраваць машынамі.

Калгасы Нова-Белица, Расходна, Сенненскага раёна, пачалі машынную ўборку на горшых участках. Вынікам усяго гэтага з'яўляецца прастой ільнацерабілак і задзяжка ўборкі.

**ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

1. За несвоечасовае правядзенне перадзелкі шыроказахватных ільнацерабілак «ВНІІЛ—5» завозу 1933 г. дырэктару Лепельскай 1-й МТС т. **Васільеву** паставіць на від.

2. Абавязаць дырэктароў указаных вышэй МТС і нач. палітаддзелаў у 5-дзенны тэрмін знішчыць недахопы ў скарыстанні ільнацерабілак, паведаміўшы ў ЦК не пазней 15 жніўня аб прынятых мерах і хто прыцягнут да адказнасці за прастоі ільнацерабілак. Даручыць сельска-гаспадарчаму аддзелу ЦК і палітсектару НКЗ прасачыць за выкананнем.

3. Абавязаць усіх начальнікаў палітаддзелаў, дырэктароў МТС праверыць гатоўнасць кожнай ільнацерабілкі (наяўнасць перадкоў для ільнацерабілкі «Комсамолка», прыстасаванне галоўкаўлавіцеляў, правільнасць адрэгуліроўкі і інш.) шляхам непасрэднага нагляду ў час абавязковай абкаткі на халастым ходу і першай работай ў полі, скарыстаўшы для гэтай мэты ўвесь наяўны аграперсанал і механікаў.

4. У сувязі з частымі прастоямі і нядобраякаснай работай шыроказахватнай ільнацерабілкі, а таксама «комсамолак», прапануецца ўзяць пад непасрэдны нагляд работу ільнацерабільшчыкаў. Вылучыць адказных механікаў ільнацерабілак, прымацаваць пастаянна да церабілак лепшых калгаснікаў. Забяспечыць выкананне ільнацерабілкамі штодзеннага задання.

5. Для ручнога выцярэблівання лёну на вуглах і на няроўных месцах участкаў да кожнай ільнацерабілкі «Комсамолка» прымаца-

ваць 1—2 церабільшчыцы і шырококазахватнай ільнацерабілкі 4—8 церабільшчыц. Не дапускаць пры машынным цярабленні прыёмкі работы з нізкаякасна праведзеным выцярэбліваннем (агрэхі, адрыў галовак, паломкі і расплюшчванне сцябла і г. д.); пры пачатку работы на кожным асобным участку абавязкова праводзіць рэгуліроўку ільнацерабілкі ў залежнасці ад стану сцеблестою лёну для дасягнення лепшай якасці цераблення.

6. Правесці перакідку ільнацерабілак «Камсамолка» з Лепельскай МТС 4 шт., —у Лепельскую II-ю, з Лёзненскай 4 шт.,—у Высачанскую МТС, з Мсціслаўскай 2 шт.—у Тэльманаўскую, з Шклоўскай 5 шт.,—у Фашчаўскую МТС.

Дырэктарам адпаведных МТС безагаворачна забяспечыць на працягу аднаго дня прыёмку-перадачу гэтых церабілак.

## Аб уборцы і пярвічнай апрацоўцы ўраджаю лёну і канапель

*(Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР)*

1. ЦК КП(б)Б і СНК БССР адзначаюць, што ўборка і пярвічная апрацоўка лёну ў 1933 г. была праведзена ў радзе раёнаў БССР са значнымі стратамі з-за зацяжкі церабленьня, позняга рассцілу і пад'ёму са сцелішчаў, дрэннага скарыстання ільнаўборачных машын і інш. Гэта патрабуе ад усіх партыйных і совецкіх арганізацый і зямельных органаў асабліва сур'ёзнай увагі да своечасовай і высокай па якасці ўборкі, апрацоўкі і здачы прадукцыі дзяржаве, тым больш, што ўборка ў гэтым годзе супадае з уборкай зерневых.

2. ЦК КП(б)Б і СНК БССР абавязваюць сакратароў РК, нач. палітаддзелаў МТС, старшынь РВК і дырэктароў МТС забяспечыць сканчэнне церабленьня лёну і канапель у кожным паасобным калгасе ў максімальна сціслыя тэрміны (8—10 дзён), а для селекцыйнага разрэджанага лёну 5—7 дзён і ў выпадку няроўнамернага паспявання—праводзіць выбарачную ўборку, не чакаючы спеласці лёну на ўсім участку, прычым церабленне селекцыйнага разрэджанага лёну праводзіць выключна ручным спосабам.

Адказнасць за своечасовы пачатак і сканчэнне ўборкі і вызначэнне спеласці лёну, пасконі, канапель-мацеркі ўскласці ў калгасах на старшынь калгасаў і іх намеснікаў па лёну і каноплях; у брыгадзе-ж—на брыгадзіра. Па аднаасобнаму сектару—на членаў сельсовета і агра-ўпаўнаважаных.

3. Прапанаваць РК, РВК, палітаддзелам і дырэктарам МТС распрацаваць календарныя тэрміны вышэй пералічаных работ для паасобных сельсоветаў і калгасаў, выходзячы з тэрмінаў пасеву і паспявання лёну і канапель.

Улічваючы першыя сігналы з уборачнай, ЦК і СНК абавязваюць РК і РВК прыняць неадкладныя меры да спынення шкодніцкіх спроб адкласці церабленне лёну да сканчэння ўборкі зерневых.

Намеціць календарны план работ уборачных і апрацовачных сельска-гаспадарчых машын, асабліва шырокаахватных ільнацерабілак, забяспечыўшы поўную нагрузку і 2-х зменную работу ўборачных машын, замацаваўшы за кожнай машынай падрыхтаваных работнікаў і адказнага за спраўнае становішча машыны і поўнае выкананне норм задання.

Устанавіць на ўвесь час уборкі наступную мінімальную нагрузку:

| | |
|---|---|
| Ільнацерабілка «Комсамолка» | 15 га. |
| Шыроказахватная ільнацерабілка «ВНІЛ—5» | 70 га. |
| Малатарня «Эддзі» | 40 га. |
| «Гільштэйн» | 80 га. |
| Малатарня Тітова | 60 га |

Папярэдзіць, што за становішча ўборачных і апрацовачных сельска-гаспадарчых машын і іх поўнае скарыстанне адказваюць персанальна дырэктары МТС, а па калгасах не ў зоне МТС—нач. райза.

**4.** У мэтах недапушчэння страт пры ўборцы абавязкова ў кожнай ільнацерабілцы прыстасаваць галоўкаўлавіцелі. Абавязаць райза, МТС і праўленні калгасаў устанавіць дасканалы кантроль за якасцю цераблення, рашуча прасякаючы пры ручной уборцы церабленне разам з ільном і канаплямі пустазелля, ломку і спутванне сцяблоў лёну і канапель, адрыванне галовак і астаўленне нявыцерабленага лёну і канапель.

**5.** Да пачатку ўборкі абавязкова вылучыць для машыннага церабле́ння лепшыя ўчасткі лёну з больш роўнай паверхнасцю глебы, з непалёгшым, менш засмечаным, роўным па росту ільном.

**Пры ручным і машынным церабленні на кожным паасобку ўчастку абавязкова праводзіць сартаванне лёну і канапель па даўжыні, колеру,** вылучаючы папсаваны лён і каноплі з грыбнымі і іншымі хваробамі, ні ў якім разе не дапускаючы змешвання адсартаваных партый лёну і канапель пры наступных працэсах уборкі і апрацоўкі.

**Двайное церабленне лёну пры ручной апрацоўцы лічыць абавязковым.**

**6.** Сушку лёну і канапель праводзіць у конусах і шатрах, забяспечыўшы нармальную прасушку іх на працягу 5 дзён, **пры неспрыяючым надвор'і дапускаць ачос непрасушанага лёну** (за выключэннем селекцыйнага разрэджанага) з абавязковым далейшым прасушваннем галовак лёну і канапель у крытых сухіх памяшканнях.

Селекцыйны лён разрэджанага пасеву, пры ўмове дрэннага надвор'я, звозіць для канчатковай прасушкі ў крытыя памяшканні.

Для ачосу і абмалоту насення лёну абавязкова поўнасцю выкарыстаць усю наяўнасць малатарань Эддзі і машын Гільштэйна, а для абмалоту канапель—малатарань Тітова.

Катэгарычна забараніць абмалот лёну на зернавых малатарнях, абразанне галовак лёну косамі і абмалот цяжкімі каменнымі каткамі.

Катэгарычна забараніць і прыцягваць вінаватых да суровай адказнасці за змешванне пры абмалоце, ачосе і захаванні насення розных гатункаў, катэгорый і якасці, астаўляючы для пасеўных мэт насенне з лепшых па якасці ўчасткаў лёну і канапель.

**7. Для забяспечання своечасовага ачосу ручным спосабам** вытерабленага лёну—абавязаць райза, дырэктароў МТС і праўленні калгасаў **арганізаваць неадкладна саматужны выраб грэбняў на месцах.**

**8.** Райза, МТС сельсоветам і праўленням калгасаў да пачатку церабле́ння вылучыць і падрыхтаваць спецыяльныя ўчасткі для рассцілу лёну, не дапускаючы ні ў якім разе рассцілу ільносаломы на тых участках, на якіх будзе праведзен пасеў лёну ў 1935 г., на забалочаных і іржавых лугах і на голым ворыве.

**Лён рассцілаць тонкім пластом і ў перыяд яго рассцілу яго трэба пераварочваць.**

У раёнах і калгасах, дзе праводзіцца мочка лёну, падрыхтаваць мачыльныя ямы і правесці ачыстку натуральных вадаёмаў для мочкі лёну, праводзячы таксама пабудову і падрыхтоўку неабходнай колькасці мачыльных ям і ачыстку натуральных вадаёмаў для замочкі канапель.

**Праводзіць перад рассцілам і замочкай абавязковае сартаванне саломы па даўжыні, колеру, па пашкоджанасці грыбнымі хваробамі і таўшчыні.**

Катэгарычна забараніць рассціл і замочку неабмалочаных лёну і канапель, а таксама астаўленне ільнянай і канаплянай саломы для позне-асенняга і веснавога рассцілу.

Катэгарычна абавязаць РК, РВК, старшынь сельсаветаў, старшынь калгасаў і брыгадзіраў **забяспечыць рассціл лёну не пазней, чым праз тыдзень пасля яго цераблення** і папярэдзіць, што вінаватыя ў псаванні лёну з-за несвоечасовага рассцілу або пад'ёму са сцелішчаў будуць прыцягвацца да стражэйшай адказнасці.

**9. Улічваючы, што момант пад'ёму са сцелішчаў з'яўляецца адказнейшым у барацьбе за якасць, устанавіць сістэматычны пільны нагляд і кантроль, асабліва ў апошнія дні,** за гатоўнасцю трасты на сцеліішчах і мачалах праз спецыяльных інспектароў па якасці, вылучаемых у калгасах з вопытных ільнозаводаў-канапляводаў, а ў аднаасобным сектары праз аграўпаўнаважаных шляхам штодзеннага ўзяцця проб, не дапускаючы ні ў якім выпадку пералежкі або недалежкі лёну і перамочкі або недамочкі канапель, шырока ўкараняючы пры мочцы лёну палепшаны, пскоўскі, спосаб.

Падобна цераблeнню, пад'ём лёну павінен праводзіцца выбарачным шляхам. **Пад'ём лёну са сцелішчаў павінен адбывацца незалежна ад надвор'я. Пры пад'ёме абавязкова праводзіць падсартаванне трасты.**

**10.** Скончыць рамонт усіх заводаў па пярвічнай апрацоўцы лёну к 15 верасня 1934 г., праверыць гатоўнасць заводаў да прыёмкі сырцу, а таксама арганізаваць загатоўку і падвоз да іх неабходнай колькасці сырцу. Забяспечыць заводы рабочай сілай для двухзменнай работы і арганізаваць на іх проціпажарную ахову

**11.** Абавязаць РК, РВК, МТС і райза закончыць пабудову і арганізацыю мяльна-сушыльных пунктаў, рамонт ёўняў, рамонт мяльна-трапальнага інвентара на працягу бліжэйшых дзён.

**12.** Абавязаць НКЗБ да пачатку апрацоўкі забяспечыць завоз выдзеленых па плану ільнамялак і трапальных агрэгатаў і вытворчасць і завоз у раёны трапальнага агрэгата Гарлачова, а таксама поўнае скарыстанне для абмалоту канапель малацілак Тітова.

**13.** На працягу дэкаднага тэрміну райза, МТС правесці падрыхтоўку кіраўнікоў мяльна-сушыльнымі пунктамі, спецыяльных сушыльшчыкаў, трапальшчыкаў ручной апрацоўкі і на трапальных агрэгатах.

Асаблівую ўвагу звярнуць на ахову лёну і канапель ад раскрадвання і арганізаваць на кожным пункце проціпажарную ахову на час сушкі і апрацоўкі лёну і канапель.

У мяцці лёну ЦК і СНК ставяць задачай аўладанне тэхнікай чыгуннай мялкі (рэгуліроўка яе, хуткасць абаротаў і т. д.), падрыхтоўку кадраў падавальшчыкаў, дыферэнцыяваны падыход да мяцця кожнай партыі лёну ў залежнасці ад яго таўшчыні; **недапушчэнне мяцця гарэлага лёну** і т. д.

Пры трапанні лёну асаблівая ўвага павінна быць звернута на: **1) трапанне толькі адляжаўшагася пасля мяцця лёну; 2) скарыстанне ільнатрапальнай машыны Гарлачова; 3) двайное трапанне (на-чарно і на-бела); 4) барацьбу са стратамі пры трапанні (не дапускаць вялікіх адыходаў); 5) дакладны бракераж вытворчага лёну. Устанавіць, што калгаснікам, працуючым па церабленню, абмалоту, рассцілу, пад'ёму, мяццю і тропцы лёну налічваецца па два працадні пры выкананні дзённай нормы.**

Улічваючы памылкі мінулых год, **калі нумар здаваемага лёну зніжаўся з-за адсутнасці сартоўкі,** абавязаць РК, РВК і старшынь сельсоветаў і калгасаў арганізаваць сартаванне **валакна і, у прыватнасці, звярнуць увагу на яго вязку. Ва ўсіх ільнаводчых калгасах павінны быць выдзелены сартавальшчыкі валакна.**

14. Абавязаць РК і РВК і палітаддзелы МТС прапрацаваць у кожным калгасе, брыгадзе, звяне даную пастанову і пастанову НКЗБ «Аб рабоце сталых брыгад у калгасах на час уборкі», звярнуўшы асаблівую ўвагу на павышэнне прадукцыйнасці працы, аплаты па колькасных і якасных паказчыках па ўсіх працэсах работ па лёну і канопліх і датэрміновай здачы прадукцыі лёну і канапель па кантрактацыйных дагаварах.

15. Прасачыць за тым, **каб хлеб,** атрымліваемы калгасамі за зданы па кантрактацыі лён, і лён, які астаўся ў калгасах пасля выканання плана здачы, **размяркоўваліся па працаднях паміж калгаснікамі, працаваўшымі на пасеве, уборцы, апрацоўцы і вывазцы лёну.**

16. Абавязаць начальнікаў райза, дырэктароў МТС і праўленні калгасаў арганізаваць дакладны ўлік працадзён, выпрацаваных калгаснікамі на ўсіх работах па лёну і канопліх, адзначаючы якасць работы, як асобнага калгасніка, так і ўсёй брыгады, звяна, для правільнага размеркавання хлеба і промтавараў, атрымліваемых за здаваемую дзяржаве прадукцыю лёну і канапель.

17. ЦК і СНК абавязваюць партыйныя і совецкія арганізацыі раёна ў кожнай брыгадзе, **звяне шырока ўкараніць індывідуальную здзельшчыну,** разгортваючы соцыялістычныя метады ў рабоце (соцспаборніцтва і ўдарніцтва), **вылучыўшы ў раёнах і калгасах спецыяльныя прэміяльныя фонды за лепшую ўборку** і апрацоўку лёну і канапель і за датэрміновую здачу ільнянай і канаплянай трасты, валакна, ільнянага і канаплянага насення дзяржаве.

Пры ўсіх працэсах работы павінны абавязкова прымаць удзел камісіі па якасці і за непрынятую работу працадні не налічваць.

З мэтай лепшага забяспечання правядзення агратэхнічных **правіл, рэкамендаваць у калгасах, якія маюць звыш 50 га пасеву лёну, вызваленых намеснікаў па ільну, а ва ўсіх астатніх калгасах і брыгадах павінны быць выдзелены намеснікі па ільну, атрымліваючыя ад 10 да 30 працадзён за сваю работу па нагляду за ільном і арганізацыю апрацоўкі лёну.**

18. Шырока прапрацаваць сярод калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў пастанову СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 11 сакавіка 1934 г. «Аб мерапрыемствах па развіццю канаплязоднай гаспадаркі», забяспечыўшы абавязковае прадстаўленне пастаўшчыкам канапель усіх ільгот і стымуляванняў, прадугледжаных гэтай пастановай.

Неабходна растлумачыць, што барацьба за высокаякасны лён і каноплі—гэта адзін з вастрэйшых участкаў класавай барацьбы ў вёсцы. «Ціхай сапай» пралязаючы ў ільназаводы, класавы вораг імкнецца на-

несці страту зацяжкай цераблення, несвоечасовым пад'ёмам са сцелішчаў, перасушкай лёну і т. д. **Рэволюцыйная пільнасць**—такава важнейшая ўмова поспеху барацьбы за высокаякасны лён і каноплі.

**19.** ЦК і СНК асабліва падкрэсліваюць набходнасць аперацыйнага штодзеннага кіраўніцтва ўборкай і апрацоўкай лёну і канапель у **аднаасобным сектары.** Абавязаць РВК і сельсоветы арганізаваць кароткатэрміновыя курсы для ўпаўнаважаных па дзесяцідворках і членаў сельсоветаў па агратэхніцы лёну і канапель і арганізаваць пункты сушкі і мяцця і т. д.

**20.** *У мэтах забяспечання калгасаў высокаякасным насеннем лёну для пасеву 1935 г. устанавіць, што;*

*а)* пры выкананні месячных планаў здачы ільнанасення па кантрактацыі калгасы засыпаюць у насенны фонд па ільну-кудрашу 15—20 проц., а па ільну-даўгунцу—30 проц. да абмалочанай колькасці насення;

б) праз 10—15 дзён па выкананні гадавога плана здачы ільнанасення па кантрактацыі кожны калгас абавязан закончыць засыпку насенных фондаў.

**21.** Рэдакцыям рэспубліканскіх, раённых і палітаддзельскіх газет арганізаваць сістэматычнае асвятленне ходу ўборкі і пярвічнай апрацоўкі лёну і канапель.

Арганізаваць чырвоную і чорную дошкі і ганаровы спіс перадавых брыгад калгасаў, сельсоветаў, раёнаў.

Улічваючы, што пераважная частка раённага і сельскага актыва не авалодала агратэхнікай лёну і канапель, ЦК і СНК **абавязваюць райкомы і РВК арганізаваць кароткатэрміновыя курсы па ільну і каноплях для ўсіх кіруючых работнікаў раёна і вёскі.**

**22.** ЦК і СНК абавязваюць НКЗБ і Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі забяспечыць масавы выпуск агратэхнічнай інструкцыі па ільну і каноплях.

**23.** Сельгасаддзелу ЦК устанавіць сталы кантроль за выкананнем гэтай пастановы.

Сакратар ЦК КП(б)Б **Гікало**

Старшыня СНК БССР **Галадзед.**

Галоўлітбел №А 5040.
Тыраж 10385
302.720 друк. зн. (5½ арк.)
Здана ў набор 19/VIII
Падпісана да друку 27/VIII—34 г.
Набрана на лін. № 6
Адк. кар. друк. *А. Мацкевіч*

*Рэдкалегія*: Мінкін (адк. рэдактар), Конік, Злоткін

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1136.